№6 (969) 7 чэрвеня 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# Дайце дзецям выспацца?

## Рашэнне перавесці пачатак заняткаў на 9.00 выклікала бурныя абмеркаванні



На пратакольных цырымоніях падчас дзяржаўнага візіту ў Кітай Аляксандра Лукашэнку суправаджаў сын. «Кітайскі лідар, які ўжо сустракаўся з Мікалаем, зрабіў характэрны жэст рукой, які азначае, што хлопчык вырас. Мікалай падарыў першай лэдзі шкатулку, якую дастаў са скрыначкі. Жонка кітайскага лідара пацалавала хлопчыка ў абедзве шчакі», — паведамлялі расійскія журналісты, прысутныя на цырымоніі.
Прыгажуня-жонка кіраўніка Кітая Сі Цзіньпіня — вядомая ў Кітаі спявачка.

Аляксандр Лукашэнка 12 мая даручыў перагледзець графік работы агульнаадукацыйных школ. На яго думку, заняткі павінны пачынацца а 9-й раніцы.

«Наша Ніва» пацікавілася ў педагогаў, што яшчэ трэба мяняць у беларускіх школах.

**Яўген Лівянт**, былы настаўнік матэматыкі і фізікі, прафесійны рэпетытар:

«Графік працы школ — гэта, на мой погляд, не галоўная праблема нашай сістэмы адукацыі. У нас сістэмны крызіс у гэтай сферы. І ёсць праблемы больш істотныя, якія даўно трэба вырашаць.

Напрыклад, трэба падымаць сацыяльны статус настаўнікаў. Плюс пазбавіцца ад жудаснай бюракратызацыі настаўніцкай працы. Адукацыя — жудасна перагружаная паперамі галіна, шалёны дакументаабарот не ідзе на карысць, а амаль паралізуе працу школ.

Таксама трэба мяняць навучальныя праграмы і, адпаведна, падручнікі. Праграмы, па якіх вучацца дзеці, не адпавядаюць сучаснаму жыццю, яны перагружаныя другаснай інфармацыяй, яны нелагічныя, не адаптаваныя да ўзросту вучняў, праграмы па розных прадметах не звязаныя паміж сабою... Яны крытычна кепскія.

Да таго ж, нашы вучэбныя праграмы ніяк не карэлююць з праграмамі нашых суседзяў: Польшчы, Расіі. Надта асабісты шлях у адукацыі ў нас атрымліваецца чамусьці!

Што ж тычыцца менавіта графіка — то гэтае пытанне ў першую чаргу павінна абмяркоўвацца з грамадствам, а не рабіцца па загадзе зверху. Бо што рабіць, напрыклад, бацькам, якім трэба ехаць на працу а восьмай раніцы? Што ім рабіць з дзецьмі?»

**Уладзімір Колас**, дырэктар Коласаўскага ліцэя:

«Адукацыі патрэбныя рэформы, якія будуць падрыхтаваныя кампетэнтнымі людзьмі, якія будуць абмяркоўвацца грамадствам, а не проста змена графіка на гадзіну.

Напрыклад, абавязкова павінна быць дыферэнцыяцыя адукацыі: каб вучань у гады перад выпускам мог абіраць патрэбны кірунак, дысцыпліны, якія яму патрэбныя і якія ён будзе паглыблена вывучаць. Моўнае пытанне, ізноў жа. Набліжэнне нашай адукацыі да еўрапейскай... І вынік адукацыі — каго вы хочаце бачыць па выхадзе з навучальнай установы? Чалавека са сцёртай ідэнтычнасцю «саюзнай дзяржавы» ці жыхара еўрапейскай краіны пад назвай Беларусь?

А тут ідуць іншым шляхам. У ідэале было б добра, каб графік наведвання школы ўвогуле быў індывідуальным для кожнага. Але тое ўтопія, да якой, можа, і не варта імкнуцца. А так мы бачым, як адзін чалавек пад свайго сына будуе ўсю сістэму адукацыі. Гэта не зусім правільна. Можна вырашыць усё прасцей: проста перавесці аднаго вядомага вучня на індывідуальнае хатняе навучанне, і на здароўе? Навошта мучыць усю краіну?»

**Мінскія педагогі знайшлі спосаб абысці загад аб пачатку заняткаў а 9-й...**

Старонка 3.

**Мікалай Лукашэнка запярэчыў бацьку: «Ты не тое робіш, не трэба ў 9 гадзін»**

Старонка 3.

### Апытанне на nn.by

**Ці падтрымліваеце вы перавод пачатку заняткаў у школах на 9.00?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 391 | 12% |
| Не | 1935 | 59% |
| Трэба, каб самі школы вырашалі | 942 | 29% |

**Справа патрыётаў**

Старонка 4.

**Таццяна Караткевіч развялася з мужам**

Старонка 5.

**Як выжывае андрагін у віцебскай вёсцы**

Старонка 16.

**Беларусы на службе ЦРУ: Кастусь Мярляк**

Старонка 18.

**Чужая ў Гомелі**

Старонка 20.

### Ад рэдактара

Кажуць, было прароцтва, што Беларусь у XXI стагоддзі чакае вялікае абуджэнне, пасля якога наша краіна стане адной з перадавых у свеце. Калі я чытаў гісторыі людзей у сённяшнім нумары «НН», я пра гэта ўзгадаў.

Праграміст Андрэй Камароў у Мінску пайшоў на эксперымент і стварыў беларускамоўную кампанію. Цяпер у «Тэрасофце» робіць 13 чалавек. Яны займаюцца распрацоўкай і тэставаннем праграм для аптычнай мікраскапіі. Цяжка ўявіць сабе лепшую эканамічную і сацыяльную мадэль — **старонка 10**.

Выкладчыца Алена Галамазава прыдумала, як падтрымаць пенсіянераў, што жывуць з дач **(старонка 15)**.

Праграміст Павел Шут і піяр-менеджарка Адар'я Яцэвіч зладзілі сабе такое вяселле, якое можна паказваць у кіно **(старонка 24)**.

Футбаліст «Лідса», які страціў нагу, аб'ехаў 45 краін, а знайшоў шчасце ў Беларусі **(старонка 12)**.

І нават капітан АМАПа пра свой жыццёвы паварот не шкадуе **(старонка 8)**.

Праўда, усё гэта робіцца ў Мінску і вакол Мінска, а ў правінцыі, асабліва на сяле — запусценне, нуда. Гэта так прабіваецца праз асабісты дзённік Алены Германовіч з Гомеля **(старонка 20)**. А людзі ў Зембіне вымушаны біцца за элементарнае — электрычнасць на вуліцах (ліст у рэдакцыю, **старонка 6**). І святы чалавек Ада Райчонак, калі яна робіць, што можа, для сваіх Германавічаў, што каля Шаркаўшчыны **(старонка 22)**.

Дай бог, каб сталіца заразіла сваёй энергіяй, сваім агнём усю Беларусь, каб спраўдзілася прароцтва.



# Моўная катастрофа: за 10 гадоў колькасць беларускамоўных школьнікаў скарацілася ўдвая



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У гэтым навучальным годзе 128 600 беларускім дзецям прадметы выкладаліся па-беларуску. 13,3% ад агульнай колькасці школьнікаў — найніжэйшая лічба за ўсе гады.

Гэта свежыя дадзеныя Белстата, апублікаваныя ў адпаведным статыстычным даведніку.

Паглядзіце, як год за годам русіфікацыя паўзе па сістэме адукацыі. За апошнія 10 гадоў колькасць беларускамоўных вучняў зменшылася са 246 да 129 тысяч чалавек.

**Колькасць школьнікаў па мове навучання ў 2016/2017**
Руская мова — 838 400 вучняў (86,6%)
Беларуская мова — 128 600 вучняў (13,3%)
Польская і літоўская мова — 900 вучняў (0,1%)

**Колькасць школьнікаў па мове навучання ў 2011/2012**
Руская мова — 752 300 вучняў (82,1%)
Беларуская мова — 163 400 вучняў (17,8%)
Польская і літоўская мова — 800 вучняў (0,1%)

**Колькасць школьнікаў па мове навучання ў 2006/2007**
Руская мова — 898 600 вучняў (78,5%)
Беларуская мова — 245 900 вучняў (21,5%)
Польская і літоўская мова — 700 вучняў (менш за 0,05%).

Калі глядзець на сітуацыю па рэгіёнах, то ў Мінску яна выглядае катастрафічнай — па-беларуску навучаецца 1,8% дзяцей.

Станоўчая тэндэнцыя зафіксаваная толькі на Віцебшчыне (за год колькасць беларускамоўных вучняў вырасла з 11,3% да 11,6%) і Гомельшчыне (з 12,1% да 12,4%). Гэта першыя выпадкі такога кшталту пачынаючы ад 2010 года.

Пры канцы савецкага часу, у 1988 годзе, доля беларускамоўных школьнікаў складала 22%. Гэта быў вынік савецкай русіфікацыі, якая вялася пачынаючы з 1960-х, калі на рускую мову сталі масава пераводзіць гарадскія школы. Нацыянальнае адраджэнне пачатку 1990-х дало рэзкі рост долі беларускамоўных школьнікаў, але Аляксандр Лукашэнка зноў пачаў пераводзіць адукацыю на рускую мову. Пры ім былі згорнутыя ўсе беларускамоўныя плыні ВНУ, не засталося ніводнага беларускамоўнага міністра ці генерала. У выніку за перыяд з 1995 да 2006 года доля беларускамоўных школьнікаў вярнулася на ўзровень канца 1980-х, а за наступныя 10 гадоў скарацілася яшчэ ўдвая.

**Ягор Марціновіч**

**Колькасць абітурыентаў, якія абралі на ЦТ беларускую мову, вырасла на рэкордныя 28%**

Дырэктар Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў Мікалай Фяськоў назваў колькасць абітурыентаў, якія запісаліся на цэнтралізаванае тэставанне па тым ці іншым прадмеце.

Агулам зарэгістраваліся 92 274 чалавекі. Гэта на 8500 чалавек менш, чым летась. Але з улікам таго, што цяпер кожнаму дазволена здаваць па чатыры прадметы, колькасць тэстаў, якія будуць здаваць абітурыенты, павялічылася.

На беларускую мову зарэгістраваліся амаль 28,5 тысячы чалавек (летась было 22,3 тысячы чалавек). Рост склаў 28% — гэта рэкорд сярод прадметаў.

На рускую мову запісаліся 75,4 тысячы абітурыентаў (было 78 тысяч).

Услед па папулярнасці ідуць матэматыка (51,5 тысячы чалавек), фізіка (больш за 30 тысяч), а таксама біялогія і англійская мова — па 29 тысяч чалавек.

**Падзякі**

Дзякуем чытачам-фундатарам «Нашай Нівы» — асабліва А.Ляшкевічу, В.Дудараву, Aliaksieju, Маркаўцу, а таксама А.Піліпенка, С.Елісееву, Аляксандру Т., Пінчуку,І.Маркелавай, Сяргею Ш., П.Петруку, А.Дарэўскаму, А.Вашкевічу, В.Кіпрыяновічу, Я.Чыгіру, VZh, Вацюку, А.Кебецу, В.Кіпрыяновічу, Р.Патапчуку,Максіму Цылько, А.Вашкевічу, А.Неберsuccу, Л.Кузняцовай, Сяргею Ш., А.Рыбачонку, А.Вашкевічу, Спадару Арлу, Максімовічу, Алесю з Горадні, Аляксандру Т., П.Н., DK, Ю.Ю., за грошы, дасланыя праз сістэму АРІП.

### Прыватныя абвесткі

**Віншую сям'ю Аляксандра і Аксаны Галоўчанка** з нараджэннем дзіўнай дачушкі-прыгажуні Валерыі! Павел

**Выказваем спачуванні Алесю Аркушу** з прычыны смерці маці. Трымайцеся, мы з вамі. Сябры



**Кацярынка. Выхаваная, спакойная, у меру цікаўная. Здаровенькая і стэрылізаваная.**
З Кацяй вы не будзеце мець патрэбу ў асабістым масажысце: рэгулярны масаж перад сном дзвюма мяккімі лапкамі гарантаваны!
З Кацяй вы не будзеце перайманца за свае кветкі, свой крышталь і сваю ежу на стале: нашая арыстакратка ведае этыкет і разумее, што хадзіць лапкамі па сталах — дрэнны тон, а есці кветкі ў гаршках — зусім ужо не камільфо!
Каця з павагай ставіцца да асабістай прасторы і ніколі не стане перашкаджаць, калі вы занятыя сваімі пільнымі справамі.
Каця ўмее падаваць лапку, мурчэць, як маленькі трактарчык, і ўцісквацца ў свайго чалавека ўсім целам, каб паказаць сваё каханне.
(025) 790-98-09 Дар'я, (029) 648-68-16 Вольга



**Яўген Афнагель прадае незвычайных шчанят.** Гэтыя аляскінскія маламуты — адзіныя ў Беларусі, якія нарадзіліся падчас перапатрусу.
У Яўгена Афнагеля ўвечары 22 сакавіка перад Днём Волі пачаўсяператрус, падчас якога яго сабака нарадзіла. У выніку на свет з'явіліся вельмі мілыя і жвавыя шчаняты, якія нічога і нікога не баяцца.
Аляскінскія маламуты — вельмі добрыя сабакі, якія падораць вам мора любові і адданасці.
Прадаюцца тры дзяўчынкі (500 р.) і трое хлопчыкаў (550 р.). Па ўсіх пытаннях тэлефанаваць(029) 574-78-27.

### Самае чытанае на nn.by за май

1 Пяць фактаў пра гурт Navi
2 У інтэрнэце з'явілася база для пошуку прадкаў: 47 тысяч населеных пунктаў і больш за 300 тысяч прозвішчаў
3 Як выжывае хлопец андрагіннай знешнасці, які трапіў па размеркаванні ў вёску
4 Футбаліст «Лідса», які страціў нагу, аб'ехаў 45 краін і знайшоў шчасце ў Беларусі
5 Моцныя абвінавачванні гучаць у асяродку «Хартыі-97»
6 Якія краіны галасавалі за Navi — гледачы і журы
7 Некалькі сцэнь дэманстрантаў прайшлі Маршам салідарнасці па цэнтры Мінска ФОТЫ, ВІДЭА
8 Расійскае НТВ брудна высмеяла гуманітарную дапамогу Беларусі жыхарам Украіны ВІДЭА
9 У мінскай гімназіі №4 з незадаволеных ляцяць галовы, бацькі пратэстуюць супраць русіфікацыі
10 «Працэй перавесці аднаго вядомага вучня на хатняе навучанне» — настаўнікі адказваюць Лукашэнку

# Барані сваё ў правільным адзенні

**цяпер любы ахвотны можа набыць фірмовы світшот ад «Нашай Нівы»**



Лета распачынаецца, і «Наша Ніва» дорыць сваім чытачам магчымасць сустрэць яго ў абноўцы — модным дызайнерскім світшоце з арыгінальным прынтам «Барані сваё» ад нашага фатографа-крыэйтара Сяргея Гудзіліна.

Байку ці світшот можа атрымаць кожны ахвотны, толькі папярэдне трэба паведаміць вашыя пажаданні і антрапаметрычныя параметры, каб мы маглі пераканацца, ці ёсць менавіта такі швэдар: колер (абіраць можна з чорнага і шэрага), памер (S, M, L, XL), мадэль (жаночая ці мужчынская). Дасылайце вашыя заяўкі на рэдакцыйную пошту nn@nn.by. Вялікая просьба: указвайце ў тэме ліста кодавую фразу «Барані сваё», каб нам было прасцей адсочваць вашыя звароты.

Цана аднаго світшота — 50 рублёў.

## Мікалай Лукашэнка запярэчыў бацьку: «Ты не тое робіш, не трэба ў 9 гадзін»

Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з навучэнцамі «Моладзь. Погляд у будучыню» распавёў пра вучобу свайго малодшага сына Мікалая, перадае БелТА.

Па яго словах, адным з любімых школьных прадметаў яго сына з'яўляецца гісторыя. «І не таму, што я гісторык. А таму, што ў яго склад розуму гуманітарны», — сказаў ён.

«Калі вы думаеце, што ён у мяне там асаблівае дзіця, нічога падобнага. Як усе. У сем пад'ём, у восем — на занятках, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Звычайная школа, звычайны вучань. Так, усе разумеюць, што гэта сын прэзідэнта. Але, дзякуй богу, ён не любіць, калі на яго больш звяртаюць увагі, чым гэта трэба».

Гаворачы пра школьныя заняткі, кіраўнік дзяржавы выказаў меркаванне, што не варта перагружаць вучняў вялікай колькасцю ўрокаў і занадта складаным матэрыялам, роўна як і празмерным аб'ёмам хатняга задання. «Інакш атрымаем зваротную рэакцыю. Асабліва калі дзеці не разумеюць складанасць матэрыялу», — адзначыў ён.

Аляксандр Лукашэнка таксама распавёў пра рэакцыю Мікалая на ініцыятыву аб пераносе пачатку ўрокаў у школах на 9 гадзін: «Раніцай адно меркаванне я ўжо атрымаў: ты не тое робіш, не трэба ў 9 гадзін. Як бацькі дзяцей павязуць? Гэта ж не сын прэзідэнта едзе».

Як паведамлялася, раней кіраўнік дзяржавы заявіў, што ў пытанні пачатку навучальных заняткаў у школах галоўным павінна быць здароўе дзяцей. «Мы павінны вызначыцца, чаго мы ад гэтага (пераносу пачатку навучальных заняткаў) хочам. Я казаў пра здароўе дзяцей, пра іх нармальнае самаадчуванне на ўроку. Для таго, каб чалавек засвойваў матэрыял, ён павінен добра сябе адчуваць. Таму мне здаецца, што тут мэта — здароўе дзяцей і здольнасць засвойваць матэрыял», — заявіў ён.

## Мінскія педагогі знайшлі спосаб абысці загад аб пачатку заняткаў а 9-й

Сталічныя школы знайшлі спосаб абысці загад аб пачатку заняткаў а 9-й гадзіне. Як стала вядома «Нашай Ніве», заняткі ў наступным навучальным годзе афіцыйна будуць пачынацца а 9-й, але ад 8.00 ці 8.15 у раскладзе будуць стаяць факультатывы.

Як вядома, праграмы і колькасць навучальных гадзін на іх вывучэнне цяпер такія, што без факультатываў нармальнае засваенне ведаў па асноўных прадметах немагчымае. Акрамя таго, сістэма аплаты працы педагогаў такая, што факультатывы неабходныя, каб заробак быў вышэйшы. Фармальна наведванне факультатываў свабоднае, але фактычна ў большасці гарадскіх устаноў адукацыі гэта звычайныя заняткі.

Як расказалі «Нашай Ніве» ў дзвюх мінскіх і дзвюх брэсцкіх школах, апытанне бацькоў паказала, што абсалютная большасць іх — ад 80 да 95%, у залежнасці ад установы — катэгарычна нязгодная з пераносам пачатку заняткаў на 9.00, хоць бы з той прычыны, што працоўны дзень у бацькоў пачынаецца раней.

Негатыўна паставіліся да новаўвядзення і апытаныя намі педагогі: на іх думку, гэта прыклад валюнтарызму некампетэнтных людзей. Варыянт з ранішнімі факультатывамі дазваляе, каб былі і ваўкі сытыя, і авечкі цэлыя.

Мінадукацыі ўжо адрапартавала, што 82% школ будуць пачынаць заняткі з 1 верасня ў 9:00, а ад 8.30 будуць працаваць толькі тыя ўстановы, дзе дзеці вучацца ў дзве змены.

**Сяргей Гезгала**

# «Няма крытычнага супрацьстаяння поглядаў». Топ-вядучы БТ Дзмітрый Бачкоў раптоўна сыходзіць з тэлеканала

У панядзелкавы эфір «Беларусь-1» без тлумачэння прычын не выйшла заяўленае ток-шоу «Форум з Дзмітрыем Бачковым». Гэта адна з нямногіх праграм, у назву якой было ўключанае імя вядучага. Апроч таго, Бачкоў быў вядучым «Панарамы» і «Галоўнага эфіру».

Што ж адбылося?

Як высветлілася, тэлевядучы сыходзіць з БТ. «Я яшчэ канчаткова не сышоў, але ў працэсе, — патлумачыў «Беларускаму партызану» Дзмітрый Бачкоў. — Надышоў час нешта змяніць».

Па словах вядучага, ён мае не толькі беларускія прапановы далейшай працы.

«Ёсць цэлы набор розных фактараў, якія ў сукупнасці і прывялі да майго сыходу. Але разбіраць кожны з іх я зараз публічна не гатовы. Няма крытычнага супрацьстаяння поглядаў, глабальнага супрацьстаяння нейкага. У апошні час я ў палітычных праектах не быў задзейнічаны — больш займаўся сацыяльнымі справамі, вёў ток-шоу «Форум», а ў гэтую сферу, калі казаць аб цэнзуры, наогул ніхто асабліва не ўмешваецца», — расказаў Бачкоў.

На канкрэтнае пытанне, ці звязаны яго сыход са спецыфічнай інфармацыйнай палітыкай БТ, Бачкоў адказаў так: «Ускосна — можа быць, але напрамую — не».

Месца вядучага «Форуму» Бачкоў заняў у канцы 2012 года пасля нечаканага сыходу з канала Дзмітрыя Косціна.

А месца ў «Панараме» Бачкову дасталася пасля ад'езду ў Пецярбург Юрыя Кругліка.

**БЮ**



# «Справа патрыётаў»: пачалі выпускаць

Адзін за адным выходзяць на свабоду арыштаваныя па «справе патрыётаў». Гэта пацвярджае меркаванні экспертаў, што яна была прыдуманая толькі для таго, каб запалохаць людзей, якія пратэставалі супраць «дэкрэта аб дармаедах». Паводле нашых ацэнак, да канца лета ўсе арыштаваныя могуць выйсці на свабоду.

## Вызвалены Міхалькоў зноў працуе з дзецьмі



Ён вярнуўся да працы ў бабруйскім клубе «Спадарожнік», часткай якога ёсць вайскова-спартовы клуб «Патрыёт».

«31 мая ў нас была нарада ў гарадскім Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі, — сказала кіраўніца «Спадарожніка» Галіна Сіманава. — На нараду прыйшоў Мікалай, паведаміў нам, што здымаюць усе абвінавачванні з яго і сына Яна. Мы ўсе ўзрадаваліся, абдымалі яго, цалавалі. Ён падзякаваў за падтрымку, што не кінулі яго, сказаў, што рады вярнуцца да працы. А як мы яго кінем? Ён цудоўны педагог, мы ўсе чакалі яго вяртання, спадзяваліся на хутчэйшае сканчэнне гэтых раптоўных выпрабаванняў. Так што цяпер Мікола распачаў работу ў нашым клубе».

У чэрвені на базе «Спадарожніка» адкрываецца летні лагер «Эўрыка», цяпер рыхтуецца праграма заняткаў і экскурсій. Мікалай Міхалькоў таксама будзе заняты ў гэтай справе. Што тычыцца ляснога намётавага лагера «Брыганціна», дзе праходзілі летнія заняткі клуба «Патрыёт» і які Лукашэнка ахрысціў «лагерам баевікоў у лясах пад Асіповічамі», ён таксама дзейнічае. Цяпер супрацоўнікі занятыя папаўненнем тэхнічнай базы. І калі ў мінулыя гады сюды прыязджала па 20 падлеткаў, цяпер чакаецца 35.

«Ніводзін з «Патрыёта» не сышоў, — кажа Галіна Сіманава. — Усе хлопцы і дзяўчаты былі ўвесь час з намі на сувязі, усе чакалі вяртання свайго настаўніка».

Мікалай расказаў калегам, што пры вызваленні з СІЗА яго прывезлі на вакзал, набылі за 6 рублёў квіток і пасадзілі ў цягнік. Так ён апынуўся ў родным Бабруйску.

**ДН, svaboda.org**

## Шукаюць чалавека, які б патрымаў сабаку Сяргея Стрыбульскага



Сяржук Стрыбульскі, фігурант «справы патрыётаў», які зараз знаходзіцца ў СІЗА №1, пакінуў дома сабаку.

Мянушка сабакі — Айва, ёй 6 месяцаў, але родным з пэўных прычынаў цяжка яе ўтрымліваць.

Сябры Сяргея шукаюць добрага чалавека, які можа забраць Айву да сябе, абяцае яе даглядаць, каб сабака дачакаўся гаспадара.

Хто можа і хацеў бы дапамагчы, звяртайцеся, калі ласка, па тэлефоне: +375 29 604-29-70 (Анэля).

## Віктар Данілаў піша з няволі: «Пачаў чытаць «Дзікае паляванне». Гатычненька!»



Ад падазраваных у «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» са следчых ізалятараў даходзяць лісты.

«Прыходзіў адвакат. Распавёў, як справы нашы рухаюцца. Што адбываецца навокал. На жаль, няшмат інфармацыі я маю пра наваколныя. Калі ласка, падпішыце мяне на «Народную волю», «Нашу Ніву». Тэлевізара ў нас няма — і гэта вельмі радуе. Галава адпачывае. Але з інфармацыяй, канечне, цяжкавата».

«Пішуць шмат людзей, як я казаў, гэта цудоўна. Вельмі хачу верыць, што і астатнім хлопцам пішуць не менш. Пішыце ім».

«Дні цяпер крыху аднастайныя. Ад світанка да заходу. Пачаў чытаць «Дзікае паляванне...». Гатычненька, як зараз прынята казаць. Вельмі добра пайшло. Я нават спрабую сябе ў чытанні стрымліваць. Папершае, каб вочы адпачывалі, па-другое, каб расцягнуць задавальненне».

## Зімніцкі даслаў верш «Паўстанцам 1863—1864 гадоў»

Гісторык, супрацоўнік Гістарычнага музея Аляксандр Зімніцкі — адзін з арыштаваных па справе «Белага легіёна». Ён пераслаў з турмы сябрам свой стары верш «Паўстанцам 1863—1864 гадоў», які запісаў па памяці.

Жыццё прайшлі мы, спіны не згінаючы,
Ні перад кім, акром зямлі сваёй,
Што сілы нам дала і, воляй ап'яняючы,
Штурхнула нас да мары справядлівасці святой.

Але і мара засталася толькі мараю,
А смерць… Смерці плюнем мы ў твар,
Калі на эшафотах — не зламаныя! —
Павіснем прама, позірк упіваючы ў абшар.



### Адрасы і дні нараджэння затрыманых па «справе патрыётаў»



Андрэй Дундукоў з сынам.



Іван Кавальчук.



Алесь Яўдаха.

**Абрамаў Аляксей Анатольевіч**
Дзень народзінаў 17.08
220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

**Данілаў Віктар Канстанцінавіч**
Дзень народзінаў 04.05
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Дундукоў Андрэй Вячаслававіч**
Дзень народзінаў 27.07
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Зімніцкі Аляксандр Антонавіч**
Дзень народзінаў 11.12
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Кавальчук Іван Віктаравіч**
Дзень народзінаў 01.11
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Комлік-Ямацін Андрэй Ігаравіч**
Дзень народзінаў 16.03
220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

**Лазоўскі Мірaслаў Уладзіміравіч**
Дзень народзінаў 10.07
220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

**Мароз Віктар Генадзьевіч**
Дзень народзінаў 19.01
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Новік Дзмітрый Мікалаевіч**
Дзень народзінаў 27.05
220030, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

**Пашкевіч Цімур Віталевіч**
Дзень народзінаў у кастрычніку
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Румянцаў Уладзімір Сяргеевіч**
Дзень народзінаў 30.05
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Стрыбульскі Сяргей Сяргеевіч**
Дзень народзінаў 17.05
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

**Фёдараў Уладзімір Валер'евіч**
Дзень народзінаў 12.12
220050, Мінск, Галоўпаштамт, а/с 8

**Яўдаха Аляксандр Анатольевіч**
Дзень народзінаў 17.10
220030, Мінск, вул. Валадарскага, 2

# Чаму не звольнілі Віктара Лукашэнку?

Яшчэ ў снежні летась пачалася вялікая рэформа Адміністрацыі прэзідэнта. Колькасць работнікаў гэтай структуры павінна быць скарочаная на 30%.

Была ліквідаваная пасада аднаго з намеснікаў кіраўніка Адміністрацыі. Пад скарачэнне трапіў ідэолаг Ігар Бузоўскі. А яго функцыі перайшлі да прэс-сакратаркі Лукашэнкі Наталлі Эйсмант, а таксама першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі Максіма Рыжанкова.

Таксама карэннай рэформе падвергнуўся інстытут памочнікаў кіраўніка дзяржавы. Да 2017 года ў Лукашэнкі існаваў цэлы шраг памочнікаў, якія адказвалі за самыя розныя сферы: эканоміку, спорт, міжнародную палітыку, ідэалогію, бяспеку.

Цягам апошняга года большасць з іх змяніла месцы працы: памочнік па ідэалогіі Усевалад Янчэўскі ўзначаліў Парк высокіх тэхналогій, памочнік па спорце Максім Рыжанкоў пайшоў на павышэнне ў Адміністрацыю прэзідэнта, памочнікі па эканоміцы і міжнароднай палітыцы Кірыла Руды і Валерый Брылёў адпраўленыя пасламі ў Кітай і Сербію адпаведна.

Можна сказаць, што пасля гэтага дадзеныя пасады проста скасоўваліся. Яшчэ памочнікам з'яўляўся Мікалай Корбут, чалавек, які капае ў кампаніі з Лукашэнкам бульбу. Корбут захаваў сваю пасаду і ў новым наборы памочнікаў. Цяпер ягоная пасада гучыць як «памочнік па агульных пытаннях». Раней ён узначальваў канцылярыю прэзідэнта.

Цяпер зірнем на ўказ Лукашэнкі ад 13 лютага «Аб аптымізацыі Адміністрацыі прэзідэнта». У ёй ясна прапісаная структура Адміністрацыі. Пакінем убаку памочнікаў прэзідэнта па Мінску і абласцях, гэтыя адзінкі абсалютна ніяк не змяніліся ў параўнанні з мінулымі ўказамі.

Калі ва ўказе ад 6 чэрвеня 2013 «Аб некаторых пытаннях дзейнасці Адміністрацыі прэзідэнта» не была прапісаная колькасць памочнікаў прэзідэнта, то ў новым дакуменце яна дакладна рэгламентуецца. Цяпер у Лукашэнкі будзе трое памочнікаў. Імёны двух мы ўжо ведаем — гэта Мікалай Корбут і нядаўні прызначэнец Аляксандр Косінец.

Найбліжэйшым часам мусіць яшчэ з'явіцца памочнік, адказны за пытанні развіцця фінансава-крэдытнай сістэмы.

У гэты самы час звяртае на сябе ўвагу, што пасады не быў пазбаўлены яшчэ адзін з памочнікаў Лукашэнкі — па нацыянальнай бяспецы. Гэтае крэсла ад 2005 года займае старэйшы сын кіраўніка краіны — Віктар.

Чаму так? Гэта асаблівае стаўленне да сваяка? Не зусім так. Справа ў тым, што пасада памочніка па нацыянальнай бяспецы ўваходзіць у структуру не Адміністрацыі прэзідэнта, а Рады бяспекі.

Гэта павялося яшчэ з часоў Віктара Шэймана, гэта значыць з сярэдзіны 1990-х. Ягоная пасада нават так і гучала — «дзяржаўны сакратар Рады бяспекі, памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы». Пасля звальнення Шэймана тое самае вызначэнне перайшло спачатку да Урала Латыпава, а пасля — да Генадзя Нявыгласа.

І толькі ў 2005 годзе было вырашана падзяліць гэтыя працы паміж дзвюма асобамі. Атрымліваецца, што Віктар Лукашэнка — гэта першы поўнафарматны памочнік па нацыянальнай бяспецы без прывязкі да пасады ў Радзе бяспекі.

Тым не менш гэтую пасаду так і не ўвялі ў падначаленне Адміністрацыі прэзідэнта, яна застаецца структурнай адзінкай Рады бяспекі. Менавіта таму Віктара Лукашэнку не закранулі скарачэнні ўнутры Адміністрацыі.

**Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Таццяна Караткевіч развялася з мужам

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Таццяна Караткевіч расказала ў інтэрв'ю «Камсамольскай праўдзе», што ў пачатку 2017 года развялася з мужам.**

Шлюб з Віталём Караткевічам працягнуўся 16 гадоў. Таццяна пазнаёмілася з ім на семінары ў Вільні. Палітык расказвала, што яе муж працуе аўтаслесарам — збірае машыны хуткай дапамогі.

«Мы разышліся праз розныя погляды на каштоўнасныя моманты. Шлюб трымаецца на простых рэчах, якія вы любіце рабіць разам: камунікаваць, глядзець кіно, падарожнічаць. Наступіў момант, калі мы ў гэтым разышліся, — патлумачыла Караткевіч. — Мой выбар быў просты: калі адносіны не якасныя, не прыносяць бакам сапраўднага дабрабыту і ўзаемнага спакою, упэўненасці, не бачна перспектыў — іх трэба спыняць».



Караткевіч запэўнівае, што развод не звязаны з яе палітычнай кар'ерай. Яна засталася жыць з мамай і 13-гадовым сынам Елісеем.

«З былым мужам мы захавалі спакойныя адносіны, ён камунікуе з сынам, стараемся, каб для дзіцяці гэта быў мінімальны стрэс», — расказвае палітык.

Па словах Караткевіч, новых адносінаў у яе пакуль няма.


Таццяна, Віталь і Елісей.

# Наперад у мінулае: навошта Беларусі аўтазавод «Джылі»?

Піша Максім Маханькоў.

23 мая на адкрыцці Беларускага прамысловага форуму намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Уладзімір Сямашка паведаміў, што першую партыю аўтамабіляў на новым заводзе *Geely* пад Жодзінам збяруць ужо ў чэрвені. Чакаецца, што, калі завод выйдзе на поўную магутнасць, ён зможа выпрабляць да 60 тысяч аўтамабіляў штогод. А калі продажы будуць высокімі, то вытворчасць можа павялічыцца ажно да 120 тысяч аўтамабіляў.



Цяжка сумнявацца ў здольнасцях беларускай прамысловасці — выраблядь тавар у вялікай колькасці яна ўмее. Але ўзнікаюць іншыя пытанні. Які сэнс будаваць у 2017 годзе аўтазавод, калі ўжо ў найбліжэйшыя 10—15 гадоў увесь свет будзе пераходзіць на электрамабілі?

Відавочна, што свет стаіць на парозе велізарных зменаў у аўтамабілебудаванні. Выкрыстанне электрычных рухавікоў замест бензінавых і дызельных — ужо не сюжэт фантастычных фільмаў, а рэальнасць, якая грукаецца ў дзверы і якую нельга ігнараваць. Раней электрамабілі адсутнічалі ў масавай вытворчасці, таму што яны не маглі канкураваць з паліўнымі аўтамабілямі праз вялікую колькасць хібаў: акумулятары хутка выходзілі з ладу, мелі невялікую магутнасць і вялікі кошт, іх утылізацыя была складанай і неэкалагічнай, а для абслугоўвання вялікай колькасці машын было неабходна ствараць вялікую інфраструктуру. Але зараз гэтыя недахопы электрамабіляў становяцца неактуальнымі. Так, машыны з электрычным рухавіком пакуль яшчэ адносна дарагія, але эксперты з *Bloomberg* мяркуюць, што ўжо ў 2025 годзе электрамабілі будуць каштаваць менш за аўтамабілі на паліўных рухавіках. У *Renault* яшчэ больш аптымістычныя наконт будучыні электрааўтамабіляў. Яны мяркуюць, што цэннікі на звычайныя аўтамабілі і электрамабілі зраўняюцца ўжо ў пачатку 2020-х.

Будаваць у такіх абставінах новы аўтазавод — занадта сумнўная ідэя, якая супярэчыць апошнім тэндэнцыям. Гэта тое ж самае, што інвеставаць у пачатку 1990-х у масавую вытворчасць друкарскіх машынак. Чымсьці гэта нагадвае сумна вядомую сумесную дзяржаўную праграму «Саюзны тэлевізар» так званага «саюза Беларусі і Расіі». Калі вы памятаеце, то ў пачатку 2000-х у рамках гэтай праграмы Беларусь і Расія інвеставалі больш за $100 мільёнаў, каб адрадзіць вытворчасць тэлевізараў. Вялікая частка гэтых грошай пайшла на «адраджэнне» варонежскага завода па вытворчасці кінескопаў з электронна-прамянёвых трубак. Што было далей, вы ведаеце: дзяржаўныя грошы былі засвоеныя, але ў свеце на месца кінескопным тэлевізарам прыйшлі тэлевізары з вадкакрышталічным экранам, такім чынам дзяржава ўклала грошы фактычна ў тэхналогію ўчорашняга дня.

У большасці людзей электрамабілі асацыююцца выключна з кампаніяй «Тэсла», хаця навуковымі распрацоўкамі ў гэтым кірунку цяпер займаюцца ўсе буйныя аўтавытворцы. У авангардзе гэтых распрацовак стаяць прыватныя кампаніі. А дзяржава, у сваю чаргу, проста дапамагае стварыць юрыдычную базу, адбудоўваць спецыяльную інфраструктуру, а таксама субсідуе набыццё электрамабіляў. Але калі ўсе ключавыя рашэнні ў эканоміцы прымае дзяржава, відавочна, што ў такой дзяржаве ніколі не з'явіцца «Тэсла».

Калі адказныя за будаўніцтва завода «Белджы» кажуць пра 60 тысяч аўтамабіляў на год з перспектывай павелічэння вытворчасці да 120 тысяч, яны спадзяюцца на экспарт гэтай прадукцыі, бо беларускі рынак занадта маленькі для такіх аб'ёмаў. Наўрад ці гэтыя аўтамабілі будуць экспартавацца ў краіны Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. На 2015 год *Geely* экспартавала свае аўтамабілі ў наступныя краіны Еўропы: Беларусь, Украіна, Расія, Казахстан, Азербайджан і Турцыя. У іншых краінах Еўропы кітайскі аўтавытворца пакуль не мог канкураваць з іншымі даўно вядомымі вытворцамі.

Віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка спадзяецца, што «Джылі» будуць масава экспартавацца ў Расію. На адкрыцці Беларускага прамысловага форуму ён адзначыў: «Мне здаецца, што праект атрымаўся. Таму што калі я гляджу статыстыку па Расіі за 2014 год ці 2015, не памятаю дакладна, то там моцна ўпаў рынак усходніх і заходніх мадэляў — на 25—40%. А продажы фірмы *Geely* выраслі на 45%».

Але калі паглядзець на афіцыйныя лічбы *Geely*, якія ёсць у вольным доступе, сітуацыя крыху іншая. Вось як выглядаюць паказчыкі дзейнасці *Geely* па колькасці прададзеных аўтамабіляў у Расіі.

2008 — 3780
2009 — 7681
2010 — 1944
2011 — 6060
2012 — 17 566
2013 — 27 263
2014 — 18 828
2015 — 11 617

Дадзеных у вольным доступе за 2016 год яшчэ няма, але вядома, што летась *Geely* прадалі яшчэ менш аўтамабіляў у Расіі. Расійскі аўтарынак месяц за месяцам працягвае сваё падзенне, і дно гэтага падзення нават не адчуваецца. Як можна спадзявацца на рынак усходняга суседа ў такой сітуацыі — вялікая загадка.

Здаецца, на ўсіх узроўнях у нас дэкларуецца неабходнасць зніжэння эканамічнай залежнасці ад Расіі, але будаўніцтва вялікага аўтазавода не толькі не вырашае гэтую праблему, але толькі павялічвае залежнасць ад нашага ўсходняга суседа.

**Максім Маханькоў**

## Кватэры ў Мінску няспынна таннеюць тры месяцы запар

Індэкс цэнаў на другасным рынку сталічнай нерухомасці апусціўся да $1138 за метр, паводле падлікаў *Realt.by*. Гэта сума, за якую прадаўцы хочуць збыць сваё жыллё, рэальныя ўгоды заключаюцца яшчэ па меншых цэнах.

Кватэры таннеюць штотыдзень вось ужо тры месяцы запар. А ў цэлым падзенне пачалося ў кастрычніку 2016 года. За гэты час квадратны метр апусціўся з $1212 да $1138. У выніку сярэдняя двухпакаёўка патаннела на $3700.

Цэны ў залежнасці ад колькасці пакояў знаходзяцца на такім узроўні:

Аднапакаёўка: $46 900 за кватэру, $1 200 — за метр
Двухпакаёўка: $62 500, $1 148
Трохпакаёўка: $82 100, $1 094
Чатырохпакаёўка: $104 800, $1 065

Такі ўзровень цэнаў — найніжэйшы ад кастрычніка 2006 года.

## Па заробках Беларусь безнадзейна адстала ад Польшчы і прыбалтаў

Сярэдняя красавіцкая зарплата беларусаў павялічылася да 777 рублёў. Зарплатныя лідары — IT-спецыялісты — зарабляюць амаль у 5 разоў больш за сярэдні паказнік па краіне, а ў культуры — у 1,8 разу менш. *Tut.by* пaглядзеў, як заробкі беларусаў адрозніваюцца ад заробкаў у суседніх краінах.

У Расіі сярэдняя зарплата ў красавіку склала каля 1000 рублёў (усе сумы ў тэксце пададзеныя ў беларускіх рублях). Гэта на 6,7% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

Ва Украіне атрымлівалі ў красавіку ў сярэднім 470 рублёў. Гэта на 1,4% менш, чым у сакавіку. Больш за ўсіх атрымліваюць работнікі авіяцыйнай галіны (1810 рублёў), а менш за ўсіх — работнікі пошты і кур'еры (250 рублёў). Па рэгіёнах найвышэйшыя заробкі ў Кіеве — 770 рублёў.

Казахі ў сярэднім атрымлівалі ў красавіку 830 рублёў.

У Польшчы сярэдняя красавіцкая зарплата склала 2240 рублёў. Літоўцы ў сярэднім атрымліваюць 1710 рублёў да выплаты падаткаў. У Латвіі ў першым квартале сярэдні брута-заробак (да выплаты падаткаў) складзе 1850 рублёў на месяц. Гэта на 7,2% больш, чым у першым квартале мінулага года, сведчаць дадзеныя Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення. Сярэдні месячны брута-заробак павялічыўся ў Эстоніі ў першым квартале ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 5,7% — да 2410 рублёў у месяц.

**З пошты Рэдакцыі**

## Асвятленне вуліц у вёсцы адключаць не маюць права! Як мы дабіваемся ўключэння

На першы погляд, можа здацца, што я — «вечны скаржнік», якому ад няма чаго рабіць толькі і справы, як скаргі пісаць. Але я лічу так: закон можа не падабацца, але нават калі ты змагаешся супраць яго (закона), выконваць яго павінен, як і ўсе навокал — нягледзячы на рангі. І мне становіцца агідна і брыдка, калі я бачу, як усіх дзеляць на «людзей» і «быдла» альбо дазваляюць вольнасці з выкананнем законаў «сваім набліжаным» — у такім выпадку я кідаюся ў бойку, бо калі не я, то хто абароніць маю краіну ад гэтых «царкоў». У мяне ёсць ужо досвед: два гады мне спатрэбілася, каб Мінскі аблвыканкам адмяніў сваё ж незаконнае рашэнне — як чыноўнікі ні ўпіраліся, але я здолеў іх памылку.

Вось і тут — з 1 красавіка 2017 года ў нашым Зембіне (як потым высветлілася, і ў вёсках па ўсім раёне і нават вобласці) адключылі начное асвятленне вуліц. Зроблена гэта было па рашэнні сельскага савета дэпутатаў (вось гэта адзінства думак — па ўсёй вобласці дэпутаты разважаюць абсалютна аднолькава — ура! ура! ура!).

На самай справе, хутчэй за ўсё, аблвыканкам расфуфырыў выдзеленыя на асвятленне вуліц грошы (куды — справа дзяржкантролю і пракуратуры) і, каб не захісталіся крэслы пад пятай кропкай «вялікіх людзей», вырашыў паэканоміць.

Ніхто не спрачаецца: разумная эканомія не перашкодзіць ніколі, але чаму хадзіць навобмацак павінны жыхары вёскі?

Калі ўжо эканоміць, то талакою, усім разам. Зразумела, што цалкам адключыць асвятленне вуліц у Барысаве немагчыма, але на адну ноч на тыдзень плошчы і праз адзін ліхтар на некаторых вуліцах магчыма, і гэта дало б нашмат больш эканамічны эфект, а ў вясковай мясцовасці святло на вуліцах у будні можна ўключаць, напрыклад, так — з 22.00 да 23.30 і з 04.00 да світанку (калі даяркі і скотнікі ідуць на працу), у выхадныя святло патрэбна ўсю ноч — людзі маюць права хадзіць у госці альбо проста гуляць калі ім хочацца, а не толькі тады, калі дазволяць «дзядзькі і цёткі» з выканкамаў — у краіне надзвычайнай сітуацыі ніхто пакуль не абвяшчаў. І ўвогуле, калі ўзнікла неабходнасць у падобным рашэнні, чыноўнікі маглі б часова зняць самаўскладзеныя кароны і параіцца з людзьмі — як будзе лепей. (Разумею — фантастыка, але так і павінна быць, і ў гэтым выпадку так і хочацца закрычаць: «Ну, Аляксандр Рыгоравіч, і дзе сацыяльная справядлівасць, не згадваючы якой, вы не размаўляеце? Ці ў вас і вашых справядлівасць, а ў іншых толькі сацыяльная — у сэнсе «сацуха», як кажуць — тое, што засталося, аб'едкі ад справядлівасці?», але не пачуе, на жаль.)

А з гэтага моманту будзе цікава прасачыць за храналогіяй падзей.

10 красавіка — мой электронны зварот у Барысаўскі райвыканкам з пытаннем, чаму ў аг.Зембін адключана знешняе асвятленне і першая згадка пра парушэнне рашэннем сельсавета Пастановы Саўміна РБ «О мерах по внедрению системы государственных социальных стандартов по обслуживанию населения Республики», дзе ўказана, што асветленымі павінны быць не менш за 80% вуліц і 60% дарог з удасканаленым пакрыццём, а таксама пункта 7.4 Гігіенічных патрабаванняў да ўтрымання тэрыторый населеных пунктаў і арганізацый, зацверджаных Пастановай Мінздрава РБ ад 01.11.2011 г. №110 праз пункт 7.5.18 «…на пешеходных мостиках, автостоянках, пешеходных аллеях и дорогах, внутренних, служебно-хозяйственных и пожарных проездах, а также на улицах и дорогах сельских поселений частичное или полное отключение освещения в ночное время не допускается…».

05 мая — адказ райвыканкама на электронны зварот: (цытую) «…По существу Вашего электронного обращения, поступившего на официальный сайт Борисовского районного исполнительного комитета, сообщаем следующее.

Во исполнение Директивы Президента Республики Беларусь № 3 от 14 июня 2007 года «Экономия и бережливость — главные факторы экономической безопасности государства» и руководствуясь Законом Республики Беларусь от 4 января 2010 года № 108-З «О местном управлении и самоуправлении в Республике Беларусь», с целью экономии энергоресурсов Зембинским сельским исполнительным комитетом 23 марта 2017 года было принято решение № 30а об отключении наружного освещения в населенных пунктах сельсовета на период с 1 апреля 2017 года по 31 августа 2017 года. Но так как при экономии электроэнергии не выполняются государственные социальные стандарты, в аг. Зембин и в д. Корсаковичи уличное освещение будет включено с 1 мая 2017 года…» (канец цытаты).

Цікава, што адказ за 26 красавіка, падпісаны старшынёй раённага савета дэпутатаў і адпраўлены мне ў электронным выглядзе — у гэтым выпадку электронная пошта яшчэ горш за звычайную: ліст ішоў дзевяць дзён, тым больш што на час прыходу адказу, згодна з ім жа, у нашым аграгарадку ўжо чатыры дні гарыць святло на вуліцы. Як думкі — свецяць ці не? Ага, свецяць, але толькі Месяц, калі хмар няма! Ну, думаю, можа, на Дзень Перамогі адкралі.

10 мая — адказ райвыканкама на маю скаргу прадстаўніцы дзяржкантролю. Слова ў слова, з тымі ж знакамі прыпынку пра падставы рашэння сельсавета, але ўжо без абяцанняў пра святло…

**А.М.Мікалінскі,**
**Зембін Барысаўскага р-на**
**Мінскай вобл.**

# Куды ўладкаваліся дзеці сяброў Лукашэнкі?

Назіраючы за суботнікамі, касьбой ды і проста навінамі, якія тычацца кіраўніка краіны, можна акрэсліць прыкладнае кола блізкіх да Лукашэнкі людзей. Як правіла, гэта адныя і тыя ж паплечнікі: бізнэсоўцы, спартоўцы, чыноўнікі. Але ж чым жывуць ужо дарослыя дзеці набліжаных да прэзідэнта?



Аляксандр Шакуцін-малодшы.



На фота адразу дзве Вольгі Шэйман. Злева — дачка Віктара Шэймана, справа — жонка Сяргея Шэймана.



Канстанцін Захараў.

### Аляксандр Шакуцін

Адзін з найбагацейшых чальцоў прэзідэнцкай «зборнай па касьбе» Аляксандр Шакуцін — вядомы бізнэсовец, ён суўладальнік холдынга «Амкадор».

Сын бізнэсоўца, 32-гадовы Аляксандр Шакуцін-малодшы, скончыў юрыдычны факультэт БДУ і ўвайшоў у бацькаў бізнэс. Ён дырэктар «Спамаш Груп». Гэта яшчэ адзін холдынг, які займаецца дыстрыбуцыяй прамысловай тэхнікі.

Дарэчы, «Спамаш» — гэта не проста набор літар. Назва расшыфроўваецца як «Светлай памяці Машы Шакуцінай». Марыя Шакуціна — дачка бізнэсоўца, якая памерла ў 2000-я пры трагічных абставінах.

### Сяргей Цяцерын

Сяргей Цяцерын — былы тэніст, а сёння трэнер і бізнэсовец. Ён таксама не аднойчы быў заўважаны побач з Лукашэнкам: касіў траву, збіраў бульбу і кавуны, лятаў на зімовую Алімпіяду ў Сочы.

Тэніст Цяцерын сёння — дырэктар холдынга «БелГлобалСтарт». У холдынг уваходзіць некалькі кампаній, якія займаюцца продажам мэблі, харчавання, кармоў для жывёлагадоўлі, спецыяльнага спартовага харчавання.

У адной з такіх даччыных кампаній — «БелГлобалСтар» — працуе і дачка Сяргея. Таццяна Цяцерына займае пасаду дырэктара па камерцыйных пытаннях.

«БелГлобалСтар» валодае сеткай бараў *Blockbuster*, якія знаходзяцца ў мінскіх кінатэатрах. Дарэчы, кампанія займаецца вытворчасцю папкорну. Сярод актываў «БелГлобалСтар» — папулярны вінны бар «Свабоды, 4».

### Юрый Чыж

Юры Чыж, напэўна, сёння ўжо не ўваходзіць у кола прэзідэнцкіх сяброў. Але ж да затрымання бізнэсовец з'яўляўся адным з найбліжэйшых да Лукашэнкі людзей.

Старэйшаму сыну алігарха Сяргею — 28 гадоў. Сяргей Чыж адвучыўся ў Англіі. Спачатку скончыў універсітэт у Лондане, пасля была магістратура ў Оксфардзе.

Атрымаўшы адукацыю за мяжой, Сяргей вярнуўся ў Беларусь, дзе бацька ўзяў сына пад крыло. Сяргей працаваў намеснікам дырэктара ў сетцы гіпермаркетаў *ProStore*, затым дырэктарам кампаніі «Прастор Трэйд», якая кіруе пяццю гіпермаркетамі *Prostore* у Мінску.

Калі Чыж-старэйшы быў затрыманы, «Трайпл» узначаліў менавіта Сяргей.

З цягам часу Сяргей Чыж афіцыйна заняў пасаду дырэктара кампаніі. А вызвалены бацька ўзначаліў назіральную раду «Трайпла».

Другому сыну алігарха — 21 год. Уладзімір Чыж паступаў у БНТУ, але пасля пайшоў у войска. Служыў у Мар'інай Горцы. Цяпер Уладзімір вучыцца ў мінскім філіяле Расійскага дзяржаўнага сацыяльнага ўніверсітэта.

Дачка Таццяна, як і яе старэйшы брат Сяргей, атрымала выдатную адукацыю за мяжой — яна вучылася ў Швейцарыі, вывучала гатэльны і рэстаранны бізнэс.

Дачка Юрыя Чыжа працуе разам з маці ў элітным вэлнес-клубе EVO. Таццяна — першы намеснік дырэктара па сэрвісе.

### Уладзімір Канаплёў

Уладзімір Канаплёў — экс-памочнік Лукашэнкі, былы старшыня Палаты прадстаўнікоў. Акрамя таго — зямляк Лукашэнкі. Сёння ён узначальвае Беларускую федэрацыю гандбола.

Канаплёў мае дваіх сыноў. Старэйшы, Мікалай, скончыў факультэт міжнародных адносінаў БДУ, пасля вучыўся ў Пекінскім універсітэце, працаваў прадстаўніком Ганконгскай гандлёва-прамысловай кампаніі «Глэдзіс» у Пекіне. Быў алімпійскім аташэ беларускай дэлегацыі на пекінскіх гульнях 2008 года. Затым Мікалай Канаплёў, па словах бацькі, адкрыў свой бізнэс у Кітаі.



Мікалай Канаплёў.

Сёння Мікалай Канаплёў жыве ў Мінску. З 2014 года ён заняў пасаду дырэктара па знешнеэканамічным развіцці беларуска-брытанскага прадпрыемства «Эрыд-Гроў Прадакшн», якое займаецца вытворчасцю і продажам сродкаў для глебы, а таксама — тэхналогіямі азелянення пустыняў.

Акрамя таго, па непацверджанай інфармацыі, ён працягвае працаваць на кампанію, якая знаходзіцца ў Шанхаі.

Малодшы сын, Дзяніс, падаўся ў рэстаратары. Яму належылі *City cafe Boulevard* і *Pub Club Mixx*. Першы рэстаран ужо закрыўся, другі — працуе і па сёння, змяніўшы назву на *Wine & Whiskey Bar Mixx*.

### Міхаіл Захараў

Яшчэ адзін сябар прэзідэнта, былы хакеіст Міхаіл Захараў сёння працуе трэнерам сталічнага хакейнага клуба «Юнацтва». У памяці людзей ён застаўся не толькі дзякуючы хакейным дасягненням, але і гучнай аварыі на сваім «Бэнтлі» ў 2011 годзе.

Ягоны сын Канстанцін пайшоў па бацькавых слядах. Канстанцін — прафесійны хакеіст, пачынаў у «Юнацтве», пасля гуляў у Гомелі, у канадскай хакейнай лізе, у амерыканскай хакейнай лізе (другі па моцы дывізіён пасля НХЛ).

Затым былі мінскае «Дынама», казахскі «Іртыш», але пасля кола замкнулася — сёння 32-гадовы нападаючы гуляе ў бацькавым «Юнацтве».

Акрамя таго, у Захарава яшчэ двое дзяцей: двайняты Крысціна і Аляксандр нарадзіліся ў 1995 годзе. Прычым Аляксандр таксама займаўся хакеем, але ў зоркі не выбіўся.

Сёння Крысціна вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ і працуе менеджарам у мінскім івэнт-агенцтве *Burochaplin*. Таксама дзяўчына паспела засвяціцца на тэлеканале «Беларусь-5» Аляксандр жа — фігура абсалютна не публічная.

### Віктар Шэйман



Сяргей Шэйман.

Віктар Шэйман — вядомы лукашэнкаўскі паплечнік, які сёння працуе кіраўніком справаў прэзідэнта. У яго двое дзяцей.

Сын чыноўніка Сяргей нарадзіўся ў 1983 годзе. Скончыў прыватны Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут, атрымаў дыплом юрыста. Ужо ў 23 гады ён працаваў галоўным кантралёрам-рэвізорам Камітэта эканамічнага кантролю пры Мінскім аблвыканкаме. Акрамя таго, Сяргей Шэйман быў адным з арганізатараў канцэртаў «За Беларусь!». У прыватнасці, вырашаў пытанні аховы, кантактаваў з зоркамі, зацвярджаў праграмы канцэртаў.

Па непацверджанай інфармацыі, сёння Сяргей займаецца бізнэсам.

Сястра Сяргея Вольга нарадзілася ў 1989 годзе. Яна скончыла той жа інстытут, што і яе брат. Летась выйшла замуж.

Цяпер Вольга вучыцца ў ЗША, ва ўніверсітэце Каплан у штаце Аёва.

УШ



Сяргей Цяцерын, Коля Лукашэнка і кавуны.



Вясельнае фота Сяргея Чыжа і яго жонкі Паліны.

# Капітан мінскага АМАПа наведаў трэніроўку «Ваяра» і вылецеў з працы

Капітан мінскага АМАПа страціў працу. Ды яшчэ з воўчым білетам. Як так выйшла?

Гэтую гісторыю «Нашай Ніве» распавёў яго знаёмы, папрасіўшы не называць сапраўднае імя спецназаўца.

Кірыла — назавём яго так — служыў у мінскім АМАПе з 2011 года, быў камандзірам атрада і чакаў маёрскія пагоны. Ён разлічваў на перавод у Акадэмію МУС, дзе меўся выкладаць тактычную падрыхтоўку.

Чаму тактычную? У яго выпадку работа супала з хобі — Кірыла мае сваю страйкбольную каманду, цікавіцца вайсковай тэмай і ўдзельнічае ў спаборніцтвах.

Менавіта для такога «пашырэння кампетэнцыі» Кірыла вырашыў схадзіць на трэніроўку патрыятычнага клуба «Ваяр», заснаванага лідарам «маладафронтаўцаў» Зьмітром Дашкевічам.

«Яму цікавыя хардбол, страйкбол, у прынцыпе актыўны адпачынак, — расказвае знаёмы Кірылы. — Убачыў У Кантакце рэкламу, прыйшоў на трэніроўку, каб паглядзець, як і што ў іх арганізавана — што ўмеюць, які профіль. Ну а там звычайныя заняткі: тактыка, медыцына. Кірыл мо раз ці два туды схадзіў, ды ўсё. Бо далей ужо свае спаборніцтвы пачыналіся, трэба было рыхтавацца. У прынцыпе, хутка гэты момант жыццця забыўся.

Пасля гэтага прайшло нейкальki месяцаў — Кірыла ўжо падаў рапарт на перавод у акадэмію МУС, прайшоў тэсты на прафпрыдатнасць, правёў тэставыя заняткі.

Заставаўся юрыдычны момант — падпісанне рапарта аб пераводзе.

«У адзін з дзён яго разам з кіраўніцтвам выклікаюць да высокага кадравіка ў ГУУС. Па якім пытанні? Падумалі, што не хочуць адпускаць у Акадэмію, бо ў ведамстве пераводы са скрыпам праходзяць. А там адразу канкрэтнае пытанне: у апазіцыйных рухах удзельнічаеце? Кірыл нават не зразумеў адразу, пра што гаворка, адказаў, што не ўдзельнічае. А яму фота ў твар, дзе ён на трэніроўцы «Ваяра». За ранейшыя заслугі дазволілі напісаць «па ўласным жаданні», але той адмовіўся звальняцца — сказаў, што законаў не парушаў, у забароненых акцыях не ўдзельнічаў, органы не кампраметаваў», — расказвае крыніца.



Трэніроўка «Ваяра».

Пасля гэтага, маўляў, пачалося. Першыя дні нам апісалі як «тыдзень маральных прыніжэнняў»: збіраліся незапланаваныя афіцэрскія сходы, кіраўніцтва выступала перад асабовым складам, дзе даводзілася, што Кірыла здрадзіў службе.

Пасля матэрыялы на капітана перадалі ва Упраўленне ўласнай бяспекі, але тыя, прааналізаваўшы сітуацыю, нібыта развялі рукамі і нават не знайшлі, за што даць дысцыплінарнае спагнанне.

«Пасля гэтага Кірылу сказалі: «Працуйце далей». З такім намёкам, ведаеце... І цягам трох тыдняў ён атрымаў тры спагнанні. Дагэтуль, за пяць гадоў, іх не было ўвогуле! А тут раз — пераследаваў злачынцу, на маршрут прыехала праверка, яго няма — спагнанне. І далей, далей: праносы вучэбныя, тэставыя сітуацыі. Груба кажучы, пракол Кірылы пры такіх праверках быў толькі справай часу. Урэшце штосьці там пранеслі праз яго — накшталт выбуховай прылады, і гэта было аформлена як неналежнае выкананне абавязкаў з наступным звальненнем».

Праўда, Кірыл на момант прыняцця рашэння аб звальненні быў на бальнічным. У адзін з дзён ён паехаў у канцылярыю завярыць рапарт на адпачынак. Пры складанні рапарта на адпачынак чалавека мусяць адпусціць не раней за першы дзень пазначанага месяца і не пазней за апошні — такая працэдура. Але такія рапарты не рэгіструюцца, таму даказаць, што ты іх пісаў, бывае праблематычна.

«Ён прыехаў ва Уручча, яму кажуць: «Мы такое не рэгіструем, але, паміж намі, вы ўжо звольненыя. Пакіньце пасведчанне».

Кірыла адмовіўся, сказаўшы, што яго з такім загадам ніхто не азнаёміў, і ўвогуле — ён у адпачынку звальняць нельга. Ён вырашыў паехаць у ГУУС са сваім рапартам на адпачынак. У аўтобусе ўбачыў «таварышаў», зразумеў, да чаго ідзе. Тут яны і падыходзяць: маўляў, праедзем з намі. Куды? Да начальства. Кірыл дастаў пасведчанне, звярнуўся да людзей са словамі, што ён супрацоўнік міліцыі, а яго супраць яго жадання хочуць вывесці з аўтобуса. Папрасіў кантакты сведкаў, адна дзяўчына пагадзілася. Тыя ён сказалі, што Кірыла не выканаў загаду, таму яны мусяць даставіць яго да кіраўніцтва. Яны разам выйшлі, тут пад'ехаў службовы мікрааўтобус, выходзяць яшчэ двое, на той момант калегі капітана, і разам «заносяць» яго, у працэсе ўдарыўшы аб раму галавой. Прывезлі туды, адкуль ён выйшаў нядаўна. Там пад камеру зачыталі загад. Заламаўшы рукі, забралі пасведчанне і асабісты нумар. Пасля яны яшчэ мусілі ехаць у размяшчэнне часці, каб ён здаў форму, але Кірылу ад удару галавой стала кепска, з падазрэннем на чэрапна-мазгавую траўму яго забрала хуткая. Праўда, усё абышлося», — расказаў дэталі яго знаёмы.

Пасля Кірыла падаваў у суд на незаконныя дзеянні супрацоўнікаў АМАП і парушэнне працоўнага заканадаўства, але ўсе суды прайграў — дзяўчына-сведка ўрэшце дала тлумачальную запіску, што ён сеў у машыну па сваёй згодзе.

Сам Кірыла не стаў пацвярджаць ці абвяргаць гэтую інфармацыю, сказаў толькі, што «ў курсе ўсе — ад радавога да міністра».

Заснавальнік «Ваяра» Зміцер Дашкевіч сказаў «Нашай Ніве», што такога чалавека ён прыгадвае.

«Так, быў. Ён і не хаваў, што служыць. У яго яшчэ чырвона-зялёны сцяг вісеў у машыне, а з яго нехта з нашых пахіхікаў, маўляў, што за недарэчнасць? Чапляй белачырвона-белы. Той сказаў, што ён тут не для палітыкі. Пагядзеў, як у нас што арганізавана, і больш не было яго. Памятаю, толькі спытаў, які настрой у ягоных хлопцаў: калі сюды Пуцін прыйдзе, то яны за яго будуць ці за Лукашэнку? Ну ён падумаў і сказаў, што большасць усё ж будзе за Пуціна. Цікава, ці гэта Лукашэнка разумее? А што, звольнілі яго, вы кажаце... Прыкра», — сказаў Дашкевіч.

«Прыкра за чалавека, — сказаў нам і знаёмы звольненага з органаў унутраных спраў. — З нефармальных размоў з кіраўніцтвам было ясна, што звальняюць за «Ваяр», хаця нічога там палітычнага не было. Ці шкадуе ён? Хутчэй, не. Можа, нават і рады, што сышоў, — падсумоўвае знаёмы. — Ведаю, што расчараваўся ў спецназаўскім братэрстве. Ведаеце, калі былі галасаванні асабовага складу, маўляў, ці хочаце вы, каб гэты чалавек застаўся з намі, хтосьці падымаў руку, хтосьці не. А пасля яны падыходзілі і казалі: даруй, але нам кватэры будаваць яшчэ, крэдыты плаціць... Ну, у каго што. А што вы пяць гадоў з гэтым чалавекам з адной ссабойкі елі, груба кажучы, на гэта ўжо напляваць».

**Арцём Гарбацэвіч**

## Вядучы АНТ Вячаслаў Бандарэнка: «Руская мова ў Беларусі дыскрымінуецца»

Тэлевядучы Вячаслаў Бандарэнка — адзін з твараў тэлеканала АНТ. Ён разам з Вадзімам Гігіным робіць перадачу «Справа прынцыпу», а ў вольны час піша кнігі пра дзеячаў расійскай культуры.

Летась Бандарэнка меў неасцярожнасць параўнаць з памагатымі фашыстаў тых беларусаў, якія выступалі супраць помніка Неўскаму ў Віцебску.

Гэтым разам прозвішча тэлевядучага з'явілася на адным прарасійскім сайце, які, імаверна, робіць Кірыл Авяр'янаў-Мінскі, якому забаронены ўезд у Беларусь.

Кантэнт таго сайта строга прапагандысцкі — у духу заблакаванага ў Беларусі «Спутніка і пагрома». Што ж на гэты сайт піша Бандарэнка?

Ён задаецца пытаннем, чаму «малако» большае за «молоко».

Вось вытрымка:

«Аб'явы прыпынкаў у транспарце, вулічныя шыльды ў Мінску,



назвы населеных пунктаў на дарожных знаках у краіне робяцца толькі на беларускай. Некаторыя ўказальнікі да турыстычных аб'ектаў выконваюцца на беларускай і англійскай. Калі ж руская і выкарыстоўваецца, то назва вуліцы/аб'екта набіраецца буйнымі беларускімі літарамі і тут жа — дробнымі рускімі і ангельскімі. Гэтак жа аформленыя паліцы ў некаторых супермаркетах: буйное «малако» і побач дробна «молоко/milk». А гэта ж, калі ўдумацца, дыскрымінацыя. Калі ў краіне дзве раўнапраўныя дзяржаўныя мовы, то чаму буйна набрана назва толькі на адной? Пэўна, тым самым руская мова фактычна прыраўніваецца да замежнай. І чаму прыпынкі ў транспарце гучаць толькі па-беларуску?.. Можна спасылацца на тое, што ўсе носьбіты рускай мовы ў Беларусі выдатна разумеюць беларускую, і гэта сапраўды так. Але калі прытрымлівацца літары закона, то атрымліваецца, што беларуская мова ставіцца на прыступку вышэй, а гэтага быць не павінна — у нашай краіне абедзве мовы абсалютна роўныя, за абразу рускай мовы можна сапраўды гэтак жа падаваць у суд, як і за абразу беларускай. І я ўпэўнены, што ў выпадку з супермаркетам выбар шрыфта быў абумоўлены зусім не загадам з міністэрства або Адміністрацыі прэзідэнта — не, гэта сімпатыі і антыпатыі кіраўніка крамы», — вядучы дзяржаўнага тэлеканала знаходзіць у Беларусі дыскрымінацыю рускай мовы, і гэта калі на роднай кожны год вучыцца ўсё менш школьнікаў.

Таксама Бандарэнка абурыўся сёлетняй цырымоніяй уручэння прэміі «Тэлевяршыня».

«Цягам цырымоніі вядучыя выкарыстоўвалі мову, прычым падкрэслена. І лаўрэаты на сцэне таксама прымалі правілы гульні — гаварылі па-беларуску. Толькі вядучы Ілля Коласаў — масквіч, які працуе па кантракце, па-руску падзякаваў аўдыторыі. А яго калега, якая ўзяла слова следам, заўважыла, што неўзабаве ў праграме, якую вядзе Коласаў, мовы будзе яшчэ болей. Нібы апраўдваючыся за паводзіны калегі. Выглядала гэта, мякка кажучы, дзіўнавата», — падзяліўся сваім болем Бандарэнка.

Дарэчы, Бандарэнка з'яўляецца сябрам афіцыйнага Саюза пісьменнікаў і мае ўзнагароду ад Лукашэнкі «За духоўнае адраджэнне».

**АГ**

# Пакараны за абліты фарбай бюст Леніна: «Партызаншчына ў беларусаў у крыві — і гэта не спыніць»

Жыхар вёскі Малеч Брэсцкай вобласці Віталь Шылінец пасля жорсткіх затрыманняў людзей на Дзень Волі выказаў сваё абурэнне, абліўшы фарбай помнік Леніну. Пасля такі ж самы флэшмоб пракаціўся па ўсёй Беларусі, пік іх прыйшоўся на дзень нараджэння Ільіча: Ленінаў «упрыгожвалі» ў Браславе, Магілёве, Брэсце, але толькі ў Малечы «мастака» знайшлі. Ён проста папаў на вочы ўчастковаму, не адмыўшы рук ад фарбы.

Што кіравала мужчынам, калі ён пайшоў на гэты ўчынак, і ці змянілася цяпер стаўленне аднавяскоўцаў, мы высвятлялі на месцы.

У Малечы, што ў Бярозаўскім раёне, не сціхае святкаванне майскіх святаў. За перамогу выпіваюць перад крамай і за ёй. Кажуць, што ў вёсках любы сакрэт — не сакрэт, а мясцовыя навіны разлятаюцца з хуткасцю ветру. Аднак вось вам доказ адваротнага: мужыкі, што змешваюць гарэлку і белаколу, нават і не чулі, што з Леніным было нешта не так. Але абяцаюць «пабіць твар» таму, хто гэта зрабіў, калі высветляць.

Малеч — слаўная вёска. Менавіта гэты населены пункт стаў адзіным у гісторыі Бярозаўшчыны, што атрымаў Магдэбургскае права, землі зведалі не адзін сялянскі бунт. У савецкія часы вёску забудоўвалі з размахам: утульныя паркі, свой дом культуры, сельсавет. Цяпер усе калісьці раскошныя будынкі выглядаюць панылa і абшарпана. Мясцовыя спадзяюцца, што сітуацыю неяк выправяць раённыя Дажынкі, што запланавалі на гэты год. Аднак былых прадпрыемстваў па вырабе піва ці чыпсаў сельскагаспадарчае свята не верне.

Мы сустракаемся з Віталём акурат каля месца «Х»: Леніна хоць і адмылі, але фарба трапілася якасная, таму асобныя плямы на манументе засталіся (выглядае, быццам правадыр рэвалюцыі хварэе на краснуху).


Віталь Шылінец.

«Чырвоную фарбу я не знайшоў, пад рукі трапілася — колеру жалезнага сурыку яшчэ часоў БССР. Пасля таго, як абліў помнік, пайшоў глядзець футбол у бар «Славянка», заадно рукі там памыць. І ўявіце сабе: адразу сутыкнуўся там з участковым, якога да гэтага часу не бачыў у твар гадоў сем. Проста магія! Спачатку я спрабаваў аднеквацца, казаць, што перапэцкаўся фарбай у прыбіральні, але ўжо было бессэнсоўна», — згадвае падрабязнасці таго дня Віталь.

У судзе ён настойваў, што да Леніна ў яго асабістая непрыязнасць, што гэта — злачынца і забойца, таму помнікі, прысвечаныя гэтай асобе, — абсурд і гэтак далей. Але, на думку Віталя, у судзе працуе шмат ленінцаў, таму няма нічога дзіўнага ў тым, што спачатку яго патрабавалі пакараць нават больш жорстка: двума гадамі папраўчых работ з адлічэннем 25% з заробку.

Грамадская пазіцыя Віталя сфармавалася яшчэ ў школе, пасля 25 сакавіка стрымліваць сябе ён ужо не мог. Па адукацыі Шылінец — гісторык-рэлігіязнаўца, які пасля сканчэння Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пушкіна адпрацаваў два гады ў беларускамоўнай вясковай школе. Цяпер мужчына ездзіць па заробак у Пружанскі раён на прадпрыемства «Эка-бітум». Грошай атрымлівае няшмат — усяго 200 рублёў на месяц, таму асабліва не хвалюецца з нагоды гадавога адлічэння 15% з гэтай сумы.

«Планую кінуць паліць, якраз такая сума звычайна сыходзіць на цыгарэты», — шукае выйсце Шылінец.

Не так пазітыўна на сітуацыю глядзяць жонка Віталя і яго маці. Першая працуе мастацкім кіраўніком Малецкага дома культуры, зараз знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку з другой дачкой. «Маці і жонка, канечне, перажываюць за мяне, просяць супакоіцца. А вось бацька — наадварот, падтрымаў. Ён у мяне чалавек з дэмакратычнымі поглядамі, пастаянна выпісвае апазіцыйную прэсу». Нягледзячы на прысуд, Віталь ад сваіх поглядаў адмаўляцца не збіраецца: «Мне не 16 гадоў, каб мяне чымсьці напалохаць».

Сярод негатыўных каментарыяў у бок аднавяскоўца чулася і нямала ўхвалення: «Народ тут недурны, у Малечы нават некаторы час існавала свая альтэрнатыўная газета «Крыніца», якую зачытвалі да дзірак і перадавалі з рук у рукі. Калі не я, то аднойчы нашага Леніна пафарбуе нехта іншы. Бо калі нельга выказваць сваю грамадзянскую пазіцыю адкрыта, партызаншчына — гэта адзіны варыянт. Падпольная дзейнасць у беларусаў у крыві».

Спачатку Віталь хацеў абскарджваць вынесены яму прысуд, але цяпер думае, што ў гэтым няма сэнсу. У тым, што прысуд абсурдны, ён, натуральна, пераканаneedны дагэтуль.

«Мяне даўно падбіваюць з'ехаць адсюль, я мог бы атрымаць Карту паляка тую ж, але не хачу. Максімум пагаджуся выехаць на заробкі за мяжу, каб дзяцей пракарміць. Як бы тое ні было, гэта мая зямля, адсюль мае продкі, і я лічу сябе ліцвінам».

**Кацярына Карпіцкая, фота аўтара**

# «Калі я ўбачыў такую вакансію, у мяне загарэліся вочы»

Праграміст пайшоў на эксперымент і стварыў беларускамоўную кампанію.

Паўтара года таму выпускнік фізфака БДУ Андрэй Камароў, папрацаваўшы некаторы час у навуковых інстытутах і лабараторыях, кінуў выклік самому сабе і распачаў уласную справу. Так з'явілася кампанія «Тэрасофт», цікавая не толькі незвычайным профілем (калектыў займаецца распрацоўкай і тэставаннем праграм для аптычнай мікраскапіі), але і тым, што ўся камунікацыя ў фірме адбываецца на мове.

Светлы двухпавярховік тэрасофтаўцаў стаіць амаль на беразе Сляпянскага канала. Каманда перасялілася ў новае жытло ў кастрычніку і таму яшчэ не да канца абжылася, але галоўныя ўмовы для працы тут ёсць: камп'ютары, мікраскопы, абсталяваная кухня ды невялікая спартыўная зала з кікерам, каб расслабіцца.

На ўваходзе нас сустракае прыпаркаваны ровар з налепкай «Пагоні» ды дырэктар Андрэй Камароў. «Мы тут, можна сказаць, стварылі паралельны сусвет», — жартуе ён. І ў яго словах ёсць нейкі сэнс: здавалася б, што дзіўнага ў беларускамоўнай канторы? Але ў сённяшняй рэальнасці гэта, на жаль, рэдкасць.

«Гэта сапраўды быў для мяне эксперымент: паспрабаваць весці дакументацыю і стасункі на мове. І я паспрабаваў. А цяпер атрымліваю задавальненне ад таго, што адбываецца. Дзіўна, канечне, казаць пра гэта ў такім кантэксце, бачыць, як адны не ведаюць мовы, а іншыя ўвогуле грэбліва да яе ставяцца, бо мы ж — беларусы, і гэта ўсё натуральныя рэчы...» — расказвае Андрэй.

Пры гэтым сам ён гадаваўся рускамоўнай сям'ёй, хадзіў у такія ж школу і ўніверсітэт.

Асаблівых цяжкасцяў з перакладам дакументаў не адчулі: у кампаніі пакуль працуе 13 чалавек (5 распрацоўшчыкаў і 8 тэсціроўшчыкаў), таму абарот невялікі. Самым складаным было знайсці такіх жа ідэйных людзей, якія б не толькі ведалі мову, але і былі прафесіяналамі. Андрэй рабіў гэта з дапамогай прыватных каналаў і проста даўшы аб'явы на папулярныя пошукавікі працы. Ён, відаць, нават не чакаў, што набярэ каманду так хутка. А людзі, якія прыйдуць да яго, будуць удзячныя за тое, што ён даў ім магчымасць сябе не ламаць.

Вось толькі некалькі гісторый.



Андрэй Камароў.





### «У іншай кампаніі мяне папрасілі размаўляць «нормально», калі я адказаў па-беларуску»

Уладзіслаў Гедвіла прыйшоў у «Тэрасофт» адным з першых: «Я мяняў працу і паралельна з вакансіяй праграміста ў «Тэрасофт» разглядаў яшчэ адну. Але калі адказаў прадстаўніку альтэрнатыўнай кампаніі па-беларуску, мяне паслухалі, а ў канцы гутаркі спыталі, ці магу я «говорить нормально». Пасля гэтага мой выбар быў відавочны».

Уладзіслаў родам з Салігорска. Размаўляць па-беларуску пачаў гадоў у 20: проста разгарнуў нейкую кніжку і зразумеў, што чытае на беларускай у разы маруднней, чым на рускай. «Мяне гэта вельмі ўзрушыла, і я захацеў выправіць сітуацыю: пачаў удасканальваць веды, чытаў кніжкі, беларускамоўныя выданні, разбіраў правапіс. Ну і размаўляў кожны дзень, каб практыкавацца».

Цяпер ён пераходзіць на рускую, толькі калі сутыкаецца з суразмоўцамі, для якіх так больш камфортна. І вельмі цешыцца таму, што на працы такой праблемы няма.

### «Асмеліўся цалкам перайсці на мову пасля падзей 2010—2011 гадоў»

Вадзім Шчаглоў паходзіць з Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. У вёсцы ён хадзіў у беларускамоўную школу. Тамтэйшыя выкладчыкі хоць і пераходзілі на рускую, як толькі заканчваліся заняткі, але яны ўсё-такі далі хлопцу выдатную базу, якая дапамагла на хімфаку БДУ канспекты з лекцый, што дыктаваліся па-руску, запісваць на мове.

«Ішла вясна 2011 года, у дадатак да падзей тых гадоў я перачытаў кніжку Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», натхніўся і ў нейкі момант зразумеў, што вяртацца да рускай не хачу».

Адпрацоўваючы размеркаванне хімікам, дзе трэба было даследаваць фарбы і палімеры, у вольны час хлопец вывучаў праграмаванне. Праз некаторы час Вадзім убачыў вакансію ў «Тэрасофт», і ў яго адразу загарэліся вочы: «Я нават яшчэ не ведаў сваіх будучых абавязкаў, але ўжо марыў стаць часткай такога калектыву». Улічваючы, што хлопец прыходзіць на працу нават з гіпсам (днямі Вадзім парваў на назе звязкі), можна сказаць, што ён абраў для сябе правільнае, любімае месца.

### «Мяне вельмі ўзрушыла магчымасць працаваць у цікавай сферы і пры гэтым заставацца беларускамоўнай»

Калі б не муж, які заўважыў у Крысціне Кімаевай здольнасці да тэставання, яна, можа, і да гэтага часу працавала б у школе. Дзяўчына скончыла Лінгвістычны ўніверсітэт і менавіта там пачала размаўляць па-беларуску: «Так супала, што дзяўчаты, з якімі я жыла ў студэнцкім інтэрнаце, былі вельмі ідэйныя. На нейкім этапе мы вырашылі размаўляць на мове ў межах свайго пакойчыка, потым гэтым зацікавілася яшчэ больш людзей — так яно ўсё і закруцілася». Да гэтага адзінымі, хто мог падтрымліваць з ёй гутарку, былі бацькі: «Праўда, у іх быў свой, вясковы і душэўны варыянт мовы».

У каледжы сферы абслугоўвання, дзе яна выкладала англійскую цягам размеркавання, такога асяроддзя, як у ВНУ, не было. Школа толькі ціснула сваімі абавязкамі па навязванні ідэалогіі і масавых мерапрыемстваў. Паралельна па парадзе мужа яна запісалася на курсы тэсціроўшчыкаў. І калі прыйшоў час абіраць новую працу, таксама ўбачыла вакансію ў «Тэрасофт» і больш ужо не хацела шукаць іншыя варыянты: «Калі б давялося рабіць у іншым месцы, мне б прыйшлося або падладзіцца пад калектыў і перайсці на рускую мову, або прынцыпова быць сабой, разумеючы, што гэта будзе тармазіць працу. Таму мяне вельмі ўзрушыла магчымасць быць часткай цікавай сферы і пры гэтым заставацца беларускамоўным чалавекам».

Кожны, хто працуе тут, адзначае, што, дзякуючы таму, што тут сабраліся не проста тыя, каго аб'ядноўваюць прафесійныя скілы, але і людзі з падобным светапоглядам, агульнымі каштоўнасцямі, у калектыва ёсць дадатковы складнік, які яго яднае. І гэта робіць кампанію у разы мацнейшай.

У будучыні «Тэрасофт» збіраецца толькі пашырацца. Напрыклад, ужо зараз тут з'явіліся некалькі новых вакансій. Так што, відавочна, што эксперымент удаўся.

**Кацярына Карпіцкая, фота Сяргея Гудзіліна**



Уладзіслаў Гедвіла.



Вадзім Шчаглоў.



Крысціна Кімаева.

# Справа аб суіцыдзе баранавіцкага школьніка адноўленая: знайшліся фота здзекаў з яго

Пракуратура Брэсцкай вобласці аднавіла крымінальную справу па факце суіцыду баранавіцкага дзевяцікласніка. Пра гэта гаворыцца ў лісце ад 22 траўня, які атрымала маці загінулага падлетка. Крымінальную справу накіравалі для далейшага папярэдняга расследавання ва ўпраўленне Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці. Гэта справа аб давядзенні да самазабойства.

Як піша *Intex-press*, справу аднавілі, бо маці хлопца атрымала фотаздымкі, якія могуць быць доказамі здзекаў з яе сына. Жанчына распавяла, што ў студзені гэтыя фота ёй даслала незнаёмая дзяўчына — на здымках падлетак прывязаны да дрэва, а побач стаіць нейкі іншы хлопец.

Дзевяцікласнік Улад, вучань баранавіцкай школы, скончыў жыццё самагубствам у сябе дома 22 снежня 2016 года. Падлетак пераехаў у райцэнтр з Мінска і не знайшоў паразумення з аднагодкамі. Ён прасіў перавесці яго ў іншую школу. Незадоўга да самазабойства яго выклікалі на савет прафілактыкі ў школу з нагоды бойкі з аднакласнікам. На Улада ціснулі і пагражалі калоніяй.







INTEX-PRESS

У лютым камісія аддзела адукацыі, спорту і турызму Брэсцкага аблвыканкама знайшла парушэнні ў працы школы па арганізацыі прафілактыкі сярод непаўналетніх. Да супрацоўнікаў, адказных за гэтыя парушэнні, прыменены меры дысцыплінарнай адказнасці.

Маці загінулага падлетка звярталася ў генпракуратуру і ў Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай дапамагчы ў расследаванні справы. У сакавіку расследаванне спынілі «ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства». Тады жанчына абскардзіла гэтую пастанову.

## У Расіі п'яны электрык расстраляў дзевяцярых, бо яны не верылі, што ён служыў у ВДВ. А ён рэальна не служыў

Сталі вядомыя матывы электрыка Сяргея Ягорава, які расстраляў у Цвярской вобласці Расіі дзевяцярых чалавек.

Ягорава нанялі, каб правесці электраправодку ў доме гаспадара ўчастка. У той час, пакуль мужчына важдаўся з правадамі, кампанія ўжо пачала адпачываць. Пасля працы электрыка запрасілі за стол.

«Гаспадар дачы і яго госці пачалі здзекавацца з Ягорава. Яны служылі ў паветрана-дэсантных войсках і пачалі смяяцца, што ён такі худы і маленькі. Ён, пакрыўдзіўшыся, пайшоў на сваё лецішча, якое знаходзіцца ў тым жа пасёлку, узяў карабін «Сайга», насыпаў у кішэню 10—15 патронаў і вярнуўся да кампаніі», — паведамляюць расійскія СМІ са спасылкай на сілавікоў.

Нягледзячы на тое, што Ягораў прыйшоў са зброяй, кампанія працягвала жартаваць з яго. Калі мужчыну надакучылі здзекі, ён падняў карабін і адкрыў агонь. Сам падазраваны сцвярджае, што ўсіх сваіх ахвяр застрэліў з аднаго ражка. Тыя, хто быў не моцна п'яны, паспрабавалі бегчы. Адзін з загінулых не дабег дзесяць метраў да свайго дачнага доміка. Ягораў дагнаў яго і стрэліў у галаву.



Спачатку было знойдзена восем трупаў. Яшчэ адна забітая жанчына, як выявілася, была схавана ў багажніку аўтамабіля. Яна адмовілася выкопваць сабе магілу, тады Ягораў застрэліў і яе.

Побач з целамі, якія электрык сцягнуў у адну кучу, супрацоўнікі праваахоўных органаў выявілі каністру з бензінам і газету. Як мяркуецца, ён збіраўся спаліць трупы. Адразу пасля затрымання Сяргей Ягораў прызнаў віну і напісаў яўку з павіннай.

Дык ці быў дэсантнікам ён? Не. «Ніхто ён — ні памежнік, ні вэдэвэшнік, гэта я на 300% магу сказаць», — заявіў афіцыйны прадстаўнік упраўлення МУС па Цвярской вобласці Расіі Вадзім Леўшын.

## Салігорскага мэра затрымалі за хабар проста на трасе

**Супрацоўнікамі ГУБАЗіК МУС Рэспублікі Беларусь на аўтамабільнай дарозе каля в. Камень Капыльскага раёна ў момант атрымання хабару быў арыштаваны старшыня Салігорскага райвыканкама Аляксандр Рымашэўскі, паведамляе прэс-служба міліцыі.**



Затрымалі чыноўніка з доказамі злачынства, адзначаецца ў прэс-рэлізе, у момант атрымання хабару памерам 2,7 тыс. даляраў ЗША. Паводле дадзеных аператыўнікаў, старшыня Салігорскага райвыканкама на працягу доўгага часу злоўжываў уладай і службовымі паўнамоцтвамі пры вырашэнні пытанняў па закупе сродкаў аховы раслін, насення і запчастак для сельгастэхнікі аграпрамысловых прадпрыемстваў і арганізацый Салігорскага раёна.

Па дадзеным факце Следчым камітэтам заведзена крымінальная справа па ч. 3 арт. 430 КК Рэспублікі Беларусь («Атрыманне хабару»).

Яго санкцыя прадугледжвае пазбаўленне волі да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Як паведамілі ў ГУБАЗіК МУС, А. Рымашэўскі сістэматычна атрымліваў хабар ад прадстаўнікоў камерцыйных структур за вырашэнне пытанняў аб першачарговым пагашэнні запазычанасцяў мясцовых аграпрадпрыемстваў па разліках за пастаўленую прадукцыю. Гэтая інфармацыя ў цяперашні час правяраецца.

# Футбаліст «Лідса», які страціў нагу, аб'ехаў 45 краін і знайшоў шчасце ў Беларусі

Рональд Рэйган сцвярджаў, што асобу чалавека найлепш адлюстроўваюць не абставіны, у якія мы трапляем, але наша на іх рэакцыя.

У момантах цяжкасцяў, расчараванняў і выклікаў мы можам даведацца болей, чым за доўгія гады і часы камфорту. Пасля тыдня ў коме медыкі сцвярджалі, што Дэрэн Бут з 90-працэнтнай імавернасцю больш не здолее зрабіць ані кроку і застанецца спаралізаваным. Для маладога англічаніна, які марыў выводзіць «Лідс Юнайтэд» у Лігу чэмпіёнаў і ажаніцца, гэта быў самы страшны прысуд. Нехта апусціў бы рукі, аднак спадар Бут здолеў перамагчы дэпрэсію, наркатычную спакусу і знайшоў прагу да жыцця.

Цяпер ён здольны прабегчы Мінскі марафон, гарэзліва кіруе брытанскай машынай з правым стырном па беларускіх дарогах, вядзе IT-бізнэс, а таксама марыць выкупіць цэлую вёску, каб дапамагаць людзям з інваліднасцю ці залежнасцямі. Пра ўменне прымаць трагічныя здарэнні, пра каханне з беларускай, выгоды жыцця ў Беларусі і многае іншае Дэрэн шчыра распавёў «Нашай Ніве».

### «Лідс» — найбольшая любоў і найбольшая памылка

Дэрэн Бут нарадзіўся на поўначы Англіі — у Лідсе.

Гэта цэнтр вугальнага басейна, а яшчэ тут Джон Толкін упершыню здабыў пасаду прафесара ангельскай філалогіі. Для некаторых назва горада яшчэ асацыюецца з футбольнай камандай з трагічнай гісторыяй і яе шалёнымі ды вернымі заўзятарамі.

«Як і многія хлопцы ў Лідсе, я марыў гуляць у футбол, і мне пашчасціла займацца ў славутай акадэміі «Лідс Юнайтэд».

Як мясцовы хлапец, я трызніў «Лідсам» і вырашыў застацца ў ім. Сёння я разумею, што гэта была найвялікшая памылка майго жыцця. Праўда, «Лідс» тады быў неймаверным. Прыгадайце Рыа Фердынанда, Гары К'юэла, Лі Боера, Яна Гарта, Джонатана Вудгейта... Гэта быў фантастычны час. У гэта цяжка паверыць цяпер, калі «Лідс» змагаецца за вяртанне ў прэм'ер-лігу.

### Грошы не вырашаюць усё, але вырашаюць многа

Мой сябар перайшоў з юнацкага «Лідса» ў «Манчэстэр Юнайтэд». Для кар'ерных перспектыў ён зрабіў правільны крок, здабыў кантракт, паводле якога зарабляў на 12,5 тысяч фунтаў на тыдзень больш, а я ўсё хацеў захаваць вернасць роднаму клубу... Ведаеце, футбол — гэта не толькі грошы. Сёння кітайская ліга прапануе гульцам 500 тысяч даляраў на тыдзень... І што? Усім трэба пераехаць у Кітай? Для мяне футбол больш нагадвае хобі, якое ты любіш і за якое яшчэ атрымліваеш грошы. Маё меркаванне адносна працы, гэта калі ты вымушаны нешта рабіць, каб здабыць грошы, а калі ты атрымліваеш асалоду і любіш тое, што робіш, — гэта проста хобі».

Футбольная каманда надзвычай папулярная ў Лідсе. Людзі там літаральна жывуць футболам. Вы б толькі бачылі, што адбывалася ў горадзе пасля таго, як «Лідс» зваліўся ў чэмпіёншып пасля Лігі чэмпіёнаў. Усе цяпер жывуць марамі аб вяртанні ў прэм'ер-лігу. Кажуць, што, калі каманда здолее здабыць пуцёўку ў прэм'ер-лігу, нас зможа выкупіць кітайскі мільярдэр. Надзеі звязваюць найперш з новым кіраўніцтвам. Каманду ўзначаліў італьянец, які не так даўно ўдала прадаў італьянскі «Інтэр» кітайскім інвестарам. Сёння «Лідс» мае 7-ю наведвальнасць сярод усіх каманд усіх англійскіх ліг! А гэта моцны паказчык.

### Першае здарэнне і крыж на футбольных марах

Мае першыя абавязкі былі звязаныя з аўтобусамі. Калі мне было 13, мне прыходзілася кожныя выходныя сядаць у аўтобус, праязджаць 15 міляў і дапамагаць бабулі, якая была ў цяжкім стане. Хадзіць у краму, прыбіраць. Яна давала мне 10 фунтаў за такую дапамогу. Тады я і падумаць не мог, што сам апынуся неўзабаве ў няпростым становішчы.

Першае здарэнне, якое кардынальна змяніла маё жыццё, адбылося якраз, калі мы ехалі ў аўтобусе. Ён сутыкнуўся з машынай, а я ў выніку няўдала зваліўся і пашкодзіў грудзі і спіну. Косць ад удару пачала няправільна расці і ціснула на сэрца. Я тады гуляў за рэзервы. Пачаліся болі, дыскамфорт. Лекары парэкамендавалі абмежаваць спартовыя практыкаванні.

Для мяне гэта было жудаснае расчараванне і крах усіх мараў. Я зразумеў, што дарога ў прафесійны спорт для мяне практычна зачыненая. Гэта цяпер я разумею, што ўсё ў жыцці адбываецца не без прычыны. Іначай я б не сядзеў тут, не ажаніўся і не меў дачкі.

Я стаў дзіцячым трэнерам. Наша каманда U-15 і U-16 прайграла ўсяго два разы за два гады. Гэта, канечне, не Ліга чэмпіёнаў і нават не Кубак Англіі, але вынік быў выдатны.

### Я не хацеў жыць у Англіі з-за надвор'я…

«Чым больш я жыў, тым больш разумеў, што ў Англіі я жыць не хачу. Жудаснае надвор'е. Дождж, дождж, усё вельмі дорага, няветлівыя людзі.

Мне хацелася знайсці сябе і быць незалежным, пабачыць жыццё за межамі Англіі. На Канарах я пачаў працаваць з людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі, як аніматар. Мы праводзілі спартовыя гульні, сустрэчы, размовы. Я атрымліваў асалоду і зразумеў, што хацеў бы працаваць з такімі людзьмі. Пройдуць гады, і я сам стану інвалідам...»

Пасля паўтара года на Канарах Дэрэн Бут правёў год на Кіпры і канчаткова ўсвядоміў, што не хоча вяртацца на Альбіён.

У 2008-м годзе Дэрэн пераехаў да бацькі ў Канаду і нават падпісаў кантракт з мясцовым клубам па амерыканскім футболе «Калгары Стампідэрс». Англічаніна ўзялі на пазіцыю б'ючага. У таварыскіх матчах брытанец паспеў паставіць рэкорд па дальнасці ўдару. Аднак паўнавартасна зайграць за каманду ён так і не змог з-за чарговага аўтамабільнага здарэння. У 2013-м годзе Бут перабраўся на Мальту, дзе трапіў у чарговую аварыю, атрымаў некалькі траўмаў.

Ужо ў 2014-м па парадзе дзядулі Бут пераехаў у Італію.

«Італія змяніла мой свет і светапогляд назаўжды. Там адбылося здарэнне, пасля якога мне падавалася, што жыццё скончылася, што ў мяне не будзе больш ані сям'і, ані дзяцей — анічога. Здарэнне найбольш паўплывала на мяне, змяніла, як бы дзіўна ні гучала, да лепшага маю асобу і стаўленне да людзей».

### Кава, матацыкл і кома

Джон Толкін пісаў, што мы ніколі не ведаем, якая прыгода нас чакае проста за дзвярыма ўласнага дома. Дэрэн Бут ніколі не мог падумаць, чым скончыцца жаданне выпіць кавы і набыць пачак цыгарэт у суседнім гарадку.

«На адным з паваротаў я сутыкнуўся з машынай. Ад удару матацыкл перакуліўся, а я зляцеў з яго. Усёй вагой груда металу прызямлілася на маю нагу. Я адразу страціў прытомнасць і не падазраваў, што канцавіна ляжала за некалькі метраў ад мяне. Першае, што памятаю, калі часова апрытомнеў на дарозе, — майго сябра без майкі, у якога я спытаўся, чаму ён стаіць без майкі. Я нават не заўважыў, што ён перавязаў той майкай маю нагу. Я намацаў мабільны тэлефон, набраў свайму дзядзьку і распавёў пра аварыю. Пасля гэтага я нічога не памятаю, 10 дзён праляжаў у коме.

Першае, што, як мне распавядалі, сказаў, як толькі апрытомнеў: «Што вы робіце? Чаму вы спрабуеце мяне забіць? Вяртайцеся ў Англію!» Пасля чаго я адключыўся яшчэ на 24 гадзіны.

У мяне быў пералом хрыбта, ключыцы, рэбраў, было невядома, ці я ўвогуле выжыву. Была 90-адсоткавая імавернасць, што я назаўжды застануся спаралізаваным.

Мне нават тыдзень не казалі пра тое, што я застаўся без нагі, бо думалі, што я ведаю.

Як толькі я ўсвядоміў, што я без нагі, то раз'юшана патэлефанаваў маці і сказаў, што мушу пагутарыць з ёй. Яна спытала: «Што такое?» Я папрасіў прыйсці ў шпіталь. «Чаму ты не сказала мне, што я страціў нагу?» — спытаўся я ў яе. Яна аж засмяялася. Нервова, але засмяялася. Што яна магла растлумачыць? Я пажартаваў, што нам спатрэбіцца цяпер менш грошай: пару шкарпэтак змагу насіць два дні.

Маё ранейшае жыццё развалілася. Мне было цяжка варушыцца і нават гаварыць. Маці была проста ў дэпрэсіі. Гэта дзеля яе я стараўся не паказваць, наколькі мне кепска, каб яна менш пакутавала.

### Зноў вучыцца хадзіць

У дактароў былі найгоршыя прагнозы. Але ўжо лютым 2015-га я зрабіў свой першы крок і пачаў праходзіць курс рэабілітацыі. А ўжо ў жніўні таго ж года я вярнуўся на Мальту і сустрэў там сваю будучую жонку.

Канечне, падчас рэабілітацыі мой эмацыйны і душэўны стан быў цяжкім. Я нават звяртаўся па дапамогу да дабрачынных арганізацый, але ніхто мне не дапамог. Я тэлефанаваў «Самарыцянам», але пасля іх парады я ледзь не зрабіў сабе смерць, такога яны мне нараілі. Людзям, якія не перажылі калецтва, цяжка зразумець, што гэта такое. Калі ты не губляў нагу ці блізкага, то не ўяўляеш, як гэта.

### Гарачая лінія і рахунак за размовы 2,600 фунтаў!!!

Так нарадзілася першая ідэя дабрачыннага праекта. Я стварыў сайт і гарачую лінію на ўласным тэлефоне для людзей, якія праходзілі праз падобныя абставіны.

Я не псіхолаг, але я добра ведаю, што азначае падобнае гора. Зразумеў, як гутарыць з людзьмі, у якіх рак, калецтва ці нешта падобнае. За першы тыдзень нам патэлефанавалі 50 чалавек. Збольшага гэта былі людзі, якія перажылі ампутацыю, прайшлі праз аварыі. Мы гутарылі пра тое, як перажыць такое. Некаторыя людзі званілі 3—5 разоў, іншыя адзін раз набяруць — і ўсё.

Першы званок быў ад Алана. Ён хварэў на рак і страціў руку. Мы ча-








ста гутарылі і сустракаліся некалькі разоў. Нядаўна ён памёр, а на маім сайце стаіць фота з ім у шпіталі. Я рады, што хоць трошкі мог сутыкнуцца і падбадзёрыць яго.

Я не пакідаў гэтую справу, нават калі выязджаў у Італію на адпачынак — уключаў роўмінг. Так аднаго месяца мой рахунак за тэлефон склаў 2,600 фунтаў!!! Бо такія гутаркі займаюць не менш за гадзіну. Я тады зразумеў, што мала хто аказвае падобную дапамогу. Ёсць нешта толькі для вайскоўцаў, яшчэ для некаторых катэгорый людзей. Я гутарыў з людзьмі з Брытаніі і Штатаў аб стварэнні дабрачынных ліній і пабачыў у гэтым сваё пакліканне. Мы правялі перамовы з найбуйнейшай арганізацыяй «Асацыяцыя «Канечнасці», іх сайт наведвае 30—50 тысяч чалавек на ты-дзень, яны хацелі змясціць кантакты маёй арганізацыі на сваёй старонцы. Але ў мяне не было на той момант людскіх рэсурсаў для такой дапамогі.

## Вяселле і пераезд у Беларусь

Пасля заканчэння курса рэабілітацыі, у жніўні 2015-га, я вярнуўся на Мальту і сустрэў там сваю будучую жонку.

Яна навучалася ў адной з моўных школ. Ужо ў верасні я задаў простае пытанне: «Я магу адну рэч спытацца?» — «Ага». — «Пагодзішся пабрацца шлюбам?» Праз 8 тыдняў мы ажаніліся. Мабыць, гэта прагучыць дзіўна, але, калі я ўпершыню прыехаў з Італіі ў Беларусь, адразу сказаў жонцы: «Давай застанемся тут жыць!?»

Мы прыехалі ў Мінск ужо ў верасні 2015-га, бо маці маёй жонкі хварэла. Мы збіраліся прыехаць на трохі, але тут я вырашыў, што мы мусім застацца назаўсёды. Я проста захапіўся гэтай краінай.

Калі ты жывеш у Заходняй Еўропе ці Штатах, усё вельмі дарагое, а тут для замежніка — танна. Тут таннае паліва, 30 пенсаў за літр, папяросы па 40—50 пенсаў за пачак, бутэлька гарэлкі 2 фунты з паловай. Таксама я пабачыў магчымасці для IT-бізнэсу. Раней я меў досвед працы на *Google*, дзе рабіў мой тата.

Пасля майго пытання жонка доўга глядзела на мяне з неразуменнем і пыталася, ці я не вар’ят. Але я быў перакананы, што ў Мінску — цудоўна. З верасня да лістапада я пабачыў, што тут цудоўная IT-індустрыя: EPAM, Парк высокіх тэхналогій і шмат цікавых стартапаў і тэхналагічных рашэнняў. Так мы вырашылі застацца.

## Ведаў пра Мінск толькі дзякуючы серыялу «Сябры»

Я амаль нічога не ведаў пра Беларусь, нават не ведаў, дзе яна знаходзіцца. Аднойчы я сказаў жонцы, што хацеў з’ездзіць да яе ў Расею, але яна мяне перапыніла і сказала, што Беларусь — гэта не Расея. Я абмовіўся, што яна ўваходзіла ў склад СССР, але яна нагадала, што Беларусь ужо даўно самастойная. Я ведаў пра існаванне Мінска толькі праз эпізод «Сяброў», калі Фібі сустракалася з хлапцом з Мінска. Гэта была адзіная інфармацыя, якую я ведаў.

## Першы раз памяняў грошы, дык не ведаў, як іх насіць

Як я толькі прыехаў, у мяне здарыўся смешны выпадак у абменным пункце. Я вырашыў памяняць, здаецца, тысячу еўра, перадаў іх у акенца, пасля чаго жанчына за акенцам, дзіўна паглядзела на мяне, замкнула абменнік і знікла. Я не ведаў, што рабіць, бо не размаўляў на мове. Баяўся, што мяне абрабавалі, праз некалькі хвілін яна вярнулася, адчыніла акенца і вываліла мне некалькі пачкаў банкнотаў. Усе глядзелі ў гэты момант на мяне, а я не ведаў, куды схаваць гэтыя купы грошай і дзе іх насіць.

Яшчэ адну рэч, якую я мушу адзначыць, гэта не толькі чысціня, якой я не бачыў у 45-і краінах свету, якія я наведаў, але і бяспеку для замежніка, якую ты адчуваеш тут. Ты амаль не бачыш тут злачынстваў, небяспечных месцаў, вуліц, па якіх лепш не шпацыраваць. Тут ты спакойны за сваю машыну.

Тут ты не перажываеш за сваю спіну, калі ідзеш не па цэнтры сталіцы.

Таксама тут вельмі танна жыць, калі ты замежнік. Але, канечне, калі ты беларус з мінімальным заробкам, то табе не проста... У Англіі мінімальная аплата складае 18—20 рублёў за гадзіну, нават калі ты працуеш у «МакДональдс» ці мыеш прыбіральні.

Нягледзячы на такія праблемы, людзі тут вельмі сяброўскія. Яны запрашаюць у госці, частуюць цябе. Яны рэдка звяртаюць увагу на аблічча ці фінансавы стан, але ацэньваюць цябе як чалавека. У Штатах, напрыклад, важны сацыяльны статус чалавека. У Беларусі — не.

Для беларуса 500—600 даляраў — добры заробак, але скажы каму на Захадзе пра гэта, у цябе спытаюцца: як ты выжываеш? Яны не разумеюць.

А беларусы неяк даюць рады. Шмат людзей маюць і прыватны дом, і кватэру ў горадзе. Многія ездзяць на «Мерседэсах» ці «Рэйнджроверах». Бедных ці бяздомных на вуліцы не пабачыш... Беларусь — добрае месца для жыцця.

## Моўны бар’ер дапамагаў у ДАІ

Моўны бар’ер. Як толькі я першы раз праходзіў рэгістрацыю і падпісваў паперы, ніхто не гаварыў па-ангельску, быў патрэбны перакладчык. Праўда, міліцыянты на вуліцы аднойчы перайшлі на англійскую мову.

Памятаю, як упершыню мяне спыніла ДАІ.

Яны спачатку нават падышлі не да таго акна, бо ў мяне англійская машына. Я спытаўся: «Інгліш»? — «Не». — «Рускі не». Так мяне і адпусцілі. Я паказаў дакументы і паехаў. Другі раз мяне спынілі ўвечары. Мы вярталіся з сустрэчы па каўчсёрфінгу. У машыне былі ўкраінцы і рускія. Я папрасіў іх не гаварыць па-руску і казаць, што мы — англічане. Мяне спынілі за тое, што я не прышпіліўся. «*I don’t understand*», — сказаў я і папрасіў іх выклікаць перакладчыка, даў ім візітоўку амбасады і папрасіў тэлефанаваць туды. Яны адпусцілі мяне.

Але наступны раз мяне спынілі за перавышэнне хуткасці. Мой спідометр у мілях, а тут усё ў кіламетрах. Трошкі паблытаў. Я сказаў з акцэнтам «Добры дзіень», а ён адказаў «*Good afternoon*». Яны праверылі ўсе мае дакументы, і я ўразіўся, што яны гаварылі па-англійску. Я заплаціў штраф, здаецца, 18 рублёў новымі. У Англіі ты мінімум атрымаеш каля 200 фунтаў і тры пункты на ліцэнзіі. Усяго ў цябе ёсць 12 балаў. За тое, што цябе двойчы схопяць з тэлефонам, пазбаўляюць. Тут, падаецца, усе па тэлефоне размаўляюць за рулём.

Яны паварочваюць і не ўключаюць паварот. Тут мусіш быць уважлівым не да дарогі, але да кіроўцаў.

## Чалавек з абмежаванымі магчымасцямі ў Беларусі нагадвае закладніка

За гэты час я заўважыў шмат пазітыўных пераменаў у краіне, але пабачыў таксама, як цяжка тут жыць асобе з інваліднасцю.

На Раство 2015 года я меў патрэбу ў дэталі для пратэза, на якім я хаджу. Я патэлефанаваў у клініку, але мне сказалі, што даставяць неабходныя рэчы толькі праз месяц. Але мне гэта было патрэбна ўжо зараз. У Брытаніі я б здабыў гэтыя рэчы імгненна, але ў Беларусі ў шпіталі мне паскардзіліся, што ім трэба замаўляць рэчы з Нямеччыны, дастаўляць іх, размытняць, і гэта займае час.

Мне прыходзілася мацаваць нагу адмысловай стужкай, я не мог выйсці з хаты, бо было зімна, заснежана. Увогуле, для інваліда без машыны перасоўвацца па горадзе практычна немагчыма. Бардзюры, непрыстасаваныя аўтобусы... Ні ў адным рэстаране няма прыбіральняў для інвалідаў... Але за гэтыя паўтара года я бачу пэўныя зрухі. Горад становіцца больш прыязным для інвалідаў. Тым не менш я вымушаны часта вяртацца ў Брытанію, бо тут немагчыма атрымаць патрэбную дапамогу.

## Тут шмат магчымасцяў… для замежніка

«У Беларусі адкрываецца шмат магчымасцяў. Скажыце, дзе яшчэ можна набыць «дачу» за 300 даляраў? Цяпер я шукаю для сацыяльнага праекта цэлую вёску на 10—12 дамоў. Я мару стварыць ферму, дзе будуць вырошчваць арганічную ежу, куды будзем запрашаць людзей жыць і працаваць — праходзіць рэабілітацыю. Шукаем месца.

Я камунікую з людзьмі бізнэсу, брытанскай амбасадай, «Інклюзіўнай Беларуссю», Прадстаўніцтвам ААН. Мне здаецца, што будучыня тут выглядае добрай. Але заўсёды трэба памятаць, што гэта Беларусь, дзетка. Бо ўсё можа здарыцца».

Цяпер Дэрэн Бут жыве ў Мінску і разам з жонкай гадуе 8-месячную дачку Элеанору. Ён верыць, падобна свайму земляку і апальнаму паэту Джону Мільтану, што, нягледзячы на абставіны і здарэнні, тое, што нас не забівае, толькі ўзмацняе. Прыклад яго безупыннага супрацьстаяння абставінам заахвочвае цаніць тое, што маеш, марыць і рабіць цікавыя рэчы.

**Гутарыў Зміцер Хведарук,
фота Ірыны Арахоўскай
і з архіва героя**





# Беларуска пераехала ў Тайланд: «Я проста хацела пажыць у цёплай краіне!»

Пра Таццяну Поклад можна без перабольшання сказаць, што яна — чалавек свету: нарадзілася ў Казахстане, большую частку жыцця правяла ў Літве, шмат вандравала, але ад галавы да кончыкаў пальцаў на нагах адчувае сябе беларускай, бо менавіта адсюль паходзяць яе бацькі. Разам з сынам Таццяна амаль два гады жыве ў Тайландзе. Яна пагадзілася падзяліцца з «НН» сваімі назіраннямі за азіяцкімі буднямі, некаторым складнікам якіх усім нам варта павучыцца.

**«НН»: Чаму вы вырашылі замяніць усю вашу дзейнасць на Тайланд?**

**Таццяна Поклад:** Я проста хацела паспрабаваць пажыць у цёплай краіне, але не ведала, у якой: прыглядалася, разбіралася. Калі абрала Тайланд, добра ўсведамляла, куды еду. Гэта не была краіна, вядомая многім па стэрэатыпах накшталт Меккі сэкс-турызму ці месца, дзе можна жыць з пратэрмінаванымі візамі. Насамрэч, нейкая разбэшчанасць — гэта толькі частка тамтэйшага жыцця. Галоўнае, што Тайланд дае магчымасць існаваць так, як табе хочацца. Не трэба глыбока інтэграваца і ператварацца ў тайца — проста заставайся самім сабой. Я планавала прабыць тут толькі зіму, але, як бачыце, асела.

Умовы для таго, каб трапіць сюды, застаюцца даволі мяккімі, калі ты прыязджаеш з багацейшай краіны: жыхары Еўропы і беларусы трапляюць пад такую катэгорыю. Трэба зрабіць звычайную візу на паўгода, а потым абіраць: проста адпачываць, калі ёсць грошы, вучыць тайскую ў школе і лічыцца студэнтам ці пайсці, напрыклад, выкладаць ангельскую мову — гэта самая простая магчымасць заробку для іншаземцаў. Настаўніку ў Тайландзе працуецца куды прасцей: за дысцыплінай назірае дадатковы чалавек, рыхтавацца да заняткаў не трэба, бо ўсё рухаецца па адзінай праграме. Ад вас патрабуецца толькі добрае веданне мовы без акцэнту, агульная адукаванасць і прыстойнасць. Такая лёгкасць — гэта адначасова і плюс, і мінус, бо ў любы момант цябе могуць замяніць іншым спецыялістам, які пагодзіцца не на 500 еўра заробку, а на 400, напрыклад.



Я дакладна памятаю, што да гадоў пяці размаўляла па-руску. І калі ўпершыню прыехала на радзіму маці, у вёску Рачныя, што ў Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці, сутыкнулася з тым, што мяне ніхто не разумее. Людзі там карысталіся хай і дыялектам, але беларускім. Я вельмі дзівілася: мы жывём у савецкай краіне, як гэта так атрымліваецца? З таго моманту, нягледзячы на тое, што я вучылася ў рускамоўных установах, беларуская гаворка стала неад'емнай часткай мяне.



Тыповая вуліца ў Бангкоку.

Дзе дакладна не чакаюць замежнікаў, дык гэта на пасадах гідаў, кіроўцаў тук-тукаў ды на працы ў сэрвісе — для нас гэтыя прафесіі забароненыя.

**«НН»: Марачы жыць у цёплай краіне, вы знайшлі сапраўдную спёку: кажуць, на тайскім сонцы можна нават ежу смажыць…**

**Таццяна Поклад:** Так, мае тайскія сябры і знаёмыя расказвалі, што ў вёсках такое практыкуюць: мясцовыя жыхары наўпрост робяць прыстасаванні з фальгі, кладуць туды рыс ці мяса — і праз некаторы час усё гатовае. Так гатуюць і яйкі, сасіскі розныя: такі сонечны грыль.

**«НН»: А што ўвогуле можаце сказаць пра мясцовую кухню?**

**Таццяна Поклад:** Магу адзначыць, што вегетарыянцам, як я, тут прасцей. Дома я не гатую нічога тайскага, бо куды танней і хутчэй нешта замовіць ці набыць. Раю ўсім, хто сутыкнецца з мясцовай кухняй, абавязкова паспрабаваць знакаміты суп «Том Ям», «Пад Тай» (тоненькая смажаная макарона са спецыямі) і «Сом Там» — салата, якая робіцца з зялёнай папаі. Вельмі раю бананавыя кветкі — іх даюць дарма ў дадатак да страў, і *Morning glory* — водны шпінат.

Наконт перцу: замежнікам даўно не кладуць шмат перцу, а вось чаго хапае і ў напоях, і ў стравах — дык гэта цукру. «Меней цукру, калі ласка», — бадай, самая важная тайская фраза для турыста.

Паўтарыць самастойна тайскую кухню амаль немагчыма: у іх шмат сакрэтных інгрэдыентаў, напрыклад, саламяныя грыбы, леманграс, кафір-лайм — расліна, якая спалучае ў сабе свежыя ноты лімона і мяты. А вось еўрапейскія рэцэпты тайцам не даюцца: макарона заўсёды пераварaная, піца з дзіўным смакам...

**«НН»: Чаму нам варта павучыцца ў тайцаў?**

**Таццяна Поклад:** Знакамітае тайскае сабай-сабай, ці салодкае жыццё, павінна прысутнічаць ва ўсім. Праца працай, вучоба вучобай, праблемы праблемамі, але неабходна і радасць. Як толькі настрой збіваецца, тайцы адразу спрабуюць яго выправіць, нават банальна нечым смачным. Яны амаль не сварацца, не крычаць на дзяцей і заўсёды ўсміхаюцца. Мы ж заўсёды імкнёмся нешта палепшыць, даказаць, не прапець лета, не спаць, каб не змерзнуць... У іх такой напружанасці няма.

Азіяты доўга жывуць у сваёй спякотнай тэмпературы і неяк прызвычаіліся. І я ўсё не зразумею, чаму мы гэтак не можам: зіма для нас — катастрофа, спёка таксама не па душы... Мы ніяк не ўжывёмся з кліматам.

Тут, канечне, шмат хаосу, на тых жа дарогах. Але разам з тым столькі ж і парадку, які ў свабодных умовах сам сябе рэгулюе.

**«НН»: Вяртацца назад не плануеце?**

**Таццяна Поклад:** Канечне, у Тайландзе можна жыць да глыбокай старасці. Але, як і ў любой эміграцыі, ты ўсё ж будзеш адчуваць сябе чужым.

Я б пераехала ў Беларусь, але не ўяўляю сябе ў сучасным яе варыянце: з дыктатурай, незразумелымі арыштамі. Мяне палохае не тое, што я не змагу соевага малака ў краме набыць, а вось гэты ўвесь неадэкват.

Калі будуць нейкія змены, думаю, шмат хто з вялікай ахвотай вернуўся б дамоў, таму што гэта сваё, роднае. Але калі людзей хапаюць на вуліцы...

**Кацярына Карпіцкая, фота з архіваў гераіні**





Тайцы — чысцёхі, аднак да жывёл у кафэ і рэстаранах ставяцца спакойна.



# Новая мода: букеты з гароднiны

Праект «Бабулін часнык» упершыню актыўна заявіў пра сябе гэтай вясной. Галоўнае адрозненне новага гульца на рынку фларыстыкі ў тым, што для сваіх кампазіцый яго стваральніцы выкарыстоўваюць... часнок, гарбузы, кроп і цыбулю.

Ідэя прыйшла ў галаву супрацоўніцы Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Алене Галамазавай.

«Я хацела дапамагаць старэйшым людзям! Спачатку мне захацелася стварыць інтэрнэт-краму, дзе мы б маглі легальна прадаваць натуральныя прадукты ад нашых пенсіянераў. Аднак тут трэба вялікія аб'ёмы, а мне хацелася рабіць дабро і для тых, у каго ўсяго некалькі градак каля хаты. Вось я і прыдумала букеты», — расказвае Алена.





Алена Галамазава.

Букеты яна стварае сама, у яе няма нейкай спецыяльнай фларыстычнай адукацыі. Кажа, што кампазіцыі нараджаюцца «ад сэрца, ад душы». Як толькі паступае новая замова, Алена адразу ж накіроўваецца да бабуль з Мінска ці раёна. Пенсіянерам да 70 гадоў яшчэ можна растлумачыць сутнасць ідэі, кажа Алена, а людзі старэйшыя глядзяць на гэта з недаверам і нярэдка адмаўляюцца і працягваюць працаваць па звыклай схеме.

За гароднiну і садавіну фларысты плацяць пенсіянерам столькі, колькі яны патрабуюць, а цана букета ў выніку атрымліваецца ад 13 да 19 рублёў.

«Чым мы адрозніваемся ад канкурэнтаў? Па-першае, мы дапамагаем пенсіянерам, набываючы прадукты ў іх. Па-другое, мы імкнёмся абавязкова ўключаць паўсюль часнык — гэта наша фішка», — кажа Алена Галамазава.

У будучыні дзяўчына вельмі хацела б, каб пачатая імі ініцыятыва ўсё ж перарасла ў дзейнасць інтэрнэт-крамы, дзе кожны ахвотны мог бы замовіць пучок зеляніны ці кілаграм сезонных яблык, вырашчаных добрымі рукамі пенсіянераў, якім сёння часам даводзіцца мерзнуць са сваім таварам на вуліцах.

**Кацярына Карпіцкая, фота з архіваў гераіні**

# Шэсць найлепшых серыялаў мінулай вясны

«Наша Ніва» прапануе традыцыйны рэйтынг найлепшых шматсерыйных фільмаў трох месяцаў вясны. Якія прэм'еры нельга прапусціць ні ў якім выпадку — чытайце тут.

**«Табу» (Taboo)**

*Драма. Вялікабрытанія, 1-ы сезон*
*Рэйтынг на IMDB: 8,7*

Лондан, XIX стагоддзе. Джэймс Дылэйні, якога даўно ўжо лічылі мёртвым, нечакана вяртаецца з Афрыкі пасля 10-гадовай адсутнасці. Вяртаецца акурат у той момант, калі памірае ягоны бацька і ідзе падзел спадчыны. Асаблівую цікавасць выклікае выспа Нутка. Здавалася б, непатрэбная нікому зямля дзесьці на заходнім узбярэжжы Канады.



Кадр з серыяла «Табу».

Калісьці бацька Дылэйні прывёз адтуль жонку, індыянку, якая ў выніку звар'яцела ў Брытаніі. Ад маці сыну — Джэймсу — перайшлі пэўныя містычныя здольнасці, якія ён яшчэ падмацаваў у Афрыцы. А Нутка аказваецца не такой ужо парожняй зямлёй, яна цікавіць усіх: карону, ЗША, Ост-Індскую кампанію — як месца, з якога можна весці гандаль з Кітаем.

Табу — гэта кампраметуючая сувязь Дылэйні з уласнай сястрой, якую абое не здольныя спыніць. Галоўную ролю выдатна сыграў Том Хардзі.

Тагачасны Лондан паказаны ва ўсім сваім заняпадзе — прайдзісветы, прастытуткі, рэкет, слабы кароль, бруд і нэндза. Атмасферная атрымалася стужка.

**«Маленькая вялікая хлусня» (Big Little Lies)**

*Драма, камедыя. ЗША, 1-ы сезон*
*Рэйтынг на IMDB: 8,7*

Райскі гарадок Мантэрэй на ўзбярэжжы Ціхага акіяна. Куды ні кінь — паўсюль ці мільянер, ці хіпі. Жыць у такім ідэальным месцы павінна быць сапраўднай асалодай, але жыхары Мантэрэя ўвесь час жывуць нейкімі інтрыгамі і плёткамі.

У гарадок пераязджае Джэйн Чапман з сынам Зігі. Гэта адзінокая, прывабная, маладая жанчына. Яна кажа, што прыехала ў Мантэрэй, бо тут найлепшыя грамадскія школы. Насамрэч жа Джэйн бяжыць ад зданяў мінулага, якія не адпускаюць яе ні на хвіліну.

Увесь серыял мы ведаем, што ў школе адбылося забойства, але не ведаем да апошняга, хто стаў ахвярай і хто катам. Героі час ад часу выказваюць свае здагадкі. А на экране — дзеянні, што адбываліся напярэдадні забойства.

«Маленькая вялікая хлусня» — гэта гісторыя пра тое, колькі бруднай бялізны хаваецца ў самых, здавалася б, паспяховых і эталонных дамах. Звонку вам усе зайздросцяць, але на самай справе вы жывяце ў пекле. Няхай і ў райскім Мантэрэі.

**«Трынаццаць прычын» (13 Reasons Why)**

*Драма. ЗША, 1-ы сезон*
*Рэйтынг на IMDB: 8,6*

Школьніца-падлетак Хана Бэйкер вырашае скончыць жыццё самагубствам. Перад тым, як пайсці на гэткі адчайны крок, яна запісвае трынаццаць аўдыякасет з тлумачэннем, што падштурхнула яе да суіцыду. Гэта не самы просты фільм для прагляду, за ім не будзеш сачыць з пап-корнам і кока-колай. Тут патрабуецца пэўная канцэнтрацыя.

Галоўны герой — Клэй Джэнсан — марудна прапускае праз сябе гэтыя касеты (адна з іх прысвечаная яму самому), рэфлексуючы і асэнсоўваючы ўсё пачутае. Рэакцыі Джэнсана самыя розныя: то ён хоча помсціць, то мірыцца з усім, то выбухае, то ўпадае ў дэпрэсію.

«Трынаццаць прычын» — гэта фільм-перасцярога. Ён пра ўважлівасць, спагадлівасць, пра тое, якая яшчэ крохкая псіхіка ў падлеткаў і як пэўныя рэчы могуць нанесці ёй знішчальны ўдар. Гэта таксама інтрыгі, страхі, комплексы, перажыванні.

На моладзь заўсёды прыемна глядзець, а тэма самагубстваў прыцягвае да сябе магнітам ужо не адно стагоддзе. Такая выбуховая сумесь і паспрыяла папулярнасці серыяла.

**«Добрая барацьба» (The Good Fight)**

*Юрыдычная драма. ЗША, 1-ы сезон*
*Рэйтынг на IMDB: 8,6*

Дыяна Локхарт (вы гэтую актрысу можаце памятаць па «Тэорыі вялікага выбуху» ў ролі мамы Ленарда) — паспяховы чыкагскі юрыст. Яна марыць выйсці на пенсію, весці ціхае і спакойнае існаванне за заробленыя за жыццё грошы. Дыяна абвяшчае аб сваіх планах кампаніі, на якую працуе, у яе гонар праводзяць развітальную вячэру.

Але нечакана ўсе яе грошы прападаюць, лопаецца фінансавая мыльная бурбалка, куды яна ўкладвала сродкі па парадзе сябра. Цікава, што акурат у гэты час на Дыяну працуе дачка дзялка, які прафукаў укладанні соцень людзей.

Назад на працу Дыяну браць ніхто не хоча, хаця раней ёй абяцалі залатыя горы. Толькі галоўны канкурэнт працягвае руку дапамогі.

У «Добрай барацьбе» выдатна выпісаныя жаночыя персанажы. Моцныя, валявыя, разумныя, часам ранімыя, але ўсё адно непераможныя.

**«Мільярды» (Billions)**

*Драма. ЗША, 2-і сезон*
*Рэйтынг на IMDB: 8,4*

У цэнтры серыяла супрацьстаянне федэральнага пракурора Нью-Ёрка Чака Роадса і маладога мільярдэра Бобі Аксельрода. Чак Роадс за сваю кар'еру не прайграў ніводнай справы, у яго ідэальны паслужны спіс, які ў будучыні можа дазволіць яму ісці ў губернатары ці, хто ведае, нават у прэзідэнты.

Але журналісты і калегі папракаюць Чака, што ён возіцца з дробнай здабычай, замест таго, каб узяцца за справу па-сур'ёзнаму. І тады Чак вырашае ўзяць у абарот Бобі Акса, уладальніка хедж-фонда. Гэта такія інвестыцыйныя фонды, якія працуюць на атрыманне максімальных даходаў у рызыкоўных момантах.

Сітуацыя ўскладняецца тым, што жонка Чака Роадса працуе псіхолагам у кампаніі Бобі Аксельрода. А бацька Чака, таксама той яшчэ дзялок і варацiла, можа паставіць сына ў не самыя прыемныя сітуацыі.

«Мільярды» — адзін з тых серыялаў сучаснасці, дзе няма станоўчых герояў, якім хочацца суперажываць, хоць Чак і здаецца звышпрынцыповым. Бобі ж — увесь пазітыў, але за гэтым усё адно хаваюцца цёмныя махінацыі.

**«Апошняе каралеўства» (The Last Kingdom)**

*Гістарычная драма. Вялікабрытанія, 2-і сезон*
*Рэйтынг на IMDB: 8,3*

Калі нехта маркоціцца, што пакуль не выйшаў новы сезон серыяла «Вікінгі», каб даведацца, што новага будзе ў Івара і Б'ёрна, рэкамендуем звярнуць увагу на падобны фільм, толькі ад іншых вытворцаў. Нехта выказваў думку, што брытанцы ў «Вікінгах» — самыя недарэчныя персанажы, якія толькі плятуць здраджваюць ды не могуць нічога супрацьстаяць магутнай сіле з поўначы.

Тут іншы погляд на тую самую гісторыю. Утрэд Бабенбургскі выхаваны вікінгамі, якія перад гэтым забілі ягоную сям'ю. Утрэд не з'яўляецца сваім ні для брытаў, ні для вікінгаў. Ніхто не давярае яму напоўніцу. Утрэд — той яшчэ шэльма і круцель, але ў яго ёсць смеласць і адчай.

Такія людзі патрэбныя каралю Уэсэкса Альфрэду Вялікаму. Гэта апошняе каралеўства Брытаніі, якое яшчэ захоўвае пэўную незалежнасць ад варвараў з поўначы. І Утрэд павінен дапамагчы ў гэтым змаганні.

Канечне, героі «Апошняга каралеўства» часам падаюцца занадта саладжавымі і гламурнымі. Не надта верыцца, што людзі ў IX стагоддзі выглядалі менавіта так. Але для пэўнай рэтраспектывы паглядзець можна і гэтую стужку.

**Зміцер Панкавец**

# Як выжывае хлопец андрагіннай знешнасці, які трапіў па размеркаванні ў вёску

**Людзі, якія не ведаюць Уладзіслава Ліксунова асабіста, звычайна канфузяцца: хлопчык перад імі ці дзяўчынка? Сам ён ужо даўно прызвычаіўся да пільнай увагі да сваёй персоны. Уладзь расказаў «НН», як жыць у талерантнай (?) беларускай правінцыі, калі ты не такі, як усе.**

«Да нас едзе бухгалтар!» — здаецца, гэта навіна за апошнія некалькі гадоў стала галоўнай падзеяй для вёскі Янава, што ў Віцебскай вобласці. Бухгалтары-мужчыны — у прынцыпе з'ява ўнікальная, а калі яны яшчэ і незвычайна выглядаюць!..

«Калі я толькі прыбыў сюды, мне далі хацінку, у якой нават печ нельга было паліць, прыбіральня і калонка знаходзіліся на вуліцы. Канешне, я так ніколі не жыў, таму пачаў шукаць лепшы варыянт. Знайшоў больш-менш прыстойны пакой, які зараз здымаю ў мясцовай жанчыны», — згадвае Уладзь.

Але трошкі адматаем гэтую гісторыю.

Любоў да эксперыментаў са сваёй знешнасцю напаткала хлопца нечакана. У 2006 годзе ён набыў музычны часопіс, дзе з вокладкі на яго пазіраў сумны хлопчык з яркачорнымі валасамі і нафарбаванымі вачыма. Гэта быў Біл Каўліц з *Tokio Hotel*. Яго разважанні ў інтэрв'ю і адвага самавыяўлення натхнілі падлетка — і, як кажуць, Астапа панесла.

«У звычайным вобразе, шырокіх штанах і майках, што выбіралі бацькі, мне з дзяцінства было некамфортна. Прыклад Біла дапамог мне раскрыцца, не баяцца выглядаць так, як хочацца».

Уладзь пачаў мяняцца разам са сваім кумірам: незвычайныя стрыжкі, цёмная вопратка, нафарбаваныя вочы, начосы, амаль андрагінная знешнасць, блізкая да анарэксіі... Увесь гэты працэс вельмі захапляваў яго, але не сваякоў і адміністрацыю гімназіі. «У школе мяне пачалі цкаваць, я пастаянна чуў на свой адрас знявагі, мяне штурхалі і абкладвалі мацюкамі. Дырэктар некалькі разоў выклікаў на «дыван». Я прыходзіў дадому і стараўся забыць гэтыя падзеі, як жахлівы сон. Бацьку таксама не падабалася тое, якім падрастае яго адзіны сын. Канечне, ён хацеў бачыць мяне «нармальным», але пасля шэрагу скандалаў і размоў яны з маці змірыліся».

Нягледзячы на тое, што Уладзь марыў падацца ў творчую прафесію і вывучыцца на візажыста ці цырульніка, паспрабаваць сябе ў мадэльным бізнэсе, маці з татам настаялі, каб перш-наперш сын атрымаў «сур'ёзную спецыяльнасць».



Нядаўні школьнік стаў студэнтам Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі (той самай, якую скончыў Аляксандр Лукашэнка). Вясковага размеркавання, якое характэрна для большай часткі профіляў гэтай установы, пазбегнуць не ўдалося — так ён апынуўся ў Янаве, дзе яму адкрыўся зусім невядомы да гэтага свет.

Мясцовае насельніцтва новага суседа сустрэла з цікаўнасцю. Жанчыны дык увогуле вельмі хутка пачалі прымаць хлопца за свайго, калі ён расказваў ім, што такое цірамісу, часопіс *Vogue* і шмат іншага. А вось мужчыны дагэтуль могуць дазволіць сабе негатыўныя каментары на адрас хлопца.

«Ёсць мужыкі, якім я вельмі не падабаюся. Асабліва яны не могуць успрыняць мой «жаночы голас» і доўгія валасы. Гэта пры тым, што ў вёсцы я стараюся збіраць іх у хвост ды пазбягаць яркай касметыкі! Да збіцця, дзякуй божа, не даходзіць: фізічнае прыставанне засталося ў школьных сценах», — расказвае Уладзіслаў.

Праз некалькі месяцаў адаптацыі хлопец здабыў славу нядрэннага стыліста: кабеты з канторы пачалі раіцца з калегам наконт знешнасці і нават звяртацца па дапамогу — выскубаць бровы ці зрабіць мэйкап.

«Адна з жанчын нядаўна папрасіла мяне зрабіць дачцэ макіяж на выпускны. Такі давер, прызнаюся, цешыць маё самалюбства. Калі ты бярэш у рукі пэндзлік і ствараеш на твары нешта новае, падкрэсліваеш лепшыя рысы чалавека — гэта сапраўдны кайф. Такая справа прыносіць мне задавальненне. Я гатовы ў гэтым жыць і памерці».

Што тычыцца бухгалтэрыі, адразу было зразумела, што гэта не гісторыя нашага героя. Ад падліку запчастак, малака і сродкаў хлопец шалее. Асабліва цяпер, калі ў калгасе праблемы з заробкамі: апошні раз з некаторымі разлічваліся ажно ў снежні.

Ад мары стаць шматпрофільным *beauty*-спецыялістам Уладзь да гэтага часу не адмовіўся і закрэслівае дні, якія засталіся да канца размеркавання. Можа, са сваім досведам ён аднойчы адчыніць салон прыгажосці ў такой вось правінцыі?

У канцы нашай гутаркі Уладзь дае ўсім, хто да гэтага часу баіцца самавыяўляцца, параду, дзейнасць якой ён праверыў на сабе: «Не трэба звяртаць увагу на каментары чужых людзей. Заставайцеся сабой: жыццё ў нас адно. Галоўнае, верыць у сябе, што б ні здарылася. Нават самая складаная сітуацыя прадугледжвае прасвет».

**Кацярына Карпіцкая, фота з асабістага архіва героя**

# Уся Беларусь збірае бонсцікаў. Новае масавае хобі




Лупач, Крол, Жаўтапуз, Лыба, Гуглік — за некалькі месяцаў імёны персанажаўліпучак з «Еўраопта» сталі вядомыя амаль кожнай беларускай сям'і, дзе ёсць дзеці. Хаця, калі казаць шчыра, некаторыя дарослыя падселі на калекцыянаванне гумовых цацак не менш за малых: закупіўся на 15 рублёў — атрымай у падарунак пачварку (галоўнае, каб яна не паўтаралася).

Бонсцікі — гумовыя цацкі ў выглядзе іншапланетнікаў, якія выдаюць кліентам у сетцы супермаркетаў «Еўраопт» за кожныя 15 рублёў у чэку.

За Бонсцікамі-1 ужо прыйшлі Бонсцікі-2, на мінскую прэзентацыю якіх у маі прыйшло 2500 чалавек!

Як «НН» распавяла кіраўніца піяр-аддзела «Еўраопта» Таццяна Курбат, вобразы і імёны бонсцікаў распрацавала творчая група кампаніі.

«Мы прааналізавалі рэакцыю людзей на падобныя праекты ў іншых краінах і зразумелі, што хочам зрабіць маштабней і заўважней. На наш погляд, нам удалося. Тое, што «заліпла» ўся краіна, як мы кажам унутры кампаніі, гэта відавочна, — адзначае Таццяна. — Мы зразумелі, што ідэя ажывіць некалькі герояў аказалася слушная, таму што дзецям хочацца свята. Мы гэтае свята пастараліся для іх зрабіць. Мы прыдумалі для дзяцей казку, у якую яны паверылі».

Колькі дакладна бонсцікаў было выпушчана — камерцыйная таямніца, аднак Таццяна кажа, што лік ідзе на мільёны. Першапачаткова планавалася, што першая акцыя працягнецца месяц. Аднак паколькі беларусаў, якія масава пачалі калекцыянаваць пачварак, было ўжо не спыніць, не стрымаць — кампанія вырашыла падоўжыць калектыўнае «вар'яцтва».

Людзі абменьваюцца цацкамі, прадаюць іх. У афіцыйнай суполцы бонсцікаў Укантакце — больш за 30 тысяч чалавек, кожны з якіх чакае, што калінебудзь лялькі наведаюць іх горад.

«Бонсцікі сталі сапраўднымі кумірамі», — радуецца кіраўніца піяр-аддзела «Еўрагандлю» Дар'я Лыскавец.

Акцыя з новымі бонсцікамі мае скончыцца ў сярэдзіне чэрвеня. Але ўжо зараз маркетынгавая служба дае зразумець, што і гэта не стане фіналам гісторыі. Толькі яе пачатакам.

**Кацярына Карпіцкая, Настасся Роўда**

## Названы самыя пітушчыя краіны. Беларусь — на 2-м месцы ў свеце

Жыхары Літвы з'яўляюцца сусветнымі лідарамі па спажыванні алкаголю, сведчаць дадзеныя мінулага года, якія агучыў прадстаўнік Сусветнай арганізацыі здароўя (СААЗ) Гаўдзі Галеа, піша *Delfi.lt*.

У Літве ў 2016 годзе адзін жыхар у сярэднім спажываў 16 літраў алкаголю. «Гэта, па найноўшых падліках, робіць яе (Літву) найбуйнейшай п'яніцай у Еўропе, а таксама самай пітушчай краінай у свеце», — заявіў Галеа.

На другім месцы размясцілася Беларусь, дзе на кожнага жыхара краіны прыпадае каля 15 літраў алкаголю ў год.

Трэці радок займае Латвія (у сярэднім каля 13 літраў на кожнага жыхара краіны).

Расія разам з Польшчай размясціліся на чацвёртым радку з паказчыкам крыху больш за 12 літраў на кожнага жыхара.

Лепш за ўсё, па дадзеных СААЗ, сітуацыя з вырашэннем праблем, звязаных з ужываннем алкаголю, складваецца ў Заходняй Еўропе



## Жонка расійскага алігарха пахвалілася пярсцёнкам цаной $9 мільёнаў

Не так даўно яна апублікавала ў інстаграме здымак падарунка на 5-годдзе шлюбу — пярсцёнак у 70 карат. Брытанскае выданне *The Sun* ацэньвае гэтае ўпрыгажэнне ў 9 мільёнаў даляраў.

«Мой муж ніколі не бывае сквапным. Цяпер ён вырашыў, што мне недастаткова пярсцёнка ў 30 карат», — напісала 27-гадовая Ксенія Царыцына.

Аляксей Шапавалаў зарабіў грошы на гульнявым бізнэсе ў пачатку 90-х. Пасля ён пачаў укладваць грошы ў будаўніцтва. На мільянера здзяйснялі замахі.



## Новы сэкс-робат можа адчуваць аргазм і мае здымныя палавыя органы



Амерыканскія інжынеры распрацавалі суперрэалістычнага сэкс-робата з мянушкай Гармонія, паведамляе *The Sun*. Акрамя таго, што Гармонія можа адчуваць аргазм, яна запамінае любімую ежу, музыку, фільмы і іншыя перавагі свайго гаспадара і нават ніколі не забывае пра яго дзень нараджэння. Гармонію можна было б лічыць дзеючынай мары, калі б не адна акалічнасць: робат не можа хадзіць, таму не складзе вам кампанію ў прагулцы.

З сэкс-робатам можна будзе размаўляць, такім чынам штучны інтэлект створыць альтэрнатыўную форму ўзаемаадносін.

Сіліконавая Гармонія можа мець 18 розных эмоцый (сарамлівасць, сэксуальнасць, раўнасць, капрызнасць, балбатлівасць і іншыя), 42 колеры скаскоў, а таксама 14 разнастайных варыянтаў палавых губ, якія можна зняць і памыць нават у пасудамыйнай машыне.

Распрацоўшчык Гармоніі Мэт Мак-Мюлен ствараў сэкс-робата яшчэ з 1990-х гадоў. Ён упэўнены, што яго сэкс-робаты дапамогуць тым, хто адчувае цяжкасці ў зносінах з жанчынамі альбо недахоп часу.

Да канца 2017 года Гармонія трапіць у продаж па ўсім свеце і будзе каштаваць каля 15 тысяч даляраў.



# Беларусы на службе ЦРУ: Кастусь Мярляк

*Працяг. Пачатак у нумарах 2—5 за 2017 год.*

Мярляк быў першым агентам ЦРУ ў беларускай эміграцыі ў ЗША.

Гэты чалавек у дакументах ЦРУ згадваецца пад псеўданімамі Philip E.Launais, Donald R.Wakild і Conrad P.Mason, а таксама пад крыптанімамі AEPRIMER-1 ды AEREADY-2. Праграма AEPRIMER (1957–1959 гг.) фактычна дублявала мэты праекту AEQUOR, аб якім ішлося вышэй (нелегальнае пранікненне агентаў на тэрыторыю СССР). AEREADY (пазней AEDEPOT, 1957–1965 гг.) — гэта праект, які прадугледжваў падрыхтоўку агентаў на выпадак пачатку вайны з Савецкім Саюзам.



Кастусь Мярляк (леваруч) з сям'ёй.

### Паплечнік Рагулі

Кастусь Мярляк (часам прозвішча пішацца «Мерляк») нарадзіўся ў 1919 годзе ў Дзетамлі на Навагрудчыне.

Хлопец добра вучыўся і нават атрымаў дзяржаўную стыпендыю ў сельскагаспадарчай школе. За Саветамі працаваў у банку, за немцамі служыў у Самапомачы і мясцовай адміністрацыі на Навагрудчыне, дзе ягоным падначаленым пэўны час быў паэт і падпольшчык-камуніст Валянцін Таўлай.

Князь Андрэй Трубяцкой, які падчас вайны быў прызваны ў савецкую армію і трапіў у палон, але вызваліўся адтуль дбанням сваякоў, графаў Храптовічаў, пакінуў цікавыя ўспаміны аб сваім побыце ў акупаваным Навагрудку, у тым ліку аб шумнай гулянцы мястэчковага «бамонду» ў кватэры супрацоўніка магістрата Кастуся Мерляка ў першыя дні 1943 года, калі госці пабілі ўвесь посуд і знішчылі нават стол, за якім сядзелі, а Барыс Рагуля адзначыўся яшчэ і страляннем з пісталета ў столь. Разам з тым Трубяцкой адзначыў, што вяртаць грошы за нанесеную шкоду не сталі, бо «ў пацярпелага грошай шмат». Але ці ў грошах шчасце? Вайна аднолькава жорсткая да ўсіх — увосень 1942 года загінула маці Кастуся, якую, як ён сцвярджаў, падчас партызанскага нападу жорстка збілі прыкладамі за адмову аддаць вопратку.

Падчас акупацыі Мярляк скончыў афіцэрскія курсы, а пазней быў інтэндантам паліцэйскага батальёна № 68, якім камандаваў Барыс Рагуля (больш вядомы як «Навагрудскі швадрон»). З гэтай адзінкай Кастусь улетку 1944 года пакінуў Беларусь. Ён вывез на грузавіку бежанцаў з Навагрудка — сям'ю Рагулі і сваякоў іншых байцоў батальёна.

Сям'я самога Мерляка засталася ў Беларусі — брат Іван быў пасля мабілізаваны ў савецкую армію, штурмаваў Будапешт і Вену.

### Перайсці на бок саюзнікаў

А Кастусь перш трапіў у ліпені 1944-га ў разведшколу ў Дальвіцы, але амаль адразу вырваўся адтуль. Праз некаторы час сустрэўся ў Берліне з беларускім кіраўніком школы Усевaладам Родзькам і паведаміў яму, што даўно мае планы перайсці на бок саюзнікаў, бо Нямеччына ў вайне відавочна прайграе.

Родзька ўхваліў такі план, і неўзабаве Мярляк апынуўся ў складзе вайсковай адзінкі, якую ўзначальваў даўні супрацоўнік абвера Юры Вежан (у дакументах ЦРУ прозвішча пішацца «Вежын»), які займаўся падрыхтоўкай беларускіх дэсантнікаў яшчэ напярэдадні нямецкага нападу на СССР. Цяпер у Італіі ён рыхтаваў для абвера агентаў-беларусаў, якія мусілі інфільтравацца ў 2-і корпус арміі Андэрса і агітаваць сваіх суайчыннікаў, што служылі ў гэтым фарміраванні, пераходзіць на нямецкі бок.

Як толькі Мярляк, забяспечаны грашыма і легендай на імя «Конрад Мацкевіч», выйшаў на заданне, ён зараз жа здаўся ў палон да амерыканцаў і быў інтэрнаваны ў лагеры, адкуль неўзабаве таксама ўцёк. Пры дапамозе беларускіх святароў у Рыме яму ўдалося легалізавацца пад сваім сапраўдным імем. Пры канцы 1947 года Кастусь Мярляк эміграваў у Аргенціну, дзе ажаніўся ў 1950-м з Ганнай Губерт, этнічнай немкай родам са Случчыны, а таксама разгарнуў шырокую грамадскую дзейнасць сярод беларусаў-эмігрантаў. Беларусы ў Аргенціне да той пары былі раскіданыя па мностве разрозненых арганізацый, пераважна прасавецкага кірунку. Мярляку ўдалося аб'яднаць эмігрантаў на незалежніцкім, антысавецкім грунце ў межах Згуртавання беларусаў у Аргенціне. З 1948 года Кастусь Мярляк узначальваў таксама прадстаўніцтва Рады БНР у гэтай краіне.

### Аргенцінскі перыяд

У справе Мерляка, што захавалася ў ЦРУ, прыведзены тэкст ліста, змешчанага ў №28 (118) савецкай газеты «За вяртанне на Радзіму» ад траўня 1957 года, пад загалоўкам «Не, пан Мярляк, на хлусні далёка не паедзеш!». Аўтарам быў пазначаны жыхар г.п.Васілевічы Гомельскай вобласці Мікалай Чырык, які трапіў у нямецкі палон падчас баёў у Крыме, а пасля бадзянняў па паваеннай Еўропе перабраўся ў Паўднёвую Амерыку, дзе, жывучы пад імем Івана Вежанскага, «зведаў сапраўдную сутнасць» заснаванага Кастусём Мерляком Згуртавання беларусаў у Аргенціне, якое, паводле Чырыка, было «зборышчам прадажных душ, якія за амерыканскія даляры льюць бруд на нашу краіну і вярбуюць шпіёнаў для падрыўной дзейнасці ў ёй».

Ці сапраўды маральнае аблічча сяброў ЗБА было такім жахлівым? Наўрад ці. Напрыклад, адным з найбліжэйшых супрацоўнікаў Мерляка ў Аргенціне быў сумленны чалавек Пятро Саўчыц — колішні актывіст Саюза беларускай моладзі ў Вілейцы, які падчас нацысцкай акупацыі ўратаваў ад спалення вёску Бараўцы. Партызаны падарвалі на дарозе побач аўтамабіль з немцамі, і гітлераўцы ў адплату за гэта хацелі спаліць вёску разам з жыхарамі, а Саўчыц заступіўся за вяскоўцаў. Ён жа ратаваў з вілейскай турмы СД людзей, западозраных у супрацоўніцтве з партызанамі.

Мікалай Чырык распавядаў, як цудоўна ўладкаваўся з усёй сям'ёй у БССР, дзе яго дачка мае магчымасць вучыцца на роднай мове. Пералічваючы імёны сваіх сяброў у эміграцыі, ён заклікаў: «Плюньце на агідную хлусню нікчэмнага Мерляка, хутчэй вяртайцеся на родную зямлю». Агульны тон ліста паказвае, што ён відавочна зазнаў праўкі савецкага рэдактара, калі не быў сфальсіфікаваны цалкам. З пазнейшых дакументаў у справе мы даведваемся, што Мярляк паведамляў аргенцінскім спецслужбам аб прасавецкай актыўнасці Чырыка.

### Першы, ды не найлепшы

З часам Кастусь Мярляк адчуў, што вычарпаў усе магчымасці працягваць кар'еру ў Аргенціне, і вырашыў перабрацца ў ЗША. Ён прыбыў у Нью-Ёрк у 1954 годзе, і ўжо пры канцы 1956-га распачаў супрацоўніцтва з ЦРУ. На той час Мярляк быў адзіным агентам гэтай спецслужбы ў асяродку беларускай эміграцыі ў ЗША.

Падчас першай сустрэчы з супрацоўнікамі ЦРУ ў прысутнасці Міколы Абрамчыка 17 снежня 1956 года ў Нью-Ёрку ён прапанаваў амерыканскай разведцы спіс з трох дзясяткаў патэнцыйных, на ягоную думку, кандыдатаў для праекта AEREADY. Сярод іх быў, напрыклад, Леў Стагановіч — сын колішняга пасла польскага Сейму Аляксандра Стагановіча і былы сябар Саюза беларускай моладзі ў Баранавічах.

У рапарце аб сустрэчы адзначалася, што Мярляк нічога не ведаў аб ранейшых супольных праектах ЦРУ і Рады БНР — што, аднак, наўрад ці адпавядала праўдзе: падчас вандроўкі з Аргенціны ў ЗША Кастусь у Бразіліі сустрэўся з Віктарам Спалічам, які «расказаў сваю гісторыю жыцця, асабліва з часоў пабыту ў Нямеччыне й Лондане, і растлумачыў, як і чаму ў 1953 годзе прыбыў ён у Бразілію». Рэч у тым, што пад імем Віктара Спаліча хаваўся Якуб Амор (Кастусь Кадушка) — той самы меркаваны краўнік дэсантнай групы Рады БНР, які ў 1952-м адмовіўся выконваць заданне і выехаў з Еўропы ў Бразілію.

Кастусь Мярляк выкарыстоўваў сваё супрацоўніцтва з амерыканскай разведкай у тым ліку супраць сваіх палітычных апанентаў. У справе, напрыклад, захоўваецца паведамленне Мерляка ад красавіка 1957 года аб з'яўленні ў Нью-Ёрку газеты «Беларускае слова», якая, на ягоную думку, мела пракамуністычны кірунак і выдавалася асобамі, якія былі вядомыя сваёй камуністычнай дзейнасцю — сярод іх называліся Іван Касяк, Аркадзь Арэхва і Палікарп Манькоў. Ім закідалася таксама распальванне між эмігрантамі варажнечы паводле канфесійнай прыкметы (прапаганда супраць каталікоў ды ўніятаў) і скіраванасць супраць праамерыканскіх беларускіх арганізацыяў.

Адзначалася таксама, што Манькоў і Арэхва мелі на эміграцыі ў Еўропе праблемы праз сваю пракамуністычную актыўнасць перад вайной у Заходняй і Усходняй Беларусі адпаведна, а Касяк, які перш быў актывістам камуністычнага руху ў міжваеннай Вільні, затым падчас нямецкай акупацыі супрацоўнічаў з СД у Менску і Вілейцы. Падобныя паведамленні рабіў Мярляк і аб пракамуністычнай дзейнасці беларускага эмігранта ў Канадзе, выдаўца газеты «Беларускі голас» Сяргея Сіняка (Хмары), альбо аб антыбэнээраўскіх выказваннях літаратара Алеся Яцэвіча-Змагара.

### Скраў у банку

Між іншага, яшчэ напачатку супрацоўніцтва Кастусь выказаў пажаданне, каб адрас ягонага бацькі ў Дзетамлі Навагрудскага раёна выкарыстоўваўся ў межах праграмы рассылкі эміграцкіх выданняў, бо ён і раней паспяхова перапісваўся з бацькам, дасылаючы лісты і пасылкі з Вашынгтона ад імя сваёй цёткі, Барбары Пятроўскай.

У справаздачы аб тэсціраванні, якое Кастусь Мярляк прайшоў у ліпені 1957 года ў ЦРУ, адзначаецца, што ягоны інтэлект «вышэйшы за сярэдні па ЗША, што выгадна адрозніваe яго на тле выпускнікоў каледжаў і афіцэраў упраўлення», прытым гэта было пераважна вынікам ягонай самаадукацыі. З другога боку, яму не ставала «іскры творчасці і арыгінальнасці».

Падчас апытання 25 ліпеня 1957 года Мярляк прызнаваў, што, запаўняючы паперы на выезд у ЗША, прыхаваў свае дачыненні з абверам. Апытанне прадугледжвала мноства пунктаў, якія мелі на мэ-

це высветліць, ці здзяйсняў агент непажаданыя ўчынкі і ці не быў ён адкрыты для шантажу. Так, напрыклад, высветлілася, што Кастусь у 1940 годзе скраў з савецкага банка, дзе працаваў у Карэлічах, 700 рублёў, а падчас нямецкай акупацыі не раз займаўся падробкай дакументаў. Таксама ў 1947, вандруючы па Італіі, ён нібыта знайшоў 31 тысячу ліраў і нічога не зрабіў, каб вярнуць іх уладальніку.

У справе захоўваюцца вынікі фізічнага і псіхалагічнага тэсціраванняў, ацэнкі інтэлектуальнага ўзроўню, праверкі на паліграфе і падрабязны разбор біяграфіі Мерляка і ўсёй яго сям'і. Між іншага, ён паведаміў, што падчас нацысцкай акупацыі таемна вывез у лес з гета дзвюх дзяўчат-яўрэек. Пры канцы справаздачы аб сумоўі эксперт ЦРУ адзначыў, што падчас расповеду пра сваю дзейнасць у 1939–1941 гадах Кастусь Мярляк заўважна хваляваўся і прызнаўся, што ўпершыню гаворыць праўду пра гэты перыяд свайго жыцця.

## Скандалы, расследаванні

Захавалася ў справе і датаваная вераснем 1957 года копія тэксту ліста пад загалоўкам «Мы дэмаскуем», дасланага ў Раду БНР ужо згадваным Сяргеем Хмарам. Ва ўласцівым сабе духу ён пачынаў: «Заўсёды мы стараемся дэмаскаваць усякую крывіцую здзелку, а таксама не падтрымоўваем і розных зарубежніцкіх махінацыяў». Хмара звяртаўся да эмігрантаў з інфармацыяй пра арышт групы Вострыкава і планы Радаслава Астроўскага па вярбоўцы новых агентаў для ЦРУ. Ліст скончваўся папярэджаннем «зацікаўленым, каб яны ведалі, у чым тут справа, і перасцерагчы наіўных, каб іх не спаткаў лёс, падобны тым, якія паслала Абрамчыкава група». Хмара таксама адзначаў, што Астроўскі нібыта працуе на карысць Народна-працоўнага саюза (НТС) — расійскай нацыяналістычнай арганізацыі, з якой той сапраўды меў дачыненне яшчэ ў акупаваным нацыстамі Смаленску. А НТС, пісаў Хмара, у сваю чаргу, працуе на ЦРУ. Натуральна, такія «расследаванні» не маглі застацца па-за ўвагай амерыканскіх спецслужбаў.

У снежні 1957 года Мярляк прапаноўвае ЦРУ новых кандыдатаў для падрыхтоўкі ў межах праграмы AEREADY — сярод іх Вальтар (Уолтэр, Вячка) Станкевіч, які пазней стане рэдактарам беларускай службы радыё «Свабода» (сын мовазнаўца Яна Станкевіча), і Нікодым Жызнеўскі, які ўзначальваў беларускае радыё ў Чыкага (ягоны брат, сябар СБМ Уладзімір быў забіты падчас антыпартызанскай акцыі ў 1943 годзе ля Глыбокага).

Яшчэ адным з кірункаў дзейнасці Кастуся Мерляка ў супрацы з ЦРУ быў пошук кандыдатаў для легальных вандровак у ПНР і СССР дзеля разведкі. Напрыклад, разглядалася магчымасць выкарыстання ў гэтых мэтах праграмаў студэнцкага абмену. Кастусь настойваў, што як мага большую колькасць агентаў трэба выправіць у Польшчу, адкуль яны здолеюць падтрымліваць сувязь і з Беларуссю. Аналіз прыватных лістоў з Польшчы і СССР, з якімі меў магчымасць азнаёміцца Мярляк у 1959 годзе, паказваў, на ягоную думку, што Саветы рыхтуюцца да вайны.

У лістах ад розных адрасатаў гучалі трывожныя ноты: «Дзядзя Фёдар [умоўная назва СССР] кажа, што рыхтуецца да сустрэчы з вамі»; «Яны кажуць, што неўзабаве прыйдуць да вас і забяруць вашы даляры ды аўтамабілі, і я думаю, што так яно і будзе, калі меркаваць па тым, што адбываецца».

Брат Кастуся пісаў, што не хоча вайны, і пытаўся, ці той з ім згодны. Бацька ў лістах таксама папярэджваў: «Паводзьцеся добра, бо, калі мы да вас дабярэмся, у вас будуць праблемы».

## Агент з агентам

Прыкладна на гэты ж час прыпадае шэраг сустрэчаў Мерляка з Аляксандрам Сітнікавым, другім сакратаром місіі БССР пры ААН, з якім яны пазнаёміліся ў студзені 1959 года ў пункце абмену кніг і перыёдыкі з БССР і ПНР, што дзейнічаў у адной з нью-ёркскіх кнігарняў пад кіраўніцтвам Антона Шукелойця. Змест гутарак, якія вяліся, у тым ліку, на палітычныя тэмы, падрабязна зафіксаваны ў рапартах ЦРУ. Сітнікаў усяляк агітаваў Кастуся прыехаць у Беларусь самому ды пераканацца ў яе росквіце.

Пасля нарады з сябрамі Мярляк прыйшоў да высновы, што Сітнікаў з'яўляецца агентам савецкіх спецслужбаў і, мусіць, братам Васіля Сітнікава, які напачатку 1950-х быў намеснікам галоўнага рэзідэнта МДБ у Вене (пазней В.Р.Сітнікаў курыраваў ад КДБ маскоўскую багему, знаходзячыся на пасадзе намесніка старшыні Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах). Кастусь, у сваю чаргу, намаўляў Сітнікава застацца ў ЗША. Нічым гэтыя размовы не скончыліся.

Неўзабаве Кастусь Мярляк трапіў у непрыемную гісторыю. Увесну 1958 года Савецкую Беларусь вырашыў наведаць уласны дзядзька Кастуся, які яшчэ з даваеннай пары жыў у эміграцыі. Ён захацеў пабачыць радзіму перад смерцю. Кастусь падбіў яго, каб ён падчас паездкі здымаў на каляровую фота- і кінастужку сцэны з савецкага жыцця. Дзядзька з жонкай пагадзіўся. Праўда, са сваякамі ім сустрэцца так і не далі, у Мінску іх затрымлівалі за фатаграфаванне на чыгуначным вакзале, пастаянна сачылі і нібыта нават спрабавалі атруціць. У выніку дзядзька даслаў Кастусю рахунак на 1800 даляраў. Акурат у гэты момант у ліпені 1959 года высветлілася, што ЦРУ спыняе супрацоўніцтва з Кастусём Мерляком, як адзначана ў дакументах — «у мэтах эканоміі».

Сваякі яшчэ пару гадоў спрабавалі дамагчыся ад Мерляка выплаты грошай, але ўвесну 1962 года былыя куратары агента канчаткова пастанавілі, што Кастусь Мярляк перавысіў свае паўнамоцтвы, абяцаючы, нібы паездка будзе аплачаная.

...Мярляк жа надалей заставаўся палітычна актыўным, у 1959–1963 гг. ён узначальваў Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА).

## На прыёме ў КДБ

У 1992 годзе Мярляк выдаў аўтабіяграфію пад няхітрай назвай «Жыццё і дзейнасць Кастуся Мерляка», дзе, распавядаючы пра сябе ў трэцяй асобе, паведаміў аб уласным жыцці ад нараджэння да часоў перабудовы. Між іншага, ёсць у ёй і інфармацыя, якая намякае на яго ўтаямнічанасць у супрацьстаянне разведак — напрыклад, там ідзецца пра трагічную ролю Кіма Філбі, чыёй злой воляй мемуарыст тлумачыць нават паваеннае аднаўленне дзейнасці БЦР, якое прывяло да расколу беларускага грамадства на чужыне.

Успаміны Мерляка надзвычай падрабязныя, эгацэнтрычныя і настолькі засмечаныя канцылярызмамі, што іхны стыль месцамі нагадвае нават «Запіскі Самсона Самасуя». Але ні пра крадзеж грошай з савецкага банка, ні пра работу на ЦРУ там, вядома, не згадана.

Пра яго казалі: «Калі Мерляка не пускаюць праз дзверы — ён улазіць праз вакно» — і ён цытаваў гэта з гонарам.

Былы рагулеўскі інтэндант і агент ЦРУ, Мярляк не пабаяўся наведаць Беларусь пасля атрымання ёю незалежнасці. Больш за тое, ён нават запісаўся на прыём да тагачаснага старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага і дамогся ад яго запэўнівання, што тым з эмігрантаў, хто не здзейсніў злачынстваў, няма чаго баяцца ў незалежнай Беларусі.

Старшыня замежнай камісіі БНФ Валянціна Трыгубовіч, якая была разам з Мерляком на той сустрэчы, прыгадвала: «І вось выходзім мы з ім на ганак Камітэта дзяржбяспекі, і ён раптам так здзіўлена ў мяне пытае: «А дзе журналісты? Я быў прыняты старшынёй КДБ — я мушу гэта расказаць журналістам...»

Памёр Кастусь Мярляк на 88-м годзе жыцця 27 лістапада 2007 года.



# Памёр кс. Ян Шуткевіч, які шмат зрабіў у справе аднаўлення касцёлаў у Беларусі

4 чэрвеня пасля працяглай хваробы на 85-м годзе жыцця ў Вільні адышоў у вечнасць кс. Ян Шуткевіч. Ён нарадзіўся ў сям'і графа Тышкевіча пад Вільняй.

Савецкія салдаты забілі яго бацьку, а маці пад прозвішчам Шуткевіч з малым сынам Янам схавалася ў Гродне. Будучы святар вучыўся на дырыжорскім факультэце Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. Фармацыю да святарства праходзіў у Каўнаскай духоўнай семінарыі. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў у 1983 г.

У гісторыю Касцёла ў Беларусі ўвайшоў як выдатны рэстаўратар. З 1987 г. па 1994 г. ксёндз Ян Шуткевіч быў пробашчам парафіі Св. Апостала Андрэя ў Лынтупах. Падняў з руінаў і аднавіў касцёл Св. Антонія Падуанскага ў Паставах.

У той жа час таксама апекаваўся касцёлам Св. Яна Хрысціцеля ў Камаях і касцёлам у Лучаі. Дзякуючы яго намаганням і руплівасці, гэтыя святыні былі адноўлены. Гэтым святаром былі таксама адбудаваны капліцы ў Мягунах, Маньковічах, Груздове.

У 1994—1997 гг. выконваў абавязкі пробашча мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і прычыніўся да яе рэстаўрацыі. Затым выконваў абавязкі рэктара і рэзідэнта касцёла Св. Барталамея ў Вільні, дзё шмат зрабіў для аднаўлення святыні. Сёння ў гэтым касцёле праходзяць набажэнствы для беларускай дыяспары па-беларуску.



# Чужая ў Гомелі

Дзённік Алены Германовіч.

*Алена Германовіч нарадзілася ў 1978 у вёсцы Раднікі Валожынскага раёна. Працуе яна карэспандэнткай агенцтва БелаПАН у Гомелі. Яна адзін з найлепшых рэпарцёраў Беларусі і, прафесія такая, бясконца падарожнічае. Суды, крымінальныя і палітычныя, прапускае яна праз сябе. А яшчэ яна маці двух цудоўных сыноў. А яшчэ яна ў тым Гомелі, куды размеркавала яе жыццё, трохі чужая, і жыве марай пра вяртанне на сваю малую радзіму. З гэтага жыцця — цягнікі, маршруткі, суды, падарожжы — складаецца свайго роду дзённік, які яна вядзе на сваёй старонцы ў фэйсбуку.*

*Прапануем вашай увазе запісы за 2016 і 2017 гады.*



ПАВЕЛ МІЦКЕВІЧ МАБІЛКАЙ АЎТАРКІ

### 8 красавіка

Усе, усе бажавольныя, як адзін. У цягніку едзем з чалавекам. Жыве ў Слонімскім раёне, едзе ў вёску Маладуша. Ён думаў, гэта Хойніцкі раён, таму ехаў да Хойнікаў. Мы яго пераканалі, што Маладуша — Рэчыцкі раён, і таму «ссадзілі» яго разам з намі ў Рэчыцы. Чаго ты едзеш, чалавеча, аж са Слоніма ў Маладушу? — Чуў, што там трактарысты трэба, а я трактарыст. — А ё вам хоць дзе начаваць у Маладушы? — Ат, не маленькі, не прападу. На вакзале даведаліся, што аўтобус туды, у тую Маладушу, — праз 3 гадзіны. «Ат, не грудны, не замерзну!» У буфеце — смешны малады чалавек з вялікімі вушамі, п'е гарэлку, ля яго — кабета 65+, распавядае яму пра нумералогію. Той лыпае вачамі, кажа — не веру! А яна пытаецца: «Вот а у цябе есць втарая палавінка?» — «Втарая палавінка чаго — мозгу?» — здзіўлена пытаецца той, з вялікімі вушамі. «Эх, ты, ты ўжо ў такім узросце павінен дзяцей вадзіць у садзік!» — папікае кабета. Той кажа: «Дык я і вадзіў раней, а цяпер не ваджу!» Тая кабета, катора па нумералогіі, раптам да мяне: «А вы купіце ў мяне кракадзіла?» — «Жывога?!» — «Ага, жывога! З бісеру!» — і высыпала перада мной, можа, 100 бісерных кракадзілаў. О дзіўны свет.

### 23 красавіка

Раней хавалі прыгожа! Фатаграфаваліся ля труны. Жалоба была. Памёр дзед — сорак дзён нельга было ні радыё, ні тэлевізар уключаць. А цяпер чалавека закапаюць — і тэлевізар глядзяць. У сястры траўраднай дзед памёр — як яны галасілі тады. Мне было пяць, але добра памятаю. І здымкі захаваліся, як яе дзед ляжыць у труне, а мы вакол усе стаім і пазіраем няўцямна на яго — так фатограф сказаў — у труну глядзець.

Так галасілі: «А куды ты пайшоооооў. А чаму ты нас кінуууууў. А глянь, колькі людзей сабраааалася. А ўсе прыехааааалі. І Пеця вунь прыеееееху. А ты чакаў, калі ён прыеееедзе. А зараз во ляжыыыыыш, і не ўстанеш, і не пагаворыш з намі». На пахаванні былі ўсе, уся якая толькі ёсць радня, суседзі, усе-ўсе... ад дзяцей нябожчыкаў не хавалі. Гэта было неяк натуральна ўсё. А цяпер заўважыла — неяк дзяцей не бяруць на пахаванні. Можа, дзе на вёсках яшчэ і засталася, але і на вёсках часта о так — закапалі, і ўсё.

### 24 красавіка

За 10 хвілін — 12 нябожчыкаў!

Яна зайшла ў вагон у Васілевічах. Без рэчаў, толькі з бутэлькай вады і семкамі. «Праўдніца ругацца не будзе, што я семкі ем? Можна семкі есці? Да цёткі еду. Цётка ў Мінску забалела. Дзеці мае ў Маскве, паехаць некаму», — урачыста паведаміла мне і пачала есці семкі, спакойна, без эмоцый. І ў час маналогу — ніводнай эмоцыі, нуль. «У цёткі дачка умерла — белакроўе была, дык яна о так узяла ў галаву, узяла ў галаву — і забалела. Вот еду. А васьмога марта быў год, як мой сужыцель умер. — Ад чаго?! — У яго быў сахарны дзіабет. — Дык і што — кома? — Не, не кома. Высокі сахар быў, да сарака. А раньшэ нізкі быў, очэнь нізкі. І то плоха, і то плоха. Умер. На почве нервнага стрэсу. — А чаго ў яго той стрэс?! — У яго сын утапіўся, малы быў, тры гады. Жонка з любоўнікам развлякалася, а ён утапіўся, а яму сказалі — так і так, ён нервнічаў, вот і случыўся сахарны дзіабет. І друг яго умер — тожа ад сахарнага дзіабету, тожа на нервнай почве. Ён у Маскве работал, на люльках, там, дзе высокія дамы, па двацць этажоў, і адна люлька сарвалася — ілі сама, ілі падрэзаў хто, і той упаў, а эты ўнізу стаяў, і ўсе кішкі на яго, і ўсё эта. І ад іспуга ў яго начался сахарны дзіабет, і тожа умер. А раньше я жыла ў Гомелі. Раньшэ быў другі сажыцель — той тожа умер. — Ды ад чаго?! — Ад ног. — Як ад ног?! — Што-та была с нагамі, усё жалаваўся «ногі, ногі, ногі» — і умер. А брат жыве ў Бабічах, жаніўся, толька яму ўжо 55 гадоў, толька недаўна жаніўся, а яна — на інваліднай калясцы, о так жывуць. А сястра — у Рэчыцы, но я с ней не абшчаюсь асоба, яна багамольная, праваслаўная, усе пасты саблюдае, эта нельзя, эта нельзя... Ай... Ей ужо групу далі, пажызненную, па алергіі. — Па алергіі?! Групу?! — Да всё за эціх пастоў, то нельзя, і эта нельзя. Яе первы муж умер, ана сейчас втарога взяла, ён быў кончаны алкаш, валяўся на ступеньках, а січас — кабан, морда — во! Кінуў піць, курыць, у цэркаў с ней ходзіць. А первы — он не пахмяліўся, так і умер. — Ад таго, што не пахмяліўся?! — Канечна! А што ты думала? Кагда п'еш — нада пахмяляцца, хоць немножка, хоць столька вот — водкі ілі віна, для паддержкі серца. А ана не дала яму, а патом так ужо убівалася на пахаранах! Я гавару: а чаво ты яму пахмяліцца пажалела?..» — да пабачэння, дарагая спадарожніца, бывай, мне час ужо на іншы цягнік, з іншай станцыі!

### 6 мая

Хоць раз за апошнія гады сустрэлася ў цягніку з чалавекам, які прапанаваў паразмаўляць. Звычайна ж усе тупяцца ў мабілкі ці дрыхнуць. Апошні раз быў даўно! Я ехала ў Жытомір і сустрэла цікавую жанчыну, з Казяціна, каля Бердзічава, Ніна Жураўлёва яе клікалі, нават памятаю.

Учора да мяне сам падышоў нейкі азербайджанец (курылі мы з ім разам, так выйшла). І называецца весела так: «Я — хачык! Нярускі!» Я кажу: «О, здзівілі, ну і я няруская, і што?» — і пачалі размаўляць.

Вясёлы быў спадарожнік. Шмат чаго расказваў.

«І вось так сяджу я, ем шаурму з сябрам, добрая была шаурма. А побач сядзяць шалавы нейкія, піва жлукцяць і матамі крыюць — гідка, увогуле, цярпець не магу такіх! І падыходзіць такі бухі, і да мяне: «Ты чо? Ты хачык! Чо ты на нашых дзевушак смотрыш?» Я кажу: «На каго я гляджу, на шалаў гэтых, ці што? Якія піва п'юць і матам крыюць? Фу! Я сябе сам не на памыйцы знайшоў, каб на такіх шалаў глядзець! А ён пачынае крыўляць мяне — маўляў, я з каўказскім акцэнтам гавару, крыўляе так: «Слюшай, дааа!» І я тады кажу яму — зараз цытата, слова ў слова, кажу вам! — «Слухай, ты, хлопец! Што ты хочаш? Ты мяне дражніш? Я тваю беларускую мову ведаю дасканала, я магу на мове размаўляць, а ты не ведаеш нават роднай мовы, і ты мне тут нешта хочаш?! Я ведаю турэцкую, ангельскую, азербайджанскую, рускую, беларускую — а ты нават роднай мовы не ведаеш, і ты мяне будзеш дражніць?!»

Калі ён гэта расказаў, я сядзела слухала, аж сківіца адвісла. Так чыста гаварыў.

### 8 мая

...і прыходзіць ад яго смс «ИзвЕните, я на переговорах». Усё, капут. Я не веру, што чалавек можа быць сур'ёзным ці прыстойным «партнёрам», калі ен піша «извените». Прапаў Калабухаўскі дом.

### 10 мая

Я паўтарыла сёння свайм сваякам, дзе менавіта мяне трэба пахаваць. Яны не разумеюць, але спадзяюся, што будзе той, хто адвае маё права пасля смерці быць пахаванай у роднай зямлі, на родных могілках, дзе ніколі не было моды піць і есці на магілах, наліваць нябожчыкам па сотцы і класці цукеркі, яечкі, булкі і так далей. І дзе адзначаюць гэты дзень у спрыяльную пару — калі жоўтыя лісты на помніках і памірае прырода. Мяне, калі што — дахаты! Не тушкай, дык пудзілам. Хоць як.

### 20 мая

Як пісаў апостал: «Мы нічога не прынеслі ў гэты свет, нічога і не вынесем». Некаторых будуць памятаць, астатнія проста знікнуць, як пыл, як аблокі, як былі і няма больш, і такіх пераважная большасць.

### 27 мая

Стала сведкай нейкай простай і прыгожай сітуацыі, такой чалавечнай, як у «Цытадэлі» Сэнт-Экзюпэры, там, дзе пра шчасце ў роўненька складзенай папрасавайнай бялізне і авечках.

Са стромкай асфальтавай гары ў парку спускаюцца тата і сын. Малы з самакатам, яму недзе чатыры. Тата ласкава кажа: «Ну, едзь!» А малы: «Не, не, я не магу, мне страшна, я баюся!» Але тата кажа: «Нічога, ты едзь! Я буду бегчы побач, калі што!» І малы адважна едзе, імчыць з гары, нават мне страшнавата назіраць, а тата яго аддана бяжыць са стромкай гары побач з ім, хутка бяжыць. Такая прыгожая сцэна...

### 11 чэрвеня

Наведалі цудоўны Івянец. Субота. Там замкнёна, там замкнёна, і там замкнёна. Нават мясцовых цукерак не купіць, бо ў «фірмовай» краме ў суботу выходны! Такое адчуванне, што ўсё гіне на вачах. І навіны пра новыя музеі там — ну, яны ёсць, але трапіць туды цяжка праз замкнёныя дзверы, і трэба ведаць усе замарочкі — кшталту, каб адчыніць «той» музей, спачатку трэба прыйсці ў «гэты».

Івянец — гэта цэлы свет. Але толькі пакуль зачынены для іншых. І распіяраная ўсюды кавярня «У францішканаў» — гэта замарожаная і разагрэтая піца. Проста рэальна шкада, што так.

### 6 ліпеня

Сёння даведалася ад адной з адукацыі яшчэ пра адзін крытэр «сацыяльнага недабрабыту сям'і». Не, тыя не калдырацьм, і дзеці ок — выдатна вучацца. Але ёсць пытанні! «Ну, слушайте — еслі для ніх, этой семьі, 3 Юля не праздник! То про что вообще тут можно говорить?!» — ахарактарызавала адна з адукацыі сям'ю адну, закацўшы вочы ў столь.

Я падумала: о, добра, што дзеці ўжо падраслі, і нас не рассакрэцілі ў час, а так былі б мы ўжо даўно ў «спісах», а яшчэ ў нас няма тэлевізара — ну гэта ў іх наогул крытэр ледзь не нумар адзін.

### 18 ліпеня

Дырэктарка школы пакрыўдзілася на нас, што мы збіраемся ТАКОЕ пісаць, і папікала: «Сейчас нужно поднімать престіж учітеля, а вы такое будете пісать!» Дарагая ты мая! Мой прэстыж магу падняць і апусціць толькі я сама, як і ты, дарагая дырэктарка! Не хлусьце, не фальсіфікуйце выбары, не падманвайце дзяцей — і ўсё ок будзе з прэстыжам у вас.

### 8 жніўня

Прыскочылі мы з Кракава і заўтра ж паехалі пад Піцер, ужо з дзецьмі. Натуральна, зборы былі шалёныя (не, часу хапала, але я люблю сядзець да таго часу, пакуль не застанецца 30 хвілін да цягніка, а потым пачаць лямантаваць «усё прапала, усё прапала!» — і кідаць у валізкі рондалі, відэльцы, коўдры, адбітую кафлю, спісаныя нататнікі, потым крычаць «навошта гэта ўсё мне?!» — і выкідаць назад, потым крычаць СЖ «галоўнае — вазьмі грошы і пашпарты!» — і выклікаць таксі, і штурхаць кіроўцу ў плечы, і крычаць «мы спазняемся на цягнік!!!» — о так, усё, як мы ўсе любім.

Мы прыбеглі на вакзал, шукалі свой вагон, верашчалі і бегалі, і знайшлі, і радасныя такія і задаволеныя кінуліся займаць лепшыя месцы (ледзь не кінуліся). А праўдніца такая: стоп! Я вас не вазьму ў цягнік! — вот, новы паварот! А яна каже, злорадна (а мо мне падалося): а ў вас квіткі —

на заўтра! Мы вочы вылупілі на кветкі — і праўда!

Але мы не тыя, што так лёгка здаюцца. Як толькі скончылася пяціхвілінка нянавісці, мы пайшлі на касы, каб купіць новыя квіткі (і тыя здаць, заўтрашнія) — да Оршы, і ад Оршы, і там на аленях, на сабаках, на мядзведзях — але мы даедзем!

І так пасля гадзіны ночы мы былі ў Оршы. І там... Там мы набылі квіткі на цягнік з Кішынёва. Людзі, калі вам куды ехаць — то помніце мой пост.

Першае: праваднік, так бы мовіць, твар паравозу. Я хоць і Асёл па кваліфікацыі «Віні-Пых і дзэн», але часам паводжу сябе як Пятачок. І таму і тут я шырока ўсміхалася праваднiку, і жартавала, і ўсё такое. Ён ні слова не сказаў у адказ, а наадварот — нейк ашчэрыўся, як аўчарка, і ледзь не загаўкаў.

Потым іншая праваднiца прынесла пасцелю. Было цёмна — не ведаю, якога яна там колеру, але яна была мокрай.

Здаецца, ва ўсіх была пасцеля мокрай (мокрай, не вільготнай), таму у вагоне быў такі пах, як на балоце. А яшчэ і горш. Але як жа вецер дуе ў маю, хоць не самую разумную, але такую-сякую родную кабесу! Зачыняю я фортку. Ага. Яна была выламаная. Тупа выламаная. О не...Я ўжо пачала даганяць, што да чаго, і пайшла ў прыбіральню. Так і ёсць, усё стала на свае месцы: паперы няма, вады няма (ва «ўмывальніку») — і фортка таксама выдраная з карэннем. А і вада ва ўнітазе была, брахаць не буду! Але гэта быў унітаз! Вы бачылі ў цягніках унітаз, дзе педаль, націскаеш — і ўніз на рэйкі цячэ вада? Тут таксама быў такі! Толькі пасля таго, як націснеш педаль — вада ляцела не ўніз, а ўверх! — проста на цябе, толькі паспявай адскочыць! Я такога дзіва яшчэ не бачыла, колькі жыву! Таму доўга не магла выйсці з той прыбіральні: націскала на педаль — і адскоквала! Гэта ж трэба, як цікава прыдумалі! Як яны толькі так сканструявалі!

Потым мы «леглі спаць». А калі пачалося світанне — я ўбачыла, як толькі трохі пасвятлела, што цягнік увесь — брудны-брудны. І бялізна брудная... і матрацы брудныя... і форткі выламаныя... і села на нейкай станцыі кабетка з дзіцяткам і запатрабавала пасцелю, а я якраз каля прыбіральні тусіла (хацела зноў паглядзець, як педалька працуе), і бачыла, як праваднiца ўзяла брудную бялізну, якую нехта здаў, і яе тут жа склала — і паклала ў пакунак, і занесла той кабеце, і наступнаму пасажыру таксама! І яшчэ прынесла тую бялізну ў пакунку, і зрабіла выгляд, што тут жа пры пасажырах нібыта распакоўвае яе! Я толькі дзіву давалася.

Потым я неяк яшчэ шукала коўдру і знайшла — шмат коўдраў, а пад імі — бутэлькі з нейкай вадкасцю, вельмі шмат! А па вагоне ўсю ноч хадзіў нейкі чалавек і крычаў: «Віно, віно, малдаўскае віно!» — але я думаю, што вады ва «ўмывальніку» не было таму, што яны разлівалі «віно» ў тыя бутэлькі, і тут жа клеілі этыкеткі.

А калі мы ехалі назад, то на пероне на вакзале ў Піцеры стаяў... кішынёўскі цягнік! Я прабегла паўз яго з крыкам: «Не, не, не! Толькі не ты! Мы паедзем на беларускім!» І калі мы селі ў беларускі цягнік, я зразумела, што Белчыгунка — ну гэта кайф проста.

### 11 жніўня

14022. Столькі дзён я пражыла на зямлі на сённяшні дзень.

### 13 верасня

Учора ў бальніцы наслухалася, як Еўропа ў бездань кіруецца, як у Польшчы людзі галадаюць, а вялікая Расія і мы, яе частка, усталі з калень.

### 17 снежня

Гэта проста агонь. Гэта проста агонь. Так кажу сабе, дадаючы заўсёды слова «проста», калі Нешта пачынаецца і накрывае. «Гэта проста твае неўтаймаваныя эмоцыі». «А гэта проста біяхімічныя рэакцыі». «Гэта проста ты стамілася». «Гэта проста смерць, усе паміраюць, нічога такога». «Гэта проста праца». «Гэта проста пераходны ўзрост»... Гэта так усё проста, калі ты дарослы і можаш словам «проста» усё патлумачыць.

### 19 снежня

У гэтай бясконцай стужцы кепскіх навінаў, у гэтай твані і багне, сварках і звадках, праблемах і клопатах, якія не вырашаюцца, хваробах, якія не лечацца, прыходзіць доктарка (адзін чалавек тут захварэў). Прыязная, ветлівая. Папіце тое, зрабіце тое... А на заплечніку — «Пагоня»! Можа, для жыхароў Менску гэта норм, але тут не Менск. «Прыемна бачыць «Пагоню», — не прамаўчала я. «Прыемна яе насіць», — адказала яна.

### 16 студзеня

Ёсць такія людзі, якія не для жыцця, а для чаго — не ведаю. Можа, для смеху. І здароўя таксама ім не прадугледжана. А дактары, якім паказваеш аналізы крыві, крычаць: «Раскажыце, як такое можа быць? Чаму у вас такія аналізы? Чаму?!» — а ты прыйшоў да іх спытацца чаму, бо думаў, што яны дактары. Чаму, чаму... Здаецца, гэтыя людзі выконваюць інструкцыі, правілы, законы і так далей. Але нічога не дзейнічае. Стаяла ля газпліты — спаліла джынсы. Злівала ваду з рысу — абліліся кіпнем. І так — на кожным кроку. Кажуць — трэба Богу маліцца. Ну окей. Запаліла свечку — заліла воскам новы швэдар. Запісалася на курсы, адзіныя ў гэтым горадзе, заплаціла аванс. І, канечне ж, курсы не пачаліся!

### 17 студзеня

А сябар меркаванага забойцы так мне сказаў пра яго: «Эх, Сярожа, Сярожа, дабрэйшай душы чалавек!» (гэта каторы з ножыкам, жанчыну зарэзаў). Я кажу: «Мо не варта было яму рэзаць чалавека?» А сябар кажа: «Ну ён жа дабрэйшай душы чалавек, пажалей тую (...), ну о так выйшла!»

### 18 студзеня

Райцэнтр. У вакзальным буфеце — замарожаныя булкі з катлетамі, падобныя на гамбургеры. Прадавачка падала, прабіла па касе, пагрэла і кажа: «Чэсна гавара, я такое есці не адважваюся!»

### 19 лютага

Чорт ведае што робіцца! Галоўны ідэолух вобласці ходзіць па кірмашы і кажа, што проста па прадукты прыйшла, а ў гэты час на яе вачах лунае б-ч-б і людзі крычаць «Жыве Беларусь!». Міліцыя саромеецца формы і ацірацца па завуголлях у цывільным, а іх начальнічкі таксама прыкінуліся «прахожымі» і ідуць сабе па сурапцьлеглым баку. А ля Леніна нагул жах, гавораць і крычаць усялякае, такое... куды коціцца шарык.

### 22 лютага

Ён стаіць за клеткай, паводзіць сябе як абражаны, як пацярпелы: «Яна мяне давяла! Я мужчына, я меў права... Вернымі бываюць толькі сабакі». Ён лічыў нармальным прывесці каханку ў дом, дзе жылі дзеці, дзяўчаткі: «А што такога? Многія так жывуць!» Ён забіў маці дзяцей на іх вачах і сказаў дзяўчаткам: «Вось бачыце, што бывае з тымі, хто не паважае сваіх мужоў!» І такое бывае ў Гомелі.



### 1 сакавіка

Два дні ў нас трываў запеклы бой з малым за красоўкі, бо ён хацеў такія, а я хацела другія, сёння супакоіліся і памірыліся.

### 12 сакавіка

— Вы не месная? — Не. — А што да нас, у госці да некага? — Ну... так... Глядзіць так, вывучае, потым раптам: — Тааак, вы журналіст? — Ну.. — За Луку? Я кажу: прапаганду за Луку гоніце? — Не! — Дык тады грошы не бяру, і «Жыве Беларусь!»

### 12 сакавіка

Сябар дзяцінства, чорт. Тэліць, незнаёмы нумар, гадоў 15 не бачыліся. Нумар не ведаю, здымаю слухаўку, а там лямант, аж аглохла: «Жыве Беларусь!», я спалохалася, кажу: «Хто гэта?» «Гэта Сяргей з Фаніпаля, кажу «Жыве Беларусь!» Я кажу: «Ці ты здурэў, ці што?» А ён кажа: «Я цябе па інцірнэту бачыў, ты была ў Рагачове, я цябе пазнаў!»

### 15 сакавіка

«Вам не сорамна?» — пытае ў тых міліцыянераў Уладзімір Няпомняшчых. Але суддзя здымае пытанне. Але ж на маёй памяці былі міліцыянеры, якія, здаецца, у 2012 годзе ў судзе Цэнтральнага раёна адмовіліся сведчыць супраць Няпомняшчага і сказалі, што не чулі мацюкоў, і суддзя Цалкова была вымушана закрыць справу. А цяпер ужо нікому не сорамна.

### 17 сакавіка

Судзяць Глушакова. У залі міліцыянер — нядобры знак. Суддзя Піскуноў «жартуе» : «Нешта вас, Глушакоў, няшмат людзей прыйшло падтрымаць».

### 17 сакавіка

Міліцыянеры на вахце ў судзе сёння былі зусім новыя. Тыя, старыя, мяне ведаюць і не чапаюць. А гэтыя нават заплечнік праверылі — такога фокусу са мной яшчэ не было. Не, неяк было даўно ў судзе Савецкага раёна, кажуць: «Што ў вас у заплечніку?» А там была кілбаса і шкарпэткі з сабачай поўсці. Мне неяк было сорамна, бо я перад судом тым зайшла на кірмашык і набыла кілбасу і шкарпэткі з сабакі, я не ведала, што будуць правяраць заплечнік. І так было няёмка: такі, блін, статусны чалавек, а там кілбаса ляжыць і шкарпэткі з сабакі! А сёння раптам зноў у судзе, новыя міліцыянеры: «Што ў вас там?» Кажу: «Хуліа ў мяне там, Хуліа Картасар!» Прабачце, але чыстая праўда, я не ведаю, чаго я яго туды паклала, і для чаго, і гішпанскія казкі таксама. Добра, што гэты раз да Хуліа не было кілбасы і шкарпэтак. «Усе агні — агонь» — такая кніга была з сабой.

### 25 сакавіка

Вось Ала Раманчык, пенсіянерка, ідзе з б-ч-б, узначаліла калону, зараз яна на ІЧУ, да суду ў панядзелак. Побач — Уладзіслаў Шкандратаў (спадзяюся, правільна напісала) — хутчэй за ўсё, таксама на ІЧУ. У панядзелак зноў суды, хоць і так 13 чалавек ужо сядзіць. Кажуць, што бралі самых актыўных і за стрымы.

### 26 сакавіка

Заўтра траіх выпускаюць (спадзяюся) — 10 кандыдатаў на пасадку. Хто спыніць гэтыя арэлі?

### 27 сакавіка

— А что люди были в колонне? Они просто шли или кричали что-нибудь?

— Да, кричали.

— Что именно они кричали?

— А разве можно это произносить тут?

— Ну, если это цензурно, то можно.

— Нет, я, пожалуй, лучше промолчу.

— Но всё же скажите, если это цензурно.

— Мне сказали, что это нельзя кричать.

— Но всё же скажите!

— «Жыве Беларусь!»

### 13 красавіка

Кароткая гісторыя ад малога. «Мы ў вёсцы зрабілі са Стасам так: папрасілі ў Ромы, яму 12, паглядзець яго бонсцікаў, і кінулі іх у вогнішча. Бонсцікі гарэлі, Рома глядзеў на іх і моцна плакаў. Мы патлумачылі Рому, што зрабілі гэта для яго ж карысці — каб ён быў нармальным пацаном, а не дзіцяткам, які гуляе ў бонсцікі. Рома плакаў, плакаў, і пайшоў дахаты. Потым прыйшоў, ужо ўсміхаецца, і нармальна — не пакрыўдзіўся на нас».

### 1 чэрвеня



Чаму маё жыццё ператварылася ў суцэльны цягнік, дзе я жыву, чытаю, пішу, сплю і ем? І канца не відаць. Два дні дома? Хо, гэта раскоша. Два дні — і зноў бясконцыя ківанні на станцыях, ля рэек, ночы, ночы, нейкі чужы горад, назад, і зноў туды.Оршы, Калінкавічы, Магілёвы, Віцебскі, і ўсё ў кучу. Я не скарджуся і не наракаю — таму што чаго там скардзіцца. Жывы — і дзякаваць Богу. А мне б Белчыгунка магла б і выдаць грамату якую, ці падзяку, ці значок «Нервовы пасажыр».



# Фэст у Германавічах: «У гэтым краі добра, калі побач ёсць аднадумцы»

Піша Кастусь Шыталь.

У мястэчку Германавічы даўняга Дзісенскага павета (цяпер Шаркаўшчынскі раён) 3 чэрвеня адбыўся бардаўскі фэст. Чаму менавіта ў Германавічах? Бо там ёсць каму гэты фэст арганізаваць. Нястомная грамадская дзяячка Ада Райчонак, якой сёлета споўнілася 80 гадоў, ужо шмат год арганізуе культурніцкія імпрэзы, на якія з'язджаюцца цікаўныя да беларушчыны людзі з усяго Паазер'я.

Я не такі вялікі прыхільнік бардаўскай музыкі, каб ехаць на канцэрт за дзвесце кіламетраў (гэты тыдзень я якраз правёў у Менску). Але фэст у Германавічах — яшчэ і магчымасць сустрэць знаёмых і пазнаёміцца з аднадумцамі. Бо людзі, цікаўныя да беларушчыны, у правінцыі — яны як нейкая таемная ды разгалінаваная супольнасць. Адзінокія ў сваіх райцэнтрах і мястэчках, яны ведаюць «сваіх людзей» ва ўсіх суседніх раёнах. Звязаныя знаёмствамі, падпіскамі ў сацсетках — і сустрэчамі на такіх імпрэзах, як у Ады Эльеўны.


ФОТА ВАЛЕРЫЯ ЧАРНАМОРЦАВАЙ

Ада Райчонак — чалавек-легенда.

Калі ў міжваенны час рэпарцёры і пісьменнікі пісалі пра беларускую поўнач, Дзісенскі і Браслаўскі паветы, — абавязкова падкрэслівалі суворы, халодны клімат гэтага краю ды неўрадлівыя землі. І цяпер гэты ўскраек Віленшчыны сустрэў мяне халодным ветрам ды пахмурным надвор'ем. Шаша Шаркаўшчына — Дзісна то падымаецца на пагоркі, то спускаецца ў нізіны. Асфальт пабіты і падлатаны. Прырода вакол — розныя адценні цёмна-зялёнага колеру лугоў і зараснікаў.

Па статыстыцы, заробкі ў Шаркаўшчынскім раёне — найменшыя ў Беларусі… Спыняецца машына, каб мяне падвезці. Муж за стырном, жонка побач — абаім гадоў па пяцьдзясят. Жанчына распавядае, што ў Шаркаўшчыне цяжка знайсці работу, што моладзь з'язджае, што ў Вялікім Сяле вялікая школа, ды мала ў ёй вучняў… Размовы жыхароў беларускай поўначы аднастайныя і сумныя, нібы старыя песні пра цяжкую долю. Як у часы Купалы, гэтыя людзі нясуць сваю крыўду «на худых плячах, на руках у крыві, на нагах у лапцях». І хочуць людзьмі звацца…

У Вялікім Сяле спыняецца машына да Германавіч. «Вельмі прыемна чуць беларускую мову… Праўда, вельмі прыемна… Шкада, што мала хто на ёй размаўляе», — кажа чорнавалосая жанчына-кіроўца. Вельмі многія жыхары беларускай правінцыі так кажуць. Я веру, што кажуць шчыра. Але шкадаваннем звычайна і заканчваецца — рэдка хто вырашаецца перайсці на беларускую мову, каб родная гаворка не ўмёрла.

Каля Культурна-асветнага цэнтра імя Язэпа Драздовіча — шмат машын. На падворку — шмат людзей. У памяшканні сустракаю гаспадыню, Аду Райчонак. «А каго ж я бачу! А мой ты хлопчык! Даехаў нарэшце!» — кажа мне Ада Эльеўна, абдымае і цалуе ў шчаку. Праз кепскі стан здароўя я даўно не выбіраўся ў Германавічы, дык сёння Ада Эльеўна вельмі рада мяне бачыць.

Сёлета на бардаўскі фэст сабралася болей людзей, чым звычайна. Чалавек шэсцьдзясят. Моладзь актыўна дапамагае і ўдзельнічае. Ігар Палынскі — малады і таленавіты музыка, старшыня Полацкага ТБМ — наладжвае абсталяванне, завіхаецца каля пульта. Галляш Сялява, фатограф і арганізатар культурніцкага жыцця з Браслава, рыхтуе пытанні да віктарыны. Старэйшыя людзі рыхтуюць ежу — наразаюць каўбасу і сыр, робяць бутэрброды, заварваюць гарбату. Ада Эльеўна мусіць круціцца ўсюды — і з гасцямі пагаварыць, і пракантраляваць, як на кухні справы і ці ўсё ў парадку са сцэнай.

У музейнай зале, побач з карцінамі беларускіх мастакоў, стаім і размаўляем з Галляшом Сялявам. Галляш — лідар і рухавік нефармальнага культурнага жыцця ў Браславе. Кіруе браслаўскім сайтам і суполкамі ў сацыяльных сетках, фатаграфуе, ладзіць валанцёрскія акцыі і культурніцкія мерапрыемствы. Цяпер разам з аднадумцамі адчыняе курсы беларускай мовы. Пра сваю дзейнасць кажа сціпла. Кажа, што яму падабаецца быць актыўным, а стрымлівае толькі недахоп часу. А ідэй, задумаў — мільён. Калі б такіх людзей, як Галляш Сялява і Ігар Палынскі, падтрымала дзяржава, дала ім пасады, грошы і памочнікаў — яны зрабілі б болей, чым усе раённыя аддзелы культуры разам узятыя.

Наогул, тут унікальныя людзі сабраліся. Вось Зміцер Лупач — журналіст, які даязджае ў кожны куток рэгіёна, піша і пра святы, і пра гісторыю, і пра людскую крыўду. А яшчэ рыхтуе да выдання кнігі мясцовых паэтаў і краязнаўцаў ды распавядае дзясяткі цікавых гісторый. Нядаўна яго судзілі за сюжэт на «Белсаце». Вось Уладзімір Скрабатун, які 23 гады выдае газету «Вольнае Глыбокае» і напісаў тысячы цікавых артыкулаў, рэпартажаў, краязнаўчых матэрыялаў. Нядаўна пошта вярнула «Вольнае Глыбокае» ў свой падпісны каталог, і людзі сталі яе выпісваць… Пра Аду Райчонак — асобны расповед, пра яе дзейнасць кнігу трэба пісаць, а не артыкул. Рэжысёр Уладзімір Колас у 2008 годзе зняў дакументальны фільм «Галерэя Ады».

Фэст пачынаецца са спеваў гомельскага барда Андрэя Мельнікава. Ён спявае па-беларуску пачатак «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча і «Літоўскі легіён» Юльюша Славацкага, спявае пра Курапаты, перапявае вершы Анатоля Сыса, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча… Сум па страчаным Вялікім Княстве, па еўрапейскасці, па гонары і патрыятызме, які мы страцілі з падзеламі Рэчы Паспалітай ды яшчэ не набылі ў незалежнай Беларусі… А за спінай барда — муры касцёла Перамянення Пана, пабудаванага ў 1780-х, калі Вялікае Княства яшчэ існавала. Яны ўзмацняюць уражанне ад спеваў.

Далей выступаюць Ігар Палынскі (Полацк), Іван Гарбачонак (Шаркоўшчына), Міхаіл Героеў (Браслаў), Іван Хлапенец (Лепель), Антон Бубала (Верхнядзвінск), Міхаіл Рубін (Віцебск). На жаль, няшмат парадаваў спевамі Зміцер Бартосік. Ён выступіў перад сабранымі як аўтар кнігі «Быў у пана верабейка гаварушчы», складзенай з тэкстаў перадачы «Падарожжы Свабоды», многія з якіх былі запісаныя ў нашых мясцінах. А праспяваў толькі адну песню.

Фэст скончыўся пачастункам. Я застаўся на вуліцы, каб пагаварыць з Аленай і Веранікай, настаўніцамі з мястэчка Лужкі. Даўно кантактую з імі праз інтэрнэт, а вось першы раз сустрэліся. Алена марыць пра тое, каб стварыць у Лужках краязнаўчы музей. Яны ўдзвюх, са сваімі вучнямі, зрабілі пераклад дзіцячага мультфільма і агучылі яго на беларускай мове. Ада Эльеўна рупіцца, каб мы толькі не засталіся галоднымі — выносіць нам талерку з бутэрбродамі. «Вы як завугольныя сваты даўней на вяселлі», — кпіць з нас Зміцер Лупач і таксама далучаецца да размовы.

З Германавіч да Параф'янава едзем машынай са Змітром Бартосікам, Андрэем Мельнікавым, Валерыяй Чарнаморцавай. Спыняемся ў Шаркаўшчыне, дзе на плошчы стаіць не помнік Леніну, а помнік праваслаўнаму святару, якога ў 1919 годзе замучылі бальшавікі. Размаўляем пра гэты край — пра беларускую актыўнасць у 1930-я гады, пра разабраную чыгунку ў Браславе, пра тое, як у 1960-я руйнавалі царкву ў Сароках. Зміцер Бартосік абяцае прыехаць у наш край зноў, запісаць успаміны старых жыхароў для перадачы «Падарожжы Свабоды».

А я застаюся ў Параф'янаве. Лаўлю сябе на думцы, што ў гэтым краі добра, калі побач людзі, калі ёсць аднадумцы. Нам добра і цікава, калі збіраемся і з'ездзімся. І невыносна сумна, калі ў мястэчку няма з кім загаварыць, няма да каго зайсці на гарбату, няма з кім падзяліцца думкамі. Тады застаецца чакаць чарговай дзе-небудзь імпрэзы або выпадковых гасцей з Менску, каб можна было нагаварыцца.

## У інтэрнэце з'явілася база для пошуку продкаў: 47 тысяч населеных пунктаў і больш за 300 тысяч прозвішчаў

Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі (БелНДЦЭД) выклаў у адкрыты доступ пошукавую сістэму «Дапаможнік». Яна дапамагае зрабіць першыя крокі людзям, якія збіраюцца шукаць у архівах сваіх родных.

У пошукавай сістэме тры графы для пошуку — «Паселішчы» (беларуская мова), «Паселішчы» (руская мова) і «Прозвішчы». Першыя дзве дазваляюць знайсці інфармацыю аб населеным пункце на беларускай і рускай мовах. Прычым у базе няма інфармацыі па Мінску і абласных цэнтрах. «Тое, што вы жывяце ў сталіцы, не мае ніякага значэння для генеалогіі, — каментуе кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч, дырэктар БелНДЦЭД. — Вам важна знайсці, дзе жылі вашы дзядулі і прадзядулі. Таму мы давалі інфармацыю на ўзроўні райцэнтраў і вёсак. Іх выхадцы цяпер засяляюць гарады».

Напрыклад, мы хочам знайсці інфармацыю па вёсцы «Наваселкі». Калі населеных пунктаў з такой назвай больш за 12, тады сістэма просіць уключыць пашыраны пошук і выбіраць канкрэтны раён. Выбіраем Капыльскі — толькі ў ім адным вёсак пад назвай Навасёлкі пяць. Аб кожным з іх можна даведацца, каму яны належалі ў XVIII—XIX стагоддзях (напрыклад, Радзівілам), які мелі статус (маёнтак), які адміністрацыйна-тэрытарыяльны статус мелі ўжо ў савецкі час (напрыклад, прыналежнасць да сельсавета), а таксама ўбачыць гэтыя населеныя пункты на карце.

Графа «Прозвішчы» дапамагае знайсці прозвішчы людзей з іх прывязкай да вызначанага населенага пункта. Як падкрэслівае Вячаслаў Насевіч, улічаныя прозвішчы людзей, якія ваявалі альбо былі рэпрэсаваныя ў 1920—1950-я гады. Гэта значыць, гаворка ідзе пра людзей, якія нарадзіліся ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Па словах гісторыка, самымі пажылымі людзьмі, якія патрапілі ў базу, могуць быць асобы, якія нарадзіліся каля 1850 года, былі рэпрэсаваныя ў 1920-х гадах (гэта значыць, у сталым узросце).

Удакладнім, што біяграфій і нават дат жыцця і смерці людзей карыстальнікі не знойдуць. Напрыклад, калі чалавек увядзе ў пошукавую сістэму сваё ўласнае прозвішча, то даведаецца, у якіх населеных пунктах сучаснай Беларусі жылі яго цёзкі. Па словах Вячаслава Насевіча, гэта дапаможа ў пачатку пошуку, а ўсе падрабязнасці карыстальнікі змогуць знайсці ў архівах.

Усяго ў базе прадстаўлена каля 300 тысяч запісаў. «Многія прозвішчы паўтараюцца ў розных населеных пунктах, — кажа Вячаслаў Насевіч. — Але мы не ставілі сабе задачу падлічыць колькасць унікальных прозвішчаў».

Удакладнім, што ўсе прозвішчы у базе прадстаўленыя толькі на беларускай мове. Прычына ў тым, што кнігі «Памяць», адкуль бралася інфармацыя, ствараліся менавіта на беларускай. «Калі перакладаць на рускую, можна ўсё пераблытаць», — тлумачыць суразмоўца.

Акрамя таго, калі вы ведаеце дакладнае прозвішча, трэба пісаць з вялікай літары. Калі частка прозвішча будзе напісана з маленькай літары, сістэма будзе выдаваць варыянты прозвішчаў, у якіх гэтая частка прысутнічае (напрыклад, увёўшы «ўтушэнк», можна знайсці прозвішчы Еўтушэнка і Яўтушэнка).

«Дапаможнік» — прыклад надзвычай доўгатэрміновага праекта. Праца над ім пачалася 19 гадоў таму. У 1998 годзе быў створаны Цэнтр электроннай дакументацыі. Перад установай была пастаўленая задача — забяспечыць электронны доступ да архіўных рэсурсаў. Па словах Вячаслава Насевіча, БелНДЦЭД працаваў над некалькімі праектамі, звязанымі з населенымі пунктамі.

У 1998—2000 гадах на сайце «Архівы Беларусі» быў створаны раздзел «Генеалогія». Там прысутнічала інфармацыя аб наяўнасці ў беларускіх архівах дакументаў, па якіх можна аднавіць свой радавод. Паралельна з 1998-га па 2007 год ішла праца над праектам «Губернія». Супрацоўнікі цэнтра стварылі электронны атлас — уводзілі ў базу дадзеных усе населеныя пункты, якія адлюстраваныя ў даведніках дасавецкага і савецкага часу (у 1970-я гады выдаваліся «Слоўнікі назваў населеных пунктаў», створаныя даследчыкам Я. Рапановічам), а затым накладвалі зніклыя паселішчы па старых картах. Праца над даведнікам «Адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне Рэспублікі Беларусь (1981—2010 гг.)», выдадзеным у 2012 годзе, дазволіла адсачыць змены адміністрацыйнай прыналежнасці.

Апошнія некалькі гадоў супрацоўнікі Цэнтра пераводзілі ў электронны выгляд звесткі з кніг «Памяць», якія былі выдадзеныя ў кожным з раёнаў Беларусі. У іх апублікаваныя спісы ахвяр сталінскіх рэпрэсій і ўдзельнікаў Другой сусветнай вайны (у тым ліку загінулых).

Апошнім этапам стала стварэнне ўласна пошукавай сістэмы, якая дазволіла суаднесці звесткі з базы (людзей і населеных пунктаў).

Як падкрэслівае Вячаслаў Насевіч, у далейшым у «Дапаможнік» можна будзе ўносіць удакладненні і дапаўненні.

**Дзяніс Марціновіч, tut.by**

# Родныя цуды

**Таццяна Барысік.**
Апавяданне.

Акрамя партызанаў, родныя нашы бары і дубровы спрадвеку славутыя грыбнымі мясцінамі. Ва ўдалы год якіх толькі грыбоў не знойдзеш у лесе: кабылы, каторыя ў нашай радні не есць ніхто, балацянкі, што чарва не бярэ, лісічкі, за іх грошай вcase чаюць багата. Махавічкі, бабкі, польскія — радыяцыю хаця і цягнуць, ды ў слоіку гожа глядзяцца. Баравікі ў аксамітных капялюшыках! У печы высушыш, зімою ў боршч укінеш — на ўсю хату пахне, казлам не раўня, тыя так і ссохнуць на бляссе. Можна часам для пробы і зонціка падняць. Бо па віду ён грыб, а па смаку ён кура. Ну, груздзі, канешне, толькі на засолку ідуць. Як паўкаша нагроб, дык дамоў нясі, а калі якія два грыба — дык выкінь: болей клопату будзе, чым таго наедку. Пад восень трапляюцца рыжыкі — на відэлец наколеш, вінчыка трохі возьмеш — смаката!

Але сівыя бабулькі найбольш шануюць не той грыб, што корміць, а той, што гоіць і вясёлкаю завецца! Старыя людзі — яны знаюць... Кажуць, ад усяго лечыць, і ўсе ўрачы ім лечацца! Вось як. Вясёлка — гэта ён калі па-культурнаму, калі папростаму, дык — ванючы грыб. Хаця й смярдзючы, а дужа гаючы! Завітайце ў ягоным таварыстве ў далёкую закінутую вёску, пастукайцеся ў любую хату — і кожная, кожная старая, што ўжо пяць гадоў як на двор не выходзіць, ажно падскочыць у ложку. Узрадуецца вам, нібы паштару ў дзень пенсіі, і абавязкова распавядзе некалькі гісторый выратавання ад немачы. Пачуеце, як у пяцьдзясят чацвёртым годзе, калі будавалі хату, пасабляла яна мужу бярвенні насіць, ды загнала скабку ў руку: «Загнаілася тая рука, ажно ўся сіняя стала! Тады прыклала грыба — ён усё за ноч і выцягнуў! А то яшчэ было некалі: прыехаў у водпуск Васеў брат з Усць-Ілімска, і схапіў у яго жывот. Як пад'есць, дык крыкма крычыць, і ніякія таблеткі рады не даюць. А свякрова возьме, грыба налле — тутака яго і адпусціць»... Пачуеце і пра нейкую Ванду Караўку, што «усё па бальніцах ляжала, бо ўрачы ў яе нешта нехарошае прызнавалі. А тады ўцякла тая Ванда дахаты, настаяла на самагонцы трохлітровы слоік грыбу, выпіла яго ўвесь, акрыяла, пасля шчэ сем гадоў жыла і памерла ад старасці...»

Зазззяе бабка, як сонейка велікоднае, прыгадаўшы сваю з грыбам мінуўшчыну, і гукне дачку ці ўнучку: «Ліда, Ліда! Кідай ты гэтыя слівы, чорт іх не возьме. Нясі гарэлку, што мне на смерць закапалі. Трэ чалавеку за лекі адздзячыць». Покуль будзеце частавацца за сталом, прысунецца суседка, паглядзець, што тутака робіцца. Ведама, незнаёмы чалавек — навіна, а як з грыбам, дык наогул — падзея! Суседка зайздросліва зірне на знаходку, спытае, дзе паднялі, ды скрушліва пажаліцца: «І ў мяне ж цэлая літра была настоена, покуль зяць, п'яніца, не агледзеў і ўсё чыста не выжлукціў! Галоўнае, акацыю не чапае і чарвякоў дажджавых не чапае, здароўе беражэ, баіцца атруціцца. А грыб,ведама, і пахмеліцца, і палечыцца, так і знічтожыў. А вясёлка ў хаце на ўсялякі выпадак трэба, каб была абавязкова! Вось мая Галя ў нядзелю прыедзе, пойдзем у лес пашукаем...»

Старыя людзі, яны знаюць...

А вясёлка — і сапраўды дзівосны грыб.

Па-першае, з яйка расце. Яйкі яшчэ больш гаючыя. Нават у казках пра Кашчэя жыццё ягонае яйка бароніць, дык тое яйка не з-пад куры было, а з-пад грыба смярдзючага. Вось у чым сакрэт неўміручасці! Казкі — гэта вам не абы-што, а мудрасць народная!

Па- другое, знайсці грыб цяжка, нават калі мясціны ведаеш, не ва ўсякую пару ён бывае. Расце ў вільготных лістотных лясах, пад зялёнымі шатамі магутных грабаў, зялёных алешынаў. Адчуеце — падлаю смярдзіць, ідзіце на той смурод, пакруціце галавою па баках, прыглядзьцеся пільна — і вось яны, смярдзючыя грыбы, тырчаць з зямлі яйкі, ляжаць белыя стрэлы!

А здараецца, напорашся на вясёлку знянацку, калі зусім не па гэтых справах ідзеш, і ў самых нечаканых месцах. Бо шчасце стукае ў дзверы, калі яго не чакаеш. Ведама, сваю долю не абыдзеш, не аб'едзеш!

Вось і суседзі мае — Таня Шкаруба і Хведзька — ні ў якія грыбы не збіраліся, ні на што не разлічвалі. Проста вырашылі звадзіць дзяцей першага верасня ў заасад. А чаму ж і не прагуляцца? Яны не алкашы якія, сям'я парадачная, як усе. Яшчэ сястру Таніну меншую з сабою ў заасад узялі. Яна ж спартыўны касцюм на выхад сабе купіла. Штаны сінія, кохта зялёная аксамітная, на спіне бліскучымі літарамі вышыта «Ігуана». Прыгажосць невымоўная, а паказаць няма дзе! Звадь сястру Анжэлаю, тады мода на такія імёны была. А Шкарубавых дзяцей — Данікам і Лізаю. Цяперака ўсе парадачныя людзі толькі так дзяцей і называюць, ну і Таня з Хведзькам не горшыя.

Паехалі, значыць, у заасад яны ўсе разам. Прыпаркаваліся. Купілі вядро папкорну на ўсіх і семачак. А заасад наш — у прыгарадным лесапарку, той самы лес, толькі сцежкі пліткаю выкладзеныя.

Шпацыруюць Шкарубы па тых сцежках, паветрам, значыць, дыхаюць, дзеці папкорн ядуць, Анжэлка ў новым касцюме побач ідзе, семачкі лузгае, азадкам у новых спарціўках круціць. Карацей — усе атрымліваюць асалоду ад сямейнага адпачынку. Цешацца жыццём, перажываючы, як той казаў, найлепшыя яго моманты. На мядзведзя падзівіліся. Пасля дзіка пабачылі. Падсвінак як пасвінак, толькі ў поўсці ўвесь і худаваты, сала, можа, на два пальцы, ды і тое сіверам пахне. Дзеці ўсё каля рабога труса круціліся, пагладзіць хацелі, покуль Таня на іх не гыркнула, маўляў, адыдзіцеся, а то ўкусіць за палец каторага, дык будзе тады, ізноў вожкайся з вамі. На рабоце і так з-за бальнічных з'есці гатовы!

Ну, што рабіць? Пасунуліся на дзікабраза глядзець. Толькі яго за кратамі не пабачылі, здох мусіць. Тады Хведзька й кажа: «Хадзем да зуброў і дахаты, хутка футбол па тэлевізары будзе, колькі можна на сухую швэндацца». Сказаць то сказаў, толькі па-ягонаму не выйшла. Таня, як паўліна агледзела, так да месца і прыляпілася. Мо чвэрць гадзіны прастаяла! «Вой — галёкае — які красавец!» Ай, праўда, галава маленькая, спрытная, а хвост вялікі, стракаты, з водбліскамі. Амаль гэткі ж, як і Анжэлін касцюм. Прыгажосць невымоўная! Каб малы Данік не адцягнуў маці ад таго паўліна, дык, мусіць, яна тамака і засталася б. Але ж да зуброў трэба паспець!

За загародкаю ў чыстым полі пасвіўся зубрыны статак. Вакол поля — чыгуначная каляіна пракладзена, цягнічок з людзямі бегае, а на загарадцы надпіс: «Гарадское сафары. Кошт — 10 рублёў».

«Хачу пакатацца, хачу пакатацца...» — пачала канючыць дванаццацігадовая Ліза.

«Занадта будзе! Паглядзіце адсюль — і досыць. Грошы не лішнія. Толькі з водпуску, а шчэ за кватэру плаціць», — запярэчыў бацька.

Але Ліза не супакойвалася, а працягвала канючыць:

«Пакатацца, пакатацца».

«Я цябе, кабылу такую, у суботу пакатаю! — не сцярпела маці. — За такія грошы ўсе разам да самага Клічава пакатаемся, як бабе бульбу капаць паедзем!»

Ліза, пачуўшы пагрозу наконт бабы і Клічава, сціхла ўмомант. Уся дружная сям'я звярнула на лясную сцяжыну. Тамака месцілася яшчэ адна загарадзь з пухнатым аленем і папярэджанне: «Увага! За вамі назіраюць відэакамеры».

Данік камерамі зацікавіўся больш чым аленем: «Навошта тут камеру павесілі?»

«Гэта каб аленя не ўкралі. Алень рэдкі, замежны. Рогі вялікія, а характар, мусіць, рахманы...» — патлумачыла Анжэла і рушыла напрасткі, дзе, калі верыць указальніку, у вальеры жылі ліса і пясец.

Сцяжына вяла паўз равок, зялёныя шаты над галавою гусцелі, але гэта быў правільны шлях, характэрны смурод сведчыў пра тое. Ужо і лісічку прамінулі, і пясца, звяры харошыя, ды трохі аблезлыя, а смурод усё не разыходзіўся, толькі інакшым зрабіўся.

— Ну, і смярдзючыя гэтыя лісічкі, — жалілася Анжэлка, захінаючыся каўнерыкам. Касцюм мыць давядзецца.

Параўнялася з ёю Таня, уцягнула носам паветра і радасна закрычала:

— Гэта не лісічкі смярдзяць, гэта грыб вясёлка смярдзіць!

— Дык вось жа яны, у пустазеллі пад алешынаю! — адскочыўшы ўбок, выгукнула Анжэлка.

І сапраўды, там, між чыстацелу і крапівы, ля чэзлай алешыны, красавалі яйкі і грыбы. Трохі далей знайшлася і яшчэ адна ладная лапека з вясёлкамі. Узрушаныя сёстры, не баючыся абстрыкацца крапівою, спрытна збіралі іх у пакеты. Дзеці бегалі побач і паказвалі знойдзеныя смярдзючыя скарбы.

— Зноў увесь багажнік запаскудзіце, як летась, калі з Клічава ехалі, — крывіўся Хведзька.

— Маўчы — гэты пах, ён нам змалку знаёмы! — не скаралася Таня.

— Ад болек націрку зробім! — падтрымала сястру Анжэлка.

Грыбнікоў было не стрымаць.

Вось як выйшла добра: і кветкі апраўдалі, і лекі здабылі, і ў грыбы схадзілі! Толькі Шкарубы дахаты вярнуліся — адразу па пляшку пабеглі, каб парэзаныя вясёлкі заліць і ў цёмнае месца паставіць.

Анжэле дык добра. Тая спірту аднекуль прынесла, каб за каня разлічыцца. На суботу ж дагаварваліся з канём, каб разараць барозны і пачаць капаць бульбу ў мацеры.

Грыб — ён энергію сонца не бярэ, крухмал не вырацоўвае, усім гатовым з зямлі харчуецца, як чарвяк. Хоць карані мае як бульба.

Напалову расліна, напалову, значыць, жывёла — а гарэлку жлукціць як чалавек. Чацвяртушку ўсмактаў — і яму мала.

Усё ж такі ёсць у жыцці месца сапраўдным цудам, што ні кажыце!

Улетку на бацькаўшчыне ў гушчарах дзікіх шукалі Шкарубы вясёлку — без толку! А тут, у горадзе лічы, людзі натоўпам ходзяць — і на табе! Праўду дзяды казалі: для кожнага чалавека свой грыб ёсць. Старыя людзі, яны знаюць...



Грыб-вясёлка паскудна пахне, але яго настойкі выкарыстоўваюць у народнай медыцыне



**Таццяна Барысік**

Нар. 1977. Каранямі — з мяжы Глускага, Бабруйскага, Асіповіцкага раёнаў. Скончыла факультэт дашкольнага выхавання Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1999). Працавала ў школах Бабруйскага і Магілёўскага раёнаў. Цяпер жыве ў Магілёве. Робіць на станцыі фільтрацыі. Аўтар самвыдатаўскага зборніка паэзіі «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік» (Асіповічы, 2003), зборніка апавяданняў «Жанчына і леапард» (2014). Лаўрэатка 2-й прэміі Ежы Гедройца — 2015. «Я з тае шматлікае кагорты беларусаў, што ад зямлі адарваліся, але ў вырай не паляцелі», — кажа яна пра сябе.

# У Клюшчанах згарэў касцёл XVIII ст. у якім служыў паэт Казімір Сваяк

Раніцай 6 чэрвеня ў вёсцы Клюшчаны Астравецкага раёна згарэў стары драўляны касцёл Святога Яхіма.

«У шэсць гадзін раніцы чалавек, які жыве недалёка ад касцёла, пабачыў у вокнах касцёла агонь. Адразу выклікаў пажарных, яны хутка прыляцелі, але ўжо не было чаго ратаваць», — расказвае пчаляр Алесь Марозік, які жыве ў Клюшчанах.

Касцёл Святога Яхіма пабудаваны ў 1726 годзе, быў зачынены ў 1948, але вернуты вернікам і адбудаваны ў 1990. У 1915-м невялікі прамежак часу тут служыў вядомы паэт, а таксама каталіцкі святар Кастанты Стаповіч, вядомы таксама пад сваім літаратурным псеўданімам Казімір Сваяк.

«Нічога не ўдалося ўратаваць. Толькі выцягнулі кнігу 1887 года з архівамі, але нават яна напалову згарэла», — працягвае Марозік.

Прэс-сакратарка Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях Наталля Жывалеўская пацвердзіла «НН», што касцёл згарэў дашчэнту. Пакуль у МНС няма дакладнай інфармацыі, што сталася прычынай узгарання.

Імша ў клюшчанскім касцёле праходзіла штотыдзень, у нядзелі, на яе прыязджаў ксёндз з суседніх Міхалішак.

**Зміцер Панкавец**


ФОТА АЛЕСЯ МАРОЗІКА

## Анекдоты і жарты

— Мне ўжо 35, а пачуваюся, як у васямнаццаць!

— Усё такі ж бадзёры, энергічны і амбіцыйны?

— Усё так жа без жылля, грошай і працы....

* * *

Ідэальныя суседзі — гэта тыя, пра якіх астатнія суседзі думаюць, што ў гэтай кватэры ніхто не жыве!

* * *

— Ну чаго табе не хапае? На футбол, хакей, рыбалку ходзім, матацыкл табе купіў, у баксёрскую секцыю аддаў, ну што яшчэ?

— Я дзяўчынка, тата.

* * *

— Здароў, Янка. У цябе ёсць 50 рублёў да заробку?

— Так, Алесь, ёсць. Можаш за мяне не хвалявацца!

* * *

— Бабуля, чаму ў цябе такая маленькая пенсія?

— Вырасцеш, даведаешся.

* * *

Калі я памру ў сне, людзі будуць казаць: «Ну, хоць памёр, займаючыся любімай справай».

## «НН» 111 гадоў з вамі

28 мая ў рэдакцыі беларускай газеты «Наша Ніва» зрабіла паліцыя обыск. Паліцыі найшло 15 чалавек — цэлае войска! Але нічога «падазрыцельнага» не знайшлі. Забралі толькі больш тысячы штук кніжкі беларускай «Што такое свабода», хоць яе і пусціла цэнзура, і 3 штукі «Зямельнай справы ў Новай Зеландыі».

**«НН». №21. 1907**

У Бялынічах закінутую вёску ператварылі ў сад. У Падзевічах сёння жыве 70 чалавек, але колькасць насельніцтва тут з кожным годам памяншаецца. Людзі старэюць, у іх не стае сіл апрацоўваць зямлю. Што ж рабіць з безгаспадарнымі палеткамі? У СВК «Саўгас «Падзевічы» вырашылі пасадзіць на гэтай кінутай зямлі сад. Рабочыя саўгаса накапалі ў лесе «дзічак» — яблынь і груш. І на ўчастку памерам больш за гектар пасадзілі некалькі соцень дрэў. А ў вёсцы Заполле жыве мясцовы «мічурынец» Сяргей Мінчук. Садавод узяўся зрабіць прышчэпкі і ў новым падзевіцкім садзе.

**«НН». 8 чэрвеня 2007**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
наместнікі галоўнага рэдактара Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 5143. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.06.2017.
Замова №2159.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 17006


Пярсцёнкі ў гняздзечку на падушцы з моху.

# Горка!

**Вяселле ў нацыянальным стылі: піярменеджарка Адар'я Яцэвіч і праграміст Павел Шут гулялі яго ў сядзібе «Лясная паляна».**

**Строі для маладых і іх бацькоў вырабіла беларуская дызайнерка Настасся Фалькові̇ч.**

**Што тычыцца вясельнага антуражу, то тут маладым дапамаглі бабуліны рэчы.«Мы звярнуліся да дэкаратара і паказалі ўсе дзяругі, ручнікі і набажнікі, што бабуля са слязамі радасці зняла з гарышча для любімых унукаў, — дадае Павел. — Запрашэнні для гасцей друкавалі на бабуліным нябеленым ільне, яму год 50, не менш. Дэкаратарка Кацярына Мытнік спалучыла ўсё гэта ў аздабленні аркі, залы, сталоў. Мы прасілі нічога не набываць і па максімуме выкарыстоўваць сваё. Ведаеце, у такіх рэчах — неверагодная энергетыка, з імі любое свята атрымаецца душэўным», — расказвае Адар'я Яцэвіч.**


Нявеста з бабуляй